# ЯНКА КУПАЛА

# ЗБОР ТВОРАЎ

т. I

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ
МЕНСК - 1925

ЯНКА КУПАЛА

# ЗБОР ТВОРАЎ

## ТОМ ПЕРШЫ

*ЖАЛЕЙКА-ГУСЬЛЯР*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1925





# ЯНКА КУПАЛА

## (Крытычна-біографічны нарыс)

На сходзе дзевятнаццатага сталецьця беларуская літаратура мела ўжо пад сабою досыць крэпкі грунт і багатую глебу для далейшага свайго разьвіцьця. Творчасьць Ф. Багушэвіча, Яна Няслухоўскага і інш. пусьціла глыбокае карэньне ў рады маладое беларускае дробнашляхецкае і разначыннае інтэлігэнцыі. Студэнцтва вышэйшых установ, якое лёгка паддавалася ўплыву ідэй політычна-экономічнага вызваленьня, спачуваюча сустракала ідэю нацыянальнага вызваленьня Беларусі, якое выказвалася ў тыя часы, галоўным чынам, у разьвіцьці беларускага пісьменства. Праца нацыянальна-соцыялістычных партый у Беларусі, як ППС, Бунд, С.-Д. Літвы і Польшчы, а таксама павінная ўвага нацыянальнаму пытаньню ў програмах агульна-расійскіх соцыялістычных партый спрыялі шпаркаму росту прыхільнікаў беларускага нацыянальна-культурнага вызваленьня. Гурткі беларускіх студэнтаў у Пецярбурзе, Маскве, Менску і інш. упяршыню выяўляюць сабою пачатковыя організацыйныя формы гэтага руху.

З ліку студэнцтва выходзяць новыя беларускія пісьменьнікі, якія паглыбляюць соцыяльны характар у беларускай літаратуры, захапляюцца павевамі народніцтва і прыдаюць ёй больш, калі можна выказацца так, дэмократычны адбітак. К. Каганец, Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі)—пісьменьнікі, Ян Луцкевіч, А. Грыневіч, Альгэрд Бульба—публіцыстыя, прадстаўнікі дэмократычнай інтэлігэнцыі, сваю літарацкую працу цесна зьвязваюць з працаю політычна-грамадзянскаю, зьліваючыся з соцыялістычнымі партыямі (К. Каганец).

Гэткім чынам, 90 годы пеpaкладаюць к гадом дзевяцісотым дваццатага сталецьця шырокі мост, па якім ужо ў 1903 годзе праходзіць беларуская політычная партыя „Беларуская Рэволюцыйная (а пасьля Соцыялістычная) Грамада“.

Адбываецца цеснае перапляценьне нацыянальна-культурнае працы ніткамі социялізму і рэволюцыйнасьці.

Далейшае поле для працы—сялянства, якое, зразумела, галоўным чынам, і зацікаўлена ў тым, каб вызваліцца з прыгону социяльна-політычнага і нацыянальнага. Польскія аграры, расійскія чыноўнікі і панаваньне ў краі наднароднае буржуазнае, офіцыяльнае культуры прыгнятацеляў—стварала соцыяльныя ўмовы для ўзросту культуры протэстуючай, народнай, рэволюцыйнай, якая-бы афармляла і культывавала нацыянальна-клясавы протэст. Гэтыя абставіны напіралі на музу беларускіх пісьменьнікаў, на перадавыя слаі беларускае інтэлігэнцыі. І ў скутку няўхільны загіб у бок рэволюцыйнасьці прыняў і ўвесь гэнэзіс разьвіцьця беларускае культуры і, асабова, літаратуры. Прышоўшая ў 1904 годзе ў літаратуру пясьнярка Цётка, будучы сябрам Беларускай Соцыялістычнай Грамады, сваімі вершамі кідае лёзунгі паўстаньня ў гушчы політычна-абуджанага сялянства і гарадзкога рамесьніцтва. Гэтак што знатны 1905 год сустракаецца беларускай літаратурай гымнамі, літаньнямі. Адзначанае падгатаўляе шлях да выяўленьня новых сіл ужо з гушчы самое працоўнае клясы. Хвалі рэволюцыйнага ўздыму, што разгайдалі іх рабочыя і сяляне, скаланулі скрэпы нацыянальнага ўціску і культурнага застою. Паўстае творчы дух у самых працоўных гушчах беларускіх. Адзнаньне павіннага культурна-нацыянальнага адраджэньня разьліваецца па шэрых абшарах вясковай краіны, успрымаецца шырокімі коламі народнае інтэлігэнцыі, перадавым сялянствам ды рамесьніцтвам; вырастае рашучая гатоўнасьць да яе вытварэньня і... пачынаецца новы тэрмін у справе разьвіцьця маладое беларускае літаратуры, яе зродненьне з народнай стыхіяй, яе абнародваньне.

У гэты вось момант і зьяўляецца на сцэну першы пасланец у літаратуру ад працоўнага сялянства, яго наступны баян і трубадур, Янка Купала. Ён, як-бы ў моц гістарычнае прымхі, нараджаецца з полымя вялікае рэволюцыі, каб апаліць у ёй сваю музу і загартаваным выйсьці на няроўны шлях свае працы. Уперадзе прарастала храсткамі атрутлівая рэакцыя, згушчаліся хмары, каб загасіць проблескі свабоды—політычнай і нацыянальнай, а гасьцінец змаганьня звужваўся, зарастаў калючкамі—політычная сытуацыя суліла нядобрае.

Але знарок насустрэч ёй уверана пазіраў новы, малады пясьняр, прышоўшы ў горад з глухіх куткоў узбунтаванае, парушанае Беларусі, лапцюжнай, мякіннай, дагэтуль няведанай ды нязнанай. Прышоў, каб сказаць пра яе, ужо пачуўшую воклічы Цёткі, гукі К. Каганца, мары Ядвігіна Ш., словамі мужычых думак, мужычае гардлівасьці, вартасьці чалавечай у твары загнанага нявольніка:

Што я мужык, усе тут знаюць
І як ёсьць гэты сьвет вялік,
З мяне сьмяюцца, пагарджаюць,
Бо я—мужык, дурны мужык...
І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць, бо я мужык!..

Так, „мужык-чалавек“, як той вол рабочы, бо дурны „мужык“, „цёмны—ня мае грошы на патрэбу“. Чаму? Таму, што цёмны, што ня мае мажлівасьці знайсьці выйсьце, каб сьмела і рэзка парваць векавечную цеганіну маўклівасьці і гараваньня. У гэтым першым вершы Янка Купала выпукла і выразна перадаў настрой селяніна-працоўніка, селяніна, які адплюшчыў вочы і выглядзеў стан свайго жыцьця, зразумеў яго цяжасьць, зразумеў сваю вартасьць. І ў гэтым першым вершы ўжо сьвядома выдаецца адзнаньне поэтаю клясавых прычын таго, што „мужык-беларус—усіх корміць сваёю працаю, а сам мякіначку есьць“. Адзнаньне, што ў гэтай неправіловасьці соцыяльнай закладзена асноўная прычына клясавых супярэчнасьцяй, якія прыціснулі селяніна і з якіх, зразумела,—выйсьце адно: зрабіць, каб „мужык-чалавек“ стаў панам тых багацьцяў, якія дабываюцца „сахою й касою“, „валоваю працаю“.

Поэта зьяўляецца сынам свае эпохі і тых соцыяльных умоў, якія справаджаюць яго нараджэньне, яго жыцьцё. Янка Купала—селянін. Нарадзіўся ў фольварку Вязанка Заслаўскай воласьці, Менскага павету і губэрні (1882 г. 25 чэрвеня ст. ст.). Бацькі—арандатары зямлі. Продкам поэты за нейкую выслугу перад кн. Радзівілам дасталася зямля, на якой узьнік засьценак Пяскі, заселены сям'ёю Луцэвічаў. Яны абраблямі гэту зямлю, плацячы чынш. Але ўжо дзеда поэты „міласьцівы“ князь выкінуў з зямлі; бацька Купалы з бра-

тамі мусіў шукаць скутку ў іншых мясцох. Удалося заарандаваць фольварак „Камень“ каля мястэчку Івянец, ды што-ж— не надоўга. Ізноў бацька пераехаў на новае месца, на гэты раз у фольварак Раговічы Набароўскага Старасельскай валасьці, Менскага павету і губэрні. У гэтым месцы бацька жаніўся на сялянцы Бэнігне Валасэвіч з фольварку Няшота Рубяжэвіцкай вол., Менскай губэрні (у 1879 г.). Але ўжо праз год бацькі поэты пераехалі з Раговіч у м. Паморшчына пана Зьдзяхоўскага, каля Ракава, у якасьці слугі, адкуль праз год перабраліся да братоў бацькі ў фольварак Вязынка Замбржыцкага Менскага павету, Заслаўскай воласьці. У Вязынцы якраз і радзіўся наш поэта 25 чэрвеня старога стылю 1882 г. Сям'я пабольшылася, уцяжыла свой стан. Бацьком прышлося яшчэ многа раз пераходзіць з месца на месца, шукаючы то зямлі, то службы. Пры гэтым вандраваньні па абшарах Беларусі поэта рос, выхоўваўся, вучыўся, набіраючыся непасрэдных уплываў ад вакольнага жыцьця беларускага селяніна, парабка-найміта, дробнага панскага служкі. Чулая душа Янкі ўбірала ў сябе ўсе праявы ў сельскім жыцьці і адбівала іх у сабе з портрэтнаю яркасьцю. Нягоды, зьвязаныя з бяспрытульнасьцю ў сваёй сям'і, паглыблялі яго ачуласьць і ўспрыяцьце наступнага поэты. На 13 годзе ўмірае бацька Янкі. Поэта становіцца ўдзельнікам цяжкага стану сям'і, сам робіцца яго ахвяраю. І яшчэ гастрэй пранікае ў яго думкі неадхільнае пытаньне: чаму іх сям'і так цяжка, а тут-жа, помеж, паном, так добра жывецца? Малады розум настойна шукае вырашэньня гэтага пытаньня. І калі з яго ўзростам і сталасьцю прычыны соцыяльнае несправядлівасьці праясьняюцца, Янка, бяручыся за пяро, за напісаньне сваіх першых вершаў, укладае ў іх зычныя мотывы ня толькі рэволюцыйнасьці, а і клясавых адзнак. Пачуцьцё дыктуе словы, якімі выразна падкрэсьліваюцца дагэтуль нявыказаныя, насьпеўшыя, узьвіхраныя думкі і імкненьні беларускіх працоўных гушч.

Верш, надасланы і надрукаваны ў „Северо-Западном крае“—„Мужык“—адзін з цыклю першых рэволюцыйных вершаў Купалы, выпадкова надрукаваны. Іншыя, якія Я. Купала пасылаў для друку, не маглі быць надрукаванымі па сваёй рэволюцыйнасьці. Ды ня толькі расійскія газэты паступова-лібэральнага характару, а пасьля нат' „Наша Доля“—

газэта Беларускае Соцыялістычнае Грамады—і „Наша Ніва“ на працягу ўсяго 1906 г. не асьмельваліся пускаць Янкавых вершаў таго часу[1]). Ужо некалькі пазьней у галіцыйскім друку, дзе даваўся крытычны агляд поэзіі Янкі Купалы, было прыведзена некалькі забароненых у тагочаснай Расіі яго вершаў.

Само сабою зразумела, што Янка Купала ня мог па складу сваіх думак, па сваім выхаваньні, якое йшло ў цяжкіх умовах сялянскага ды службовага (у панскіх дварох) жыцьця, зацікавіцца мотывамі не грамадзка-політычнага зьместу. То-б перакорыла сутнасьці жыцьцёвых падзей тэорыі соцыяльнага разьвіцьця. Поэту акольваў сьвет клясавых супярэчнасьцяй; ад іх ня мог ён пазбавіцца на працягу ўсёй моладасьці, юнацтва. Наадварот, толькі Янка Купала пасталеў, як на яго лягло ярмо павіннасьці гаспадара, селяніна, і гэтыя супярэчнасьці шчыльна сьціснулі яго з усіх бакоў. Памёршы бацька не пакінуў спадчыны, якая-б магла забясьпечыць сям'ю: цяжкая праца земляроба, а ў перамежку слугача, прытым, няўседнага на адным месцы больш 1-1½ гады,—праца малаўдзячная.

Толькі-толькі хапала на тое, каб пракарміць сям'ю. Даводзілася адрываць ад патрэб жыцьця, каб хоць крыху падвучыць дзяцей. І сям'я пасьля сьмерці бацькі—вялікая сям'я з 8 душ—адчула цяжкія недастачы, нужду.

У дваццаць год мы застаём Купалу прыказчыкам у маёнтку Беліца Сьвяцкага Магілеўскай губ., Сеньненскага павету. Трэба рабіць, каб жыць і памагаць сям'і. З Беліцы ён у 1905 г. перасяляецца ў Сёмкава Менскай губ. за вінакурнага практыканта, а праз год—бацькава доля!—у 1906 г. ў Яхімаўшчызну Віленскай губэрні, Вілейскага павету памоцнікам вінакура, а яшчэ праз год, у 1907 г., у Сноў Менскай губэрні, Навагрудзкага павету, і толькі ў 1908 г. трапляе ў Вільню.

Вандруючы, лётаючы за месцам, дзе-б больш-менш людзка прыстаканіцца, Янка Купала натыкаецца на цяжкія, крэпкія перашкоды. Усюды жыцьцё захоплена тымі, хто яго ня творыць, хто дармаедзтвуе, гультуе, бярэ чужое, незаробленае. І настойна, неадгонна поэту хвалююць агіда, не-

[1]) На вялікі жаль, усе гэтыя вершы загубіліся, і мы ня можам ніводнага з іх прывесьці ў даным нарысе.

здаваленьне, протэст, клясавая нянавісьць да гаспадароў стану. Лера ачула паддаецца навеям гэтага пачуцьця і выцінае на сваіх струнах социяльныя тоны. І цікава, што, помеж з рэволюцыйнасьцю, якая цалкам захапляе Янку Купалу ў пачатку яго творчасьці, выразна, неадступна, у роўнай меры зычаць ноты і нацыянальнага пачуцьця. Поэту вочавідкі, што агульныя ўмовы социяльна-політычнага й экономічнага ўкладу куды цяжэй там, дзе да іх прылучан яшчэ нацыянальны ўціск. Беларусь, якую адну пакуль бачыў і чуў перад сабою Янка Купала, болей іншых краін заціснута ў ярмо няволі, у бяскультурнае завяданьне. Куды поэта ні кідаўся — спатыкаў пана, ашчасьліўленага культураю, чужою і варожаю вагромнай гушчы цёмнага, запрыгоненага беларускага сялянства. Гэта культура ішла для мэты, каб ямчэй абіраць гэта сялянства. І заданьні гэтай культуры падтрымлівала з гарадоў другая варожая культура, культура папоў і чыноўнікаў у выяве сваім у Беларусі. А будаўнік жыцьця ціснуўся, заганяўся ў гэткія ўмовы, з якіх ня ўбачыць сонца, сьвятла.

Гэткая сытуацыя, бязумоўна, абурала Янку Купалу; часамі ён прыходзіў у гнеў і галосна клікаў:

Дружна йдзі, бедны люд, і з зары да зары
Працуй, біся, ня гніся пад лямкай цяжкой.
І за праўду сваю, дачакаўшы пары,
З касой вострай сваёй дружна, сьмела пастой [1]).

А часамі гнеў, ня маючы выйсьця, пераходзіць у адчай: поэту апаноўвае бязвыхаднасьць і здаецца, што нідзе няма мясьцінкі гэткае, а дзе-бы людзі не стагналі,

Дзе-бы сьлёз не цякло, дзе-бы кроў ня плыла [2]).

Яго вольную, непакорную душу інады цягне туды, дзе-б ня ліць сьлёз:

Паляцеў-бы туды, паляцеў-бы з душой [3]).

Занадта згусьцілася гора вакола, ажно не дае спакою, прасьветлае гадзіны. Але чым мацнейшы яго ўціск, тым большая прага ў поэты бегчы

К долі, к волі, гэт, па полі.

---

[1]) „Жалейка". Верш „Касьба", ст. 122.
[2]) Там сама, ст. 61.
[3]) Там сама.

Што гэтая воля дастанецца людзям, працаўніку—Янка Купала не сумляваецца нізваньня. Дзеі рэволюцыі 1905 г.— сьведкамі таму. Гэта-ж вакола волі адбываюцца магутныя бойкі, гэта-ж за ёю

Ідуць людзі—ў крыві грудзі,
Паходні ў руках,

якім

Няма ночы, жарам вочы
Зіяюць, аж страх! [1]).

Яны поэту самога

Абуджаюць, узываюць:
Гэй, на нейкі бой! [2]).

Ваяўнічасьць настрою, бадзёрасьць не пакідаюць Янкі Купалы на працягу доўгага часу: ён жыве з эпохаю, сугалосна з часам грандыёзнага ўздыму працоўных гушч 1905 г. Блізкія ідэалы, што залуналі на сялянскім паземе Беларусі,— родны і мілы поэце. І мы бачым, як глыбока прасякнуты баявітасьцю яго вершы тае пары. Сум і безнадзейнасьць тане ў шырокіх хвалях высокіх парываньняў. Поэта даходзіць да таго, што ў голас рашуча пытае:

Ах, ці доўга, братцы, будзем пад нядоляй мы стагнаць?
Ах, ці доўга сваё шчасьце, сваю долю праклінаць?

І адказвае, што гэтым гору не пасобіш, што вакола працоўнікі ў нядолі ды бядзе, таму, што „самі многа вінаваты“.

Так, віну за цяжкі стан Янка Купала сьвядома ўскладаў на самыя працоўныя гушчы. Гэта ён адмячаў у многіх мясцох у розных варыяцыях. Процілегласьць між панам і сялянствам вельмі гостра кідалася ў вочы—ня бачыць гэтага ён ня мог. І бачачы, не хаваў. Але ў гэты тэрмін мы заўважаем, што поэта ў адзін толькі бок накіроўвае стрэлы сваіх слоў—толькі проціў пана. Горад, як прылада ў руках капіталістых ды самадзяржаўнага правіцельства, адкуль распрасьціралася іх сіла, пакуль не адчувалася поэтаю. Тварам да твару ён стыкаецца выключна з гнёздамі магнатаў-паноў, якія ўсілілі ў свае

[1]) Жалейка, ст. 60.

[2]) Там сама.

сеткі вакольныя вёскі, сялянскую Беларусь. Гэтыя паны— вось соцыяльная хвароба, вось самае горшае ліха на дарозе да прыходу долі. Да іх Купала прарочна кажа:

Пажалей мужыка-бедака,
Пажалей—не адсохне рука...
Пажалей, бо
На свет многа прыдзе бяды,
Бо за крыўду сваю адамсьціць.
Сьвіньням будзе крыві не пабраць.
Адамсьціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць![1]).

І яшчэ ў аднэй варыяцыі:

Не пагарджайце лапцей лазовых,
З імі шануйце цяжкую працу.
Лапатнік корміць пана з палацу.
Часам-жэ лапці—гаю, ой, гаю!—
Выпруць дастатак з нашага краю...[2]).

Пэрыод творчасьці ад пачатку да 1906 году Янка Купала пераважна пасьвячае грамадзянскім напевам. Яны выдаюцца ў кожнай тэме, з якога-б боку ён да яе не падыходзіў. Будзь-то „Жніво“, „Восень“, „Вясельле“, „Каханьне“—усюды спынка на соцыяльных супярэчнасьцях жыцьця, на яго несправядлівасьці ў адносінах да працаўніка.

І ўжо ў гэты пэрыод Янка Купала шчыльна зьвязвае соцыяльныя мотывы з нацыянальнымі. Беларусь фігуруе ў многіх яго вершах, а сам ён сьвядома заве сябе поэтаю беларускім. Аднак большая ўвага гэтаму пытаньню пакідаецца на пасьля. Пакуль пануюць агульныя інтарэсы, абарона якіх нясла політычную свабоду, як мост да свабоды нацыянальнай.

У працягу з 1904 г. па 1907 год Янка Купала напісаў шмат твораў, якія сабраў у адзін зборнік і выслаў у Пецярбург у выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца“. Гэты зборнік абазваў „Жалейкай“, якая-б—

Апявала няволю,
Апявала нядолю
І грымнула свабодна,
Што жыве край родны.

---

[1]) Жалейка, ст. 10.

[2]) Там сама, ст. 11.

Выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца“ выдала яе ў 1908 годзе. І беларуская літаратура зразу абагацілася вялікім дарам. Імя поэты было ўжо вядома беларускаму чытачу. На „Жалейку“ накінуліся, сталі чытаць з захапленьнем. Вершы яе гостра ўрэзваліся ў душу, будзілі надзеі, клікалі наперад, разьбіваючы цемру насеўшай рэакцыі. Кожнае слова, зразумелае, выпуклае, ачулае, біла молатам па струнах душы, застаўляла іх гучэць бадзёрым тонам. Янка Купала пападаў у балючае месца і выклікаў зацікаўленьне да сябе. Калі зварочвалася думка да беларускае літаратуры, то зразу спынялася на Купале. Яго здольнасьць, як поэты, многа абяцаючага, кінулася кожнаму ў вочы і за яго словам пачалі сачыць. „Наша Ніва“ не прадстаўлялася бяз вершу Янкі Купалы, які зразу вырас у корыфея, у непараўнаўчую велічыню. На вочах разьвіваўся, крэп. Кожны новы верш сьведчыў за гэта. У поэты разьвінаўся сьветапогляд, пашыралася рознастайнасьць ахопу, глыбела думка і паднімалася мастацкасьць тэхнікі. У яго творчасьці можна было знайсьці ўсе формы вершаскладаньня, якія дагэтуль у беларускай літаратуры адсутнічалі.

Помеж з гэтым, Янка Купала няўхільна падаваўся ў бок сымболізму. Слабыя налёты яго ўжо выразна адмячаліся ў „Жалейцы“. Але дух эпохі рэволюцыйнага ўздыму, калі „Жалейка“ пісалася, разьвяваў сымболічны одцем. І першы зборнік зьявіўся романтычна-рэалістычным вобразам. Разьвіцьцю сымболістычнага напрамку ў творчасьці Янкі Купалы дапамагала тагочасная політычная сытуацыя.

У 1908 годзе, калі ён трапіў у Вільню і спаткнуўся з разгулам рэакцыі, якая няшчадна распраўлялася з астаткамі свабоды, уціскала духова ўсё паступовае, нельга было радыкальныя думкі ды ідэі выкладаць іначай, чымся сымболямі. Тым болей, калі гэтыя ідэі, як то было з Янкам Купалаю, неабходна вярцеліся вакол аднаго: социяльна-нацыянальнага вызваленьня працоўнай Беларусі. Яму прыходзіцца адшукваць параўнаньні разуменьняў і сымболізаваць іх.

І трэба адзначыць, што таленту ў яго хапіла досыць, каб сымболічнасьць сваіх малюнкаў перадаць прыгожа, нават дасканала. Тыя яго творы, у якіх асабліва густы адбітак сымболізму, дужа сільныя і мастацкія. Возьмем „Адвечную песьню“, надрукованую ў 1910 годзе, „Раскіданае гняздо“,

дробныя вершы. Ад іх так і нясло запаляючым жарам, так і дыхала гневам і помстаю. Вобразы гукалі да ўздыму, наводзячы думку на безнадзейнасьць і страшэнны заняпад працоўнай краіны Беларусі.

У гэтым хавалася тая асабістасьць Янкавага сымболізму, якая адрозьнівала яго ад панаваўшага сымболізму ў расійскай літаратуры. Апошняя згубіла пад яго ўплывам усякую веру, жадную надзею. Расійскія сымболістыя—песьняры і пісьменьнікі—накіравалі сваю музу ў бок апяваньня цялесных патрэб, нізкіх інстынктаў, самалюбаваньня, богашуканьня, мэтафізычнасьці, яны, фактычна, дапамагалі сваім дарам узмацаваньню рэакцыі і душэўнага развалу, адракаючыся ад нядаўных ідэалаў. Бальмонт, Кузьмін, Арцыбашаў, Салагуб, Каменскі і інш. адкрыта палілі старых бажкоў і аддаваліся Наўім чарам, кубкам громакіпячым, Санінум, Ледам. Сымболізм беларускай літаратуры, наадварот, нёс службу романтызму, бо гучэў нотамі прызыву ды протэсту. Янка Купала вельмі рэдка паддаваўся суму, але ніколі апатыі ці душэўнай утоме. Ён цьвёрда, ваяцка перамагаў вакольны жах і, кормячыся сокамі нясупыннага росту беларускага адраджэньня, кідаў праменныя словы сваіх вершаў, як позывы, у беларускія працоўныя гушчы. І гэтыя позывы, ня гледзячы на атульнасьць сымболістычнасьцю, ці то байкавай алегорычнасьцю краталі чытача за жывое, успрымаліся ім і мелі ў яго багатыя скуткі. Гэта можна аднесьці затую здольнасьць, дзякуючы каторай Янка Купала ўмеў (і ўмее) выкладаць думкі, знаходзіць хварбы і падбіраць тоны.

З 1908 году ў віленскіх часопісях упяршыню зьявіліся біографічныя весткі аб Янку Купале. У гэтым годзе, працуючы бібліотэкарам у бібліотэцы Б. Л. Даніловіча ў Вільні, ён меў мажлівасьць папаўняць чытаньнем кніжак свой сьветапогляд, пашыраць паземы. Гэта служба таксама давала яму мажлівасьць удзяляць часу для быванья ў рэдакцыі „Нашае Нівы“, у гуртках інтэлігэнцыі, дзе нясупынна кавалася ідэя і намячаліся пэрспэктывы ў справе нацыянальна-культурнага і соцыяльна-экономічнага будаўніцтва Беларусі. Янка Купала чэрпаў натхненьне, набіраўся сіл і веры для свае творчасьці. Аднак, Вільня хутка яго не здавальняе—усё-ж провінцыя. А праца, за якую яго пасадзіла жыцьцё, місыя песьняра-

агалосьніка працоўнае Беларусі, вымагала большых вед, глыбейшага пазнаньня. І ён у 1909 годзе накіроўваецца ў Ленінград. Там гэтым часам ужо працавала беларускае выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца“ на чале з вядомым беларускім адраджэнцам Б. І. Эпімах-Шыпілам. Вакола выдавецтва гуртавалася беларуская грамадзкая думка. Абуранае нацыянальна-адраджэнцкай ідэяй, беларускае студэнцтва самаахвярна працавала над выданьнем кніжок, над арганізацыяй спэктакляў і інш. Б. І. Эпімах-Шыпіла, аддаючы большасьць сваіх заработкаў ад профэсарскае службы, як мага падтрымліваў беларускую культурную справу, дапамагаючы часта бедным студэнтам і пісьменьнікам беларускім. Да сябе запрашае Б. І. Эпімах-Шыпіла і Янку Купалу, які жыве ў яго з 1909 па 1913 год.

Жывучы ў Пецярбурзе, Янка Купала стараўся папоўніць асьвету і скончыў агульна-асьветныя курсы Чарняева. Гэта было вялікай дапамогай поэту, які ўсё сваё вучэньне ўкладаў у народнае вучылішча, скончанае ім у Беларучах, ды ў тыя лекцыі вандроўных настаўнікаў Стацкевіча і Ляскоўскага, якія ён слухаў па розных мясцох свайго быв аньня. Спроба ў юнацтве пасунуцца далей, хоць-бы папасьці ў рэальнае вучылішча, куды яго падгатаваў быў дырэктар гэтага вучылішча (і настаўнік Янкі Купалы) У. І. Самойла, была перанята бацькам поэты; апошняму выгадней было, каб сын пасабляў яму ў земляробстве, ніж займаўся навукамі... Прышлося наганяць цяпер.

На пэрыод з 1908 г. па 1913 год, калі Янка Купала жыў у Вільні і Ленінградзе, выпадае найбольшая яго плоднасьць. У Вільні ён напісаў другі свой зборнік вершаў „Гусьляр“, які вышаў у 1910 г. ў выдавецтве „Загляне сонца і ў наша ваконца“, адначасова прымаючы дзейны ўдзел у „Нашай Ніве“. На творчасьці Янкі Купалы ў гэтыя годы ўзрасталі маладзейшыя пісьменьнікі, гуртаваліся вакол яго песень маладыя сілы сельска-рамесьніцкай беларускай інтэлігэнцыі. Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух з часу выйсьця ў сьвет „Гусьляра“ на гэтульκі вырас і акрэп, што на яго не маглі не зьвярнуць свае ўвагі суседнія беларускаму народу. Нарысы аб разьвіцьці беларускае культуры наогул і літаратуры—ў асобку сталі зьяўляцца ў польскай, украінскай, расійскай і чэскай прэсе. Беларуская літаратура

прыхільна сустракалася, яе нараджэньне віталі ўсе, хто-б ня кратаў гэтага пытаньня. І вось, у крытычна-аглядных артыкулах, пасьвечаных беларускай літаратуры, мы сустракаем цэлы шэраг думак аб Янку Купале, як аб найвыдатнейшым прадстаўніку тагочаснага стану гэтай літаратуры. Гэтак, Адольф Чэрны ў часопісі „Прагляд Славянскі“ ў артыкуле беларускія нацыянальныя і культурныя імкненьні ў 1909-1910 г.“ [1]) піша: „Да самых популярных маладых поэтаў належыць Янка Купала, з творамі каторага спатыкаемся ў 1907 г. ў „Нашай Ніве“. Поэзія яго мае беспасрэдны грунт народны, бо ён—дзіця беларускай вёскі, самавук; ён прачувае долю народу, апявае яго сум, *працу*, жальбу і беднае жыцьцё“. Тых-жа думак трымаецца проф. А. Пагодзін у сваім артыкуле „Белорусские поэты“ („Вестник Европы“—студзень, 1911 г.), пр. Янчук і інш.

Янку Купалу, як народнага поэту, прызнаюць усе аглядальнікі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня ў 1910-1911 г. Але Адольф Чэрны, проф. А. Пагодзін і інш., пішучы свае артыкулы, мелі справу з першымі творамі Янкі Купалы, якія ўвашлі ў „Жалейку“. Па сваёй тэхнічнай вартасьці, па сваёй поэтычнасьці, бязумоўна, яны не давалі таго, што давалі вершы пазьнейшага часу, сабраныя ў „Гусьляры“. Гэты зборнік яскрава засьведчыў нясупынны рост таленту Я. Купалы. Шырына ахопу, дасканаласьць формы і тэхнікі, багацьце тэматычнага зьместу далёка адрозьнівалі „Гусьляра“ ад „Жалейкі“, прыдаючы аўтару ўсё большую вядомасьць.

У Пецярбурзе, дзе ён выдаў першы драматычны твор „Паўлінка“ (1912 г.), сымболічную поэму „Сон на кургане“ (1912 г.) і найбагатшы збор вершаў „Шляхам жыцьця“ (1913 г.), вядомасьць Янкі Купалы заходзіць вельмі далёка: ім зацікаўліваецца цэлы шэраг расійскіх пісьменьнікаў (І. Белавусаў, А. Корынфскі, Е. Нячаеў, Н. Ашукін, а пазьней і В. Брусаў) і перакладаюць яго творы на расійскую мову [2]). Вершы яго перакладаюцца таксама на польскую, украінскую і літоўскую мовы.

---

[1]) Adolf Cerny. Slovanskij Prehled Ročnik XIII. 1911, ст. 217—223, 401—416.

[2]) Перакладзеныя на расійскую мову вершы Янкі Купалы выданы асобным зборнікам: „Янка Купала и белорусский поэт, избранные стихотворения в переводах русских поэтов. С биографическим очерком и портретом“. Собрал и редактировал Ив. Белоусов. Издание Белорусского под'отдела отдела просвещения национальных меньшинств Н. К. П. Москва, 1919 г.

І далей ува ўсіх, як і ў „Жалейцы“, адмечаных творах Янкі Купалы, зьмешчаных у „Гусьляры“, ідэя нязьменна адна: вызваленьне працоўных гушчаў Беларусі з экономічна-нацыянальнага ўціску. Напевы соцыяльнага зьместу—пераважны: яны захапляюць аўтара. Толькі паціхай часамі ўступаюць месца вобразам беларускае прыроды. Янка Купала трымаецца раз абранага шляху—змагацца сілаю мастацкага слова за сваю краіну. Чым болей сталеў яго талент, тым глыбей прасякаўся поэта пачуцьцём патрыотызму, пачуцьцём заўзятага ваяўніка, нават духовага правадыра. Моц, якая зычэла ў яго вершах, раўнялася моцы надзвычайнага трыбуна, які кліча і вядзе масы сілаю слова.

Песьня мая ня шукае чырвонцаў—
Будучнасьць гэткіх ня знойдзе ў ёй плям,
Жыць хоча толькі ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцы ўсім добрым людзям.
Пеці, і з часам у добрую пору
*Выклікаць водклік у сонным сяле...*
Ўсю Беларусь, неабнятну, як мора,
Ўбачыць у ясным, як сонца, сьвятле[1]).

Грунт Янкі Купалы—вясковая, зрэбная Беларусь. Яна на яго вокліч, зразумелы, блізкі, давала „водклік“, паперш, успрыняцьцем роднага слова, а пасьля—вялікаю цягаю да вызваленьня і будаўніцтва працоўнае рэспублікі. Так, якбы ні стараліся іншыя бачыць у Янку Купале выключна нацыянальнага адраджэнца, нельга ўлажыць творчасьці поэты ў гэтыя рамкі. Наадварот, усе мотывы аб „бацькаўшчыне“ прасякнуты наспрэс глыбокімі соцыяльнымі нотамі. Для яго быў дараг „водклік у сонным сяле“; сяло—вось дзе ён бачыў Беларусь. І ў „Гусьляры“, і ў „Шляхам жыцьця“ той самы мужык, з якім Янка Купала паказаўся перад сьветам, забірае галоўную ўвагу ў яго грамадзянскіх мотывах. Асабіста, у „Шляхам жыцьця“ (вышаў у 1913 годзе ў Пецярбурзе) адведзены цэлы аддзел „Наша вёска“, пасьвечаны мужыку, яго долі, жаданьням, умовам яго жыцьця і рознастайным праявам гэтага жыцьця. Пры гэтым, дужа цікава, што поэту вельмі займае і процэс працы: ён падае вобразы яе ў розных варыяцыях—за сахою, з сярпом, з

[1]) „Шляхам жыцьця“, ст. 3.

касою, з шылам (шавец) і інш. І кожны выгляд працы хавае пад сабою асабовую дробязь аднэй вялікай гамы труду, які аддаецца на справу вызваленьня. Ад таго—заўсюды, кожны верш, пасьвечаны працы, канчаецца ў поэты праменнаю вераю:

Вецер і моц, знаць, табе прынясе
З песьняй магучай, як воля,
Што перастоіш палацы ты ўсе,
Станеш да бою з нядоляй [1]).

Альбо:

Ты—пан, ты—багаты, ты—сіла, араты!
Ты ў крыўду ня даўся-б другім:
Знай, шмат каму трэба з тваёй працы хлеба,
Дый сам ты галодзен саўсім.
Дык выпрамся-ж крошку, дый жыва за сошку,
Ды ў поле, к вялікай арбе!
Бач, можа і долю ў няўродлівым полі
Ты выарэш, братка, сабе... [2])

І яшчэ:

Песьню пей і касі, пакуль ясныя дні,
Пакуль хмараў на небе няма;
Зямля, плуг і каса—гэта наша краса,
Гэта наша пацеха адна [3]).

Хмары былі ў той час, калі Янка Купала пісаў гэта, былі цёмныя хмары і засьцілалі яны небныя паземы—рэдка было бачыць яснае сьвятло. Таму-та гэтак горача і кліча да яго поэта; кліча, часамі, занепадаючы ў тугу... праўда, не таму, што яго абурае бязьвер'е, а дзеля таго, каб указкаю на цяжарнейшы стан вёскі і селяніна падбіць на шчырэйшае адчуваньне бадзёрых тонаў. А хто-б мог ня плакаць над змучанай, прыдушанай беларускаю вёскаю? Тым болей, яе сын, поэта? Янка Купала зрэдку даходзіць да мінорнасьці. Доля безьзямельніка наводзіць на гэта. Але рэдкія хвіліны безнадзейнасьці хутка мінаюць, акупаючыся новым уздымам надзейнасьці, веры. Абураны імі поэта кажа:

---

[1]) „Шляхам жыцьця“, ст. 108.
[2]) Там сама, ст. 118.
[3]) Там сама, ст. 120.

На вялікім сьвеце б'е жыцьцё крыніцай;
Барацьба за волю і за долю рдзее,
Маюць панаваньне вера і надзея,
Асьвяціць народы лепшы быт маніцца [1]).

Бачыць:

Прашло засьляпеньне, мінае трывога,
На небе ўжо новая відня зара.
Шырок прада мною гасьцінец-дарога.
Ўжо днее, ўжо днее!..[2])

Верыць:

Ночка цёмная на сьвеце
Вечна не начуе [3]).

Упэўнены, што

К свабодзе, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед,—
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед! [4])

У часы страшэннае рэакцыі 1910-1911 г. г. гэтага было досыць для грамадзяніна-поэты. На шэрым фоне тагочаснага жыцьця падобныя словы поэты аддавалі сапраўднай праменнай рэволюцыйнасьцю. Хацець большага, прымяраючы на локаць іншага часу, іншых умоў? Болей, як наіўна.

Янка Купала ўзносіўся высока над акольным жыцьцём, кідаючы напевы сваіх бадзёрых, спадзейных песень. Радасны настрой, часта сягаючы да патэтыкі, справодзіў яго неадменна пры напісаньні „Гусьляра" і „Шляхам жыцьця".

Многа гэтага пачуцьця і ў лірычных вершах Янкі Купалы. Сочныя вобразы, квітучасьць, яскравасьць хварб яго лірыкі асабліва лашчаць нутро. Так і чуеш, як буяе ды пушніць паўната жыцьця.

І зелень, і кветкі, і песьні,
І неба вясёлая яснасьць...
Ні цьмы тэй, ні сьнегавай плесьні,
Дзе глянеш—адна, братка, шчаснасьць.

---

[1]) „Шляхам жыцьця", стар. 54.
[2]) Там сама, ст. 140.
[3]) Там сама, ст. 142.
[4]) Там сама, ст. 144.

Сьвет цэлы зіяе каберцам,
Шум нейкі ад пушчаў нясецца,
З грудзей, як ня выскача сэрца,
Душа кудысь рвецца... ўсё рвецца...
Прачнуліся нівы і хаты:
Уся ў полі людзкая сямейка;
За сошкай шнуруе араты,
Ля статку іграе жалейка;
З сяўнёю сявец пахаджае,
На скібіны валіцца зерне,
Знаць, сіла ў сяўца не малая...
Захоча—і сьвет пераверне!
Гэй, гэй, хлебаробе мазольны,
Пан сошкі, і коскі, і поля!
Кінь выгляд сьлязьлівы, нявольны:
*У тваіх руках слава і доля!*[1])

І характэрна, што часта да прыгожасьці натуры поэтаю прыдаецца той ці іншы элемэнт з процэсу сялянскае працы, з галіны думак і надзей селяніна. За правіла ўзята Янкаю Купалам—увесь пераплёт, усю гаму сваіх зыкаў браць фонам для малюнку на ім праяў людзкога, сялянскага жыцьця ў абойме ўсяе Беларусі.

Лірыка і вялікая колькасьць баек (цэлы аддзел у зборніку „Шляхам жыцьця") прыстасаваны ім да агульнага вобразу—у сучаснасьці і ў наступным—працоўнай Беларусі. Сучаснасьць—у выяве яе да часу заснаваньня Беларускай Савецкай Рэспублікі—гняла Янку Купалу, ціснучы яго душу, усягды маладую, загартаваную і поўную веры. Гэты ўціск, прызнацца, досыць прыкметны, асабліва ў яго лірычных творах. Але пераказваем і сьцьвярджаем, што на мінорных тонах ён нядоўга спыняўся, часта знарочыста прыдаючы чорнае хварбы сваім палотнам. Наступнае, інтуіцыйна прачуванае ім, цягнула песьняра да сябе, надаючы яскравай натхненнасьці, спадзяванак. Можна даць шмат прыкладаў таму, што творы Янкі Купалы, у якіх поэта чапае будучыны, жаданьняў, веры,—тыя творы блішчаць асабліваю здольнасьцю і беспасрэдным пачуцьцём свайго творцы. Прымяраючы квадры году да сымболізаваньня людзкога жыцьця, Янка Купала топіць у хвалях радасных напеваў аб вясьне і леце

[1]) „Шляхам жыцьця", ст. 75.

напевы асеньняга і зімовага часу. Час красаваньня, пасьпяваньня, час кіпучасьці жыцьцёвай, нараджэньня—абганяе, перамагае хвілі заміраньня, нудных завываў ветру і галеючых садоў.

Сонейка, рэчка, вольха, дзяўчына
Думцы ўсьміхаюцца соладка, дзіўна,
Думка іх шчыра вітае [1]).

Янка Купала жыве ў нясупынным паланьні, гартуецца маладымі сокамі жыцьця. Усю прыгожасьць, усю пекнату абымае сваймі думкамі і чуцьцём сваім і... вельмі абураны, што соцыяльныя ўмовы вытвараюць вялікую несправядлівасьць у адносінах між людзкою грамадою і развоем прыроды. Чаму-б кветкамі ды зеленьню вясны не палюбавацца, не палагодзіцца кожнаму, кожнаму селяніну, працаўніку? Няўжо яго сэрца не адчувае цягі да гэтага? Няўжо ўсё хараство створана тым, „хто багаты, адзеты і сыты?“ Не! Пераконаны поэта...

Негаданай песьняй-казкай
Разыграецца часіна...
З сонцам, з сэрцам, з вечнай ласкай
Не прасьпі вясны, дзяўчына [2]).

У нутры Янкі Купалы, як на фотографічным шкелку, адбіваліся ўсе вібрацыі з жыцьця Беларусі. Ідэі і іх выяўленьні не праходзілі паміж яго пачуцьця.

Праўда, зацяжная рэакцыя, зьвязаная з незавідным экономічным станам, у якім жыў пясьняр, не магла не адбіцца на яго настроі. Памерны ўзрост соцыяльна-нацыянальнага руху перад вайною не абяцаў таго, што прынесла вайна. І сяганьні ў наступнае, і вера ў шчаснае жыцьцё—належаць моцнасьці і перадчуванасьці поэтавай. Становішча цяжка гняло. Максім Багдановіч часта пытаўся, ці хопіць сілы перажыць грамадзкае гора, а Якуб Колас ападаў у цёмны пэсымізм, і трэба было быць Янкам Купалаю, каб заставацца оптымістым, уверанным у нямінучы прыход лепшых дзён:

Глядзі, ўскалышацца, прачнецца
*Мільённы, прыспаны народ* [3]).

Гэта ў 1912 годзе!

---

[1]) „Шляхам жыцьця“, ст. 76.

[2]) Там сама, ст. 88.

[3]) Там сама, ст. 159.

І толькі адзін, выразна трывожны момант можна адзначыць у творчым жыцьці поэты. Гэта—момант абвяшчэньня сусьветнай вайны. Зьвязаны ўсімі фібрамі свае істоты з Беларускай краінаю і яе працоўным народам, жывучы іх жыцьцём, для іх жывучы,—не магло сэрца Янкі Купалы на нейкі час не паддацца страшэннай роспачы, калі ён бачыў, як усе жахі вайны апалі на многапакутную Беларусь. Што астанецца ад вечна забранай, ад вечна зьнішчанай краіны, пасьля таго, як пракоціцца па ёй паводка руйнаваньня, пажараў? Ці астанецца, наогул, тая крыніца, з якое ён чэрпаў сваё натхненьне, веру і спадзеі? Ці, магчыма, зданны Молох праглыне цалкам змучаную краіну? У кожным разе, размах здарэньняў ня суліў нічога суцешнага. Было вядома, што арэнаю сутычак двух варожых бакоў застанецца Беларусь —

Грамадзяцца цёмны хмары,
Грозяць сьвету страшнай карай...

. . . . . . .

Чуткі йдуць, плывуць журбою,
Родны краю, над табою...[1])

Нельга было судзіць, ды ня цікава, на чый бок перагнуцца шалькі, але перагін адбывацьмецца непасрэдна ў Беларускім краі. Гэта страшэнная пара глыбока ўрэзалася ў душу Янкі Купалы, але і тут знашоў ён мужнасьці адняськіся да яе з завіднай сьмеласьцю, забойна, пракляўшы і час, і абставіны людзей, якія стварылі сусьветную вайну. Вось якімі словамі ён праводзіць 1914 год:

Зыходзіш ты туды, скуль ня прыходзяць,
Але сваіх не забярэш сьлядоў...
О, год! Такіх, як ты, час рэдка родзіць.
О, год! Ты першы гэткі з між гадоў.

Прышоў ня з згоды і свабоды весьцяй
І не ўзьвялічыць праўду між людзьмі,—
Жыцьцём мільёнаў ты прышоў затрэсьці
Шлях вымасьціць свой трупамі, касьцьмі.

Касьцьлявай зморай з гібелі сталецьцяў
Ты, як пракляцьце, будзеш вызіраць.
І будзе маці страшыць табой дзеці,
Ды клікаць той, хто ўздумае ўміраць.

---

[1]) „Спадчына“, ст. 30.

„Не забіваці“—ты стрывожыў права,
На сэрца і душу наклікаў цьму;
Людзей на зьвераў пошасьцяй крывавай
Пэратварыў і здаў насьледніку свайму.

Га! Хай-жа льлецца кроў, дымяць пажары,
Няхай пад крыжам плача сірата!
Крывавы бог, крывавыя ахвяры
Сабраць павінен з сьвету дачыста.

Аж прыдзе іншы год з рукою лёгкай
Агледзіны рабіці новых дзён,
Дзе меч нявідзімага бога-Рока
Напіша бяскрывавы свой закон[1]).

Ды як-жа не хваляваецца шчыраму сэрцу, грамадзяніну селяніну-поэту? Як не праклінаць тых людзей, што выклікалі нязьлічоныя бядоты на працоўных усяго сьвету і асабліва на многапакутную бацькаўшчыну поэты, Беларусь? І Янка Купала шле громы праклёнаў „разьюшаным сатрапам“, якія

Паганы зладзіўшы хаўрус,
Свае таргуюць і чужыя
Табой, няшчасны беларус.

Дыхнуць свабоднымі грудзямі
Й зірнуць арліна не ладуць,—
На ўзьлёты дум кладуць аковы,
Як на рабоў сьляпых кладуць...[2])

Поэта яскрава разумеў клясавую падставу імпэрыялістычнае вайны, кіруючы свае стрэлы да сатрапаў. І праз гэта яшчэ болей абурала яго нянавісьць на яе братазабойнасьць, на яе крывавую роспач.

Ды, паміма іншага, ці-ж можна было пагадзіцца, каб, замест вясеньніх кватоў, замест мірнае працы на вызьвеўшых нівах, лілася бязьвінная кроў рабочых і сялян, якіх настроілі адных супроціў другіх? Прышла вясна 1915 году і супроціў чаканьня—

„Ня з сонцам вышла блаславіць аратага арбу“.

---

[1]) „Спадчына“, ст. 37.

[2]) Там сама, ст. 39.

А куды тамака! З гэтаю вясною падзі многа пастрашнелі, выяўна сьціснулі грабежнымі кайданамі Беларусь. Царская армія ня ўстоіла супроціў арміі кайзэраўскай і ў сполаху адступала, а перад сабою гнала тысячы беларускага сялянства. Краіна пусьцела, руйнавалася. Здань пагібелі вісела над ёю чорнаю хмараю. Дым пажараў затуляў сонца і веру ў блізкае зьнішчэньне крывавай пошасьці вайны.

Грукат гармат разьвеяў на нейкі час і творчы імпэт Янкі Купалы, прымусіўшы яго змаўчаць, прытаіцца... Мы бачым, што з паловы 1915 году па год 1918 Янкам Купалаю напісана зусім мала, нават у друку няма ніякага твору, які-б быў памечаны 1916 ці 1917 гадамі.

Якраз а палове 1915 году цэнтр беларускага культурнага руху, г. Вільня, быў заняты немцамі. Беларускія культурныя дзеячы, якія пакуль ня былі яшчэ залучаны ў армію, разьехаліся ў іншыя пункты Расіі. Зачыненая перад гэтым „Наша Ніва", наогул, адняла вялікую частку працы, ужо досі парушанае вайною. Трэба было перачакаць гостры момант, агледзецца, выбраць месца, згуртаваць там сілы. Выяжджаючы разам з другімі з Вільні, Янка Купала пераехаў у Маскву, дзе сумеў улучыць часу на слуханьне лекцый у унівэрсытэце Шаняўскага. Гэта працягнулася да пачатку 1916 году. Пасьля ён пераяжджае ў Менск, дзе паступае ў дарожную дружыну адбываць вайсковую павіннасьць. У Менску к гэтаму часу пасьпеў залажыцца беларускі гурток, які распачаў выдавецка-палітычную працу. Янка Купала далучаецца да гэтай працы, але скора мусіць яе пакінуць і з канца 1916 году пераяжджае, з прычыны службы, у Полацак. У гэтым горадзе поэта пражывае канец 1916 году і ўвесь 1917 год. Лютаўская рэволюцыя застае яго там-жа. З Полацкага пазему Янка Купала сачыў за ўсімі тымі падзеямі, якія выліліся з страшнае вайны ў нячуваны рэволюцыйны ўздым. Рост і пэнт нацыянальнага абуджэньня, здавалася, загінутай Беларусі бліснуў яскравым мэтэорам перад яго вачмі.

Працоўныя беларускія гушчы, парушаныя рэволюцыйным выбухам, зьядналі ў адно палітычнае суцэльнае соцыяльныя і нацыянальныя моманты. Ідэі, аб якіх пяяў Янка Купала, з-за якіх хварэў душою, якімі жыў, кідаючы іх у сялянскія гушчы, і над якімі 3 гады вісеў меч загубы,—гэ-

тыя ідэі ператварыла Лютаўская рэволюцыя ў магутны беларускі рэволюцыйна-нацыянальны рух... А Кастрычнік падвёў пад іх сталы, моцны грунт. Павінна было поэцебаяну ў найвысшай асалодзе, у шчасьлівым задаваленьні цешыцца ў гэтым і плёнамі свае працы. Найвышэйшая ўцеха трымала струны яго леры моўчкі. Новыя паземы адчынялі шырокі шлях яго радзіме, яго працоўнаму народу. Няхай выходзіць ён, няхай наладжвае свае паходні,—поэта паглядзіць, пачакае. Але й на гэты раз ня суджана было Беларусі вярнуцца да спакойнага жыцьця, да адбудаваньня краіны, да ахоўы заваёваных рэволюцыяй праў. 1918 год прынёс ёй нямецкую окупацыю. Што не пасьпела зрабіць вайна, тое наганяла „мірная політыка“ окупантаў. Збоку, у Вялікарасіі, разьвіналася Кастрычнікавая рэволюцыя, крэплі і ператвараліся ў жыцьцё яе лёзунгі, а беларускі працаўнік стагнаў пад абсацам юнкераў кайзэра. Янка Купала, пераехаўшы з Полацку ў Смаленск, з болем у сэрцы сачыў за прыгнечанаю, бяздольнаю краінаю і ў няцерпе зваў:

Табе, народ мой, згібнуты ў аковах
З-пад сэрца песьню гэтую пяю...
...Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь сьвежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часьці, на кускі...
...Паўстань, народ! Прачніся, Беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
...Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету,—
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты...[1])

Гэта пісалася 29/X-18 г., а 1/I-19 г. па абшарах вольнае Беларусі ўжо разносіліся магутныя словы маніфэсту часовага ўраду Беларускай Савецкай Незалежнай Соцыялістычнай Рэспублікі. Водгалас іх сягаў далёка на захад, б'ючыся ў сьцены абуджанай Нямеччыны і апітае перамогаю Антанты... Ізноў на ваччу поэты адбывалася зьявішча ажыцьцяўленьня яго жаданьняў, ідэй; народ строіў для будучыны—

„Шчасьце, каб пут ня строіў больш сусед“.

---

[1]) „Спадчына“, ст. 14.

І пясьняр, поўны ўміленьня, зваў:
Час склікаці ўжо грамаду
На вялікую нараду,
На вялікі сход!
Хай рассудзіць, хай разважыць,
Слова цьвёрдае хай скажаць,
Скажаць сам народ!
Як жыць мае, пажываці
Ў родным краі, ў роднай хаце,
Як заводзіць лад:
Ці жыць далей у няволі,
Ці разжыцца новай доляй,
Новы ўзьнесьць пасад![1])

Народ рашыў пастроіць новы пасад, „разжыцца з новаю доляю“. Векавое бадзяньне бяз імя, бяз назвы мігам зышло з памяці, і вакола Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі аб'ядналіся працоўныя беларускія гушчы. Аб'ядналіся, прасякнуліся яе ідэяй, захапіліся пачуцьцём узьнікшага ў іх рэволюцыйнага патрыотызму і сталі абараняць яе, як радзіму, як сябе.

Янка Купала ўрачыста, з адчыненай душою сустрэў гэты вялікі акт у жыцьці свайго народу; ён з радасьцю пакінуў Смаленск і паехаў у сталіцу свае рэспублікі. Пачуцьцё грамадзяніна не пакідала поэты. І чулася яму, як—

Назаўтра, к налецьцю
Свой сею загон...
Прывычнаю жменяй
Зярняты кладу...

Зьліўшыся з мільённаю грамадою, ён сачыў, „каб абсевак ня кінуці дзе“. Была ўрочная пара, адпаведная,—нельга было драмаць. Тым болей, што ўжо на рэволюцыйным рубяжы радзімы загострываў меч неўгамонны вораг. Маладая рэспубліка, ці адстаіць яна сябе? Пэўна, у захопе працаю адбудовы вольнае краіны, ці-ж можна было думаць аб гэтым? Ня пытаў сябе аб тым і Янка Купала...

А ў той час новая хмара насувалася на Беларусь—польская панская окупацыя. У самы разгар творчай працы надышла яна з захаду і перапыніла рэволюцыйнае будаўніцтва на цэлы год... Ня старчыла моцы абараніць краіну, а мо'

[1]) „Спадчына“, ст. 15.

суджана было законам жыцьця лішні год дадаць да шэрагу доўгіх год мукі, каб пасьля з новаю сілаю, з новым імпэтам, як уваскросшы з агню Фэнікс, хапіцца за творчую, адноўную, вялікую мірную працу адбудовы соцыялістычнае рэспублікі... Тэрмін, калі надышла новая эра для беларускага працаўніка і селяніна, пачаўся з 1921 году. Хоць здарэньні паднясьлі яму скутак цяжкага змаганьня ў выглядзе праклятага Рыскага акту, хоць сьледам за гэтым актам пасунуліся на Савецкую Беларусь узгадаваныя „міралюбівай“ Польшчаю бандыцкія шайкі Балаховіча ды Савінкава,—усё-ж нельга было пераняць вялікага ўздыму, які абурыў беларускія працоўныя гушчы, які зваў іх да творчае працы. Крыўда—калі яе ня старчыла!—часова была заціснута на дно душы да адпаведных выпадкаў, і ўтратак пераймаўся вялікімі здабыткамі дзяржаўнага, экономічнага і культурнага будаўніцтва. Адна за другою гаіліся цяжкія раны перажытага. Захапіла беларускага працаўніка і селяніна пераконаньне ў тым што патрэбен на першы час моцны пляцдарм, пункт абапору, а тады—бог дзядзька.

Духовыя скарбы беларускіх працоўных гушчаў завіравалі крыніцаю. Вачавідкі сталі расьці зялёныя сочныя руні культуры. Тэатр, выдавецтва, школа. Сьвежы, зялёны, вясеньні шолам прашоў па ўсёй вольнай Беларусі. З вышыні Парнасу паліліся новыя, бадзёрыя, жыцьцёрадыя песьні. І Янка Купала, зачарованы магутнасьцю здарэньняў, якія ня спыняліся, а расьлі, пекнатою вобразаў, якія зьліваліся ў стройную сымфонію,—гартаваў натхненьнем сваё адзыўнае, чулае нутро. Не, не павінны струны яго леры замаўчаць гэту пору! Чыя-бы душа маўчала—толькі не поэты грамадзяніна-рэволюцыянэра. Не маўчала-б душа ваякі неспакойнага, клапотнага клопатам мільёнаў свайго люду поэты.

У 1921 годзе, вясною, Янка Купала, перажыўшы ў Менску жахі польскае окупацыі і аддаўшы многа часу цяжкай хваробе, якая чуць ня згубіла яго, убачыў, што прышоў час зьдзейсьніцца яго нядаўным марам—

Час сонца схапіці і сонцам ірдзеці,
І зьведываць сьветы арліным узмахам...
Час крыльлі расправіць—пагудка ўжо кліча,
Ўжо віхры цярэбяць да шчасьця шлях новы!)[1]

[1]) „Безназоўнае“, ст. 6.

І пясьняр зразу адгукаецца новай эпосе „Інтэрнацыяналам“. Рэволюцыйнае пачуцьцё, пачуцьцё пераможнага народу, дае яму вялікую сілу ды неахопнае натхненьне знайсьці тую жалезную моц і сьмелую глыбіню, якія набылі пад яго пяром зычныя словы міжнароднага гымну. Поэта ўлажыў у свой пераклад яго точнасьць сэнсу і апогэй урачыстасьці пачуцьця. Поэтавы-ж здольнасьць і мастацтва прыдалі яскравасьць, мілагучнасьць.

Гэтым перакладам Янка Купала даў вельмі многа на запатрабаваньні часу. Ня дзіва, што „Інтэрнацыянал“ ды вершы: „Пазвалі вас“ і „На сьмерць Сьцяпана Булата“ займаюць у нашага песьняра пэрыод даўжэй году. Бо ў гэтых трох творах уложаны думкі, пачуцьцё, вага якіх роўна вялікім томам. Усё, што сконцэнтравала яго ўражаньне, што нагледзіла вока, што падслухала душа,—адбілася, як у фокусе ў адзначаных трох вершах. Няхай думаюць іншыя, што Янка Купала не адгукнуўся, як сьлед, на вялікія падзеі Кастрычніка,—воля думаць, калі панікласьць іх зьбівае з панталыку. Мы трымаемся цьвёрдага погляду на поэту, як на пасьлядоўнага рэволюцыянэра, які наймоцна, найвыразна адбіў дух Кастрычніка ў беларускіх праламленьнях, як адбіваў дух папярэдніх эпох і рэволюцый—

Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біць цароў,—
Зрабілі з вас гаспадароў...
І ўсё вы ўзялі, ўсё, як ёсьць:
Фабрычны дым, сяўбы загон
І панскі двор, і царскі трон...[1])

Гэтак Янка Купала кажа пра Леніна працоўным гушчам, ад якіх т. Леніна заклікалі буржуйныя ўладары Эўропы на Гэнуэзскую нараду ў 1921 годзе. І ў вершы „Пазвалі вас“, які прысьвечаны гэтаму здарэньню, пыхае полымем уся многахварбоўнасьць вобразу перамогі Кастрычніка. Поўная ўрачыстасьць стану запанаваўшай рэволюцыі. Захоплены яе натхненьнем, пясьняр прапускае нотку трывогі: 1921 год—год вялікага крызысу, галодны год; год на-

[1]) „Безназоўнае, ст. 30, 31“.

дзей у белагвардзейскай і сусьветнай буржуазіі на блізк канец Савецкае ўлады.

З-пад ног, з утоптанай нары
Паўзе ўжо збэшчаны павук
І ў сто, у сто кагцістых рук
Хапае вас, рабы-цары,—
Як-бы ўжо вы не ўладары...

Але трывога нішчыцца сілаю рэволюцыйных спадзей, неадыходным ад поэты пачуцьцём змаганца; ён запэўнены, што—

Вы ўладары... Яшчэ жар-цьвет
Бунтарскіх дум у вас ня згас:
Эўропа кліча ў госьці вас,—
Пад рогат Пірравых пабед
Саветы кліча на „савет“ [1]).

Гэтых уладароў Янка Купала вітае, як насіцеляў усясьветнага вызваленьня працаўнікоў, як будаўнікоў Комуны. І якім жалем стратку сустракае ён сьмерць рэволюцыянэраў-комунараў! І якою вераю поўна яго істота, калі ён гадае над лёсам свае вызваленае краіны! Далейшы шлях яе разьвіцьця вядомы поэце; гэты шлях—шлях до Комуны ў злучнасьці з другімі краямі.

Забуяе ў славе буйнай,
Зазьвініць залатаструньне
Родны край аднэй комунай...[2])

Няхай не ўпару памершы ваяка сьніць аб Комуне. Надыход яе забясьпечаны. Моладзь—новая, узросшая на вольнай глебе маладая армія—працягае справу змаганьня за гэты ідэал працоўных. Янка Купала бачыць гэта і гэта разумее. Толькі чалавеку беспадстаўнаму, мешчаніну, гэрою мінулых часоў ня відна гэта і ня міла. Янка Купала з усёй сілаю свайго таленту аддае дачу чырвонай моладзі ў сваім вершы „Арлянятам“, ён укладае ў гэты свой твор усю душу сваю—

Вам сярпы і косы ў рукі
Ды мячы, каваны з сталі,
Далі буры, завірухі,
Што тут вылі, бушавалі.

---

[1]) „Безназоўнае“, ст. 31.
[2]) Там сама, ст. 34.

Цень мінуўшчыны праклятай,
Дзе бізун гуляў з нагайкай,
Зьмяцiцё вы, арляняты,
Сваёй новай сілай, байкай[1]).

Ды, наогул, Кастрычнік прывёў радзіму поэты да таго стану, калі ўсё гавора за поўнае адраджэньне яе працоўнага народу; да таго стопню, калі нішто ўжо—

...ня выламе
Ні клыкамі, ні віламі
Таго, што ажыло,
Што ўскрэсла над магіламі,
Над хатамі пахілымі—
Мінуламу на зло...

Бо—

Аколіца-аселіца
Пад ногі сонцам сьцелецца...
Збудзіўся гаспадар!..[2])

Краіна, нешта безназоўнае, на працягу вякоў стала роўнапраўным сябрам сям'і Савецкіх Социялістычных Рэспублік, дзяржаваю працаўніка і селяніна.

Колькі поэта напамарыў аб сім! Колькі пражыў трывожных гадзін! Дваццаць год нясупыннае працы! Дваццаць год чулага балючага хваляваньня! І на вачох—гэткая нявіданая пэртурбацыя: безназоўная стала вялікай, магутнай Савецкаю Беларусьсю! Трэба пазавідаваць долі Янкі Купалы. Ды сам поэта, адсьвяткаваўшы свой дваццацігадовы юбілей у часы поўнай перамогі Кастрычнікавай рэволюцыі, у часы магутнага ўздыму працоўных сіл Беларусі да творчай дзяржаўнай экономічнай і культурнай працы, ня мог ня быць агорнутым, прасякнутым вялікім здаваленьнем. Толькі апошняе дало яму натхненьне на гэтыя словы:

Дык-жа шумі, красуй у волі родны край!
Зьвіні ў свой звон, сялянска-пролетарскі звон!
Сьпявай ты, Беларусь, у радасьці сьпявай,
Твайго народу сёньня права і закон[3]).

---

З часу вызваленьня Менску ад белапалякаў Янка Купала жыве ў Менску. Увесь гэты час ён служыў па выда-

---

[1]) „Безназоўнае", ст. 24.
[2]) Там сама, ст. 15.
[3]) „Маладняк—Янку Купалу", ст. 54.

вецкай справе, перш—рэдактарам часопісі „Чырвоны Сьцяг", а з 1922 году—тэхнічным рэдактарам у выдавецтвах. У 1922 г. выдавецтва „Савецкая Беларусь" выдала чарговы зборнік яго вершаў „Спадчына", куды ўвашлі яго ранейшыя творы. У 1924 г. ў часопісі „Полымя" была надрукавана яго п'еса „Тутэйшыя", а ў розных часопісях („Полымя", „Маладняк". „Сялянка і работніца" ды інш.) зьмяшчаліся яго вершы, якія былі сабраны ім у зборнік „Безназоўнае", што вышаў у 1925 годзе. Купалу цяпер 43 гады.

Трэба сазнацца, што ў апошнія часы творчая плоднасьць Янкі Купалы шмат цішэйшая, ніж то было раней. Але на гэта маецца шмат прычын, якія ўсвойны многім, за малым выключэньнем, песьняром і пісьменьнікам. Аднак, сілы і творчая здольнасьць поэты к данаму часу нікольکі не аслаблі. Нават размах і глыбіня яго думак значна пашырыліся і, хоць рэдкія, яго апошнія творы захапляюць сваёю гармоніяй, магутнасьцю і сілай. Гэта сьведчыць, што Янка Купала шмат яшчэ можа даць высокакаштоўных падарункаў у скарбніцу беларускай літаратуры. І даданае ў наступным да ўсяго ім напісанага, зложыць яму

„... памятник нерукотворный",

Да якога—

„... не зарастет народная тропа".

З. Жылуновіч.

Грай, мая жалейка,
Пей, як салавейка!
Апявай нядолю,
Апявай няволю
І грымі свабодна,
Што жыве край родны!

## Я НЕ ПОЭТА

Я не поэта, о крый мяне божа!
Ня рвуся я к славе гэткай німала.
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі—Янка Купала.

Славу поэтаў разносяць па сьвеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я-ж ціха йграю, хто-ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама я вёскі—Янка Купала!

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсьць для народу ўпадак і хвала,
А беларусы нікога-ж ня маюць,
Няхай-жа хоць будзе Янка Купала.

Доляй убогі, ён ціхі, нясьмелы,
Бяда, яго маці, узгадавала,
Сьлёзы пагарды п'е толькі век цэлы,
От, ведама, просты Янка Купала.

Песьні пачаў пець тэй мовай убогай,
Якой пагарджаюць горка, нядбала,
Пэўна і песьняў шчураюцца многа,
От, ведама, здумаў Янка Купала.

Шчасьце так рэдка над сьветам усходзе;
Усё-ж досыць бывае меці хоць мала,—
Долю каб бачыў у родным народзе,
А быў-бы шчасьлівы Янка Купала.

Эт, з часам людзі ўпадаюць на сіле,
Сьмерць скосе, глядзі і больш крыжам стала;
Нехта спытае: хто ў гэтай магіле?
А напіс пакажа: Янка Купала.

## КАМУ ВАС, ПЕСЬНІ?..

Каму вас, песьні, я нясьмелы
Тут буду пець, снаваць з душы,
З душы няшчаснай, набалелай,
Аж, змучан, згіну дзе ў глушы?

Ці для тых цёмных, нешчасьлівых,
Што не патрапяць прачытаць,
Ці для тых сьветлых, а зласьлівых,
Што не захочуць вас і знаць?

О! веру, веру, што загнаны
Мяне ня здрадзіць мой народ,
Але ён цёмны й акаваны,
Ї бедны думак яго ўзьлёт.

Ї вы, душы маёй тварэньні,
Ў нязнаньні будзеце марнець;
Таптаць вас будуць бяз сумленьня,
Пацук рукопісі патнець.

Аж нейкі ўчоны моль з прыпадку
Натрапіць, з пылу абтрасе,
Пачне чытаць вас ад пачатку
З-пад акуляраў на насе.

Прагледзе й скажа: „Матар'ялу,
„Каб прасачыці быт людзей
„На Беларусі, тут ня мала,
„Жаль толькі, што няма усей,

„Усей рукопісі панурай.
„Хвалько поэта, знаць, ня раз
„Цаніць даваў яе для шчураў;
„А шчуры—спраўджана і ў нас—

„Істоты подлыя, нізкія,—
„Пяўцоў ім думкі не ў карысьць;
„Ім праў навукі хоць якія,
„Дабро чужое рады грызьць.

„Ды ўсё-ж рукопісі я гэтай
„Так не астаўлю і вазьму,—
„Аб ёй і кім быў той поэта
„Складу артыкул пасвайму.

„Часьць вершаў ў друку апынiцца,
„Ня зьнішчаць мышы іх зусім;
„Пясьняр „з народа“ ўзьвесяліцца,
„Што ё ў газэтах і аб ім“...

Так будзе думаць моль вучоны
І рэшты аркушаў шукаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Спалі вас, песьні, дым чырвоны,
Чым мае гэткі лёс спаткаць!

## З МАІХ ПЕСЕНЬ

Што нахлыне ў душу,
Што сасьнію вечаром,
Праз што вочы рашу,—
Усё выльлю пяром.

Усё выльлю і ў сьвет
Песьняй лётнай пашлю,—
Няхай з віхрам у сьлед
Аблятае зямлю!

Хай лятае ўвакруг
Над скаванай зямлёй,
Дзе сьпяць сіла і дух,
Дзе брат свой, як ня свой!

І тых будзіць, хто сьпіць,
Хто цярпіць бяз віны;
Няхай гулка грыміць,
Як званы, пяруны!

## ДА ПЕСЕНЬ

Песьні мае, песьні!
Смуткаў маіх дзеці,
Калі-ж вам час прыдзе
Весела запеці?
Ой! сваю ды з вашай
Роўну долю бачу:
Плачаце вы, песьні,
І я з вамі плачу.
Хацеў-бы вас, песьні,
Зрачыся, пакінуць,—
Сілачкі-ж мне мала,
Буду ўжо так гінуць.
Выплакаў вас сэрцам,
Высьніў вас душою,
Б'ючыся з нядоляй,
Б'ючыся з бядою.
І цяпер за мною
Ходзіце вы ўсюдах—
І вясной па траўцы,
І ў восень па грудах,
Па сьнягу зімою,
Па загонах летам;
Вы мяне спазналі
З горам, з людчым сьветам.
Шмат чаго нагналі
Мне ў душу смутную,
І йшчэ знаю, знаю,
Шмат чаго пачую.
І так мне здаецца,
Колькі ні тужыці,
Са мной вы, я з вамі
Вечна будзем жыці
Толькі, мае песьні,
Смуткаў маіх дзеці,
Калі-ж вам час прыдзе
Весела запеці?!

## ДА СВАЇХ ДУМАК

Думкі, думкі-весялушкі!
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песьняй азваліся?

Ці навеяў вецер вольны,
Што па горах скача,
Што у плоце, як бяздольны,
Па сіротках плача?

Ці бурлівыя паводкі
З вадой вас прыгналі,
Што вясною час кароткі
Зямельку змывалі,

Затаплялі, залівалі
Даліны і горы,
Аж сябе ў моры схавалі,
У глыбокім моры?

*

Думкі, думкі-весялушкі,
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песьняй азваліся?

Ці зрадзіў вас дух збадзяны
У хатцы дзюравай,
На зямельцы акаванай,
Бязвольнай, бясправай?

Ці ў калысцы у ліповай
Са мной узрасьлі вы,
Як дзіцём вучыўся мовы,
Вясёлы, шчасьлівы?

Сьвет здаваўся ясным раем,
Людзі—без аблуды,
Не калолі у няволі
Жыцьцявыя груды!

*

Думкі, думкі-весялушкі,
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песьняй азваліся?

Ці навеяў віхар з поля,
Як лісткі з бярозы?
Ці зрадзіла вас няволя,
Ці гора, ці сьлёзы?

Ці прыгожая дзяўчынка
Ў вуха нашаптала,
Што вачыма, як лучынка,
Міленька міргала?

І бажылася кахаці,
Век не пакідаці,
Разам гора гараваці,
А потым... ну, што там!?

*

Думкі, думкі-весялушкі,
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песьняй азваліся?

Ці вас выараў сахою
На шнуры вузенькім?
Ці вас выкасіў касою
На сіўцы сівенькім?

Ці вас выкапалі людзі,
Як праўду хавалі?..
Ачарнілі фальшам грудзі
І помстай шакаляй.

Відмы сьмерці і разлукі
На скаваных сеюць,
Ў крыві братняй мочаць рукі,
На трупох шалеюць!..

*

Думкі, думкі-весялушкі,
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песьняй азваліся?

Гэй-жа, думкі, громка пейце,
Покуль сэрца б'ецца!
Громка пейце, не жалейце,
Што там хто сьмяецца!

Прыдзе хвіля і вас міла
Нехта прывітае,—
Можа хоць дзяўчынка тая,
Што мяне любіла!

Прыдзе хвіля,—поймуць людзі,
Дзе праўда зарэе...
Пейце-ж, думкі, шчасьце будзе,
Ночка разаднее!

## ДУМКІ

З неспакоем думкі роем
Верцяцца ў душы,
На сьвет божы, сьвет прыгожы
Рвешся ўвесь з глушы.

За высь гораў, за цьму бораў,
Там за рэчкі шум,
Мкнуў-бы птушкай-весялушкай
За палётам дум.

Сэрца б'ецца, к жыцьцю рвецца,
К нейкім сьветлым снам;
Гэй, ты, гора! скора-ж, скора
Цябе ў брак я здам?

К долі, к волі, гэт, па полі,
Як леў, пабягу;
Спаці, ждаці ў курнай хаце
Ўжо больш не магу.

Сьвет вялікі, песьні, крыкі
Мкнуць з усіх старон;
Звоніць штосьці,—к славе ў госьці
Кліча гэты звон.

Ідуць людзі, ў крыві грудзі,
Паходні ў руках,
Няма ночаў, жарам вочы
Зьзяюць, ажна страх!

Са сну будзяць, душу цудзяць
Надзеяй старой,
Узьнімаюць, заываюць,
Гэй, на нейкі бой!

Думкі ходзяць, чымсьці зводзяць,
Тым, што долю дасьць...
Згіне гора, і сьлёз мора,—
Ня вечна напасьць!

Пакірую думкі ў тую
Старонку свае,
Скуль з прасьветам мне прыветам
Праўда запяе.

Далей, вышай памкну гыжа:
Ўжо пралажан сьлед;
Трудна, маці, ў курнай хаце,—
Паляту у сьвет!

## Я НЯ СОКАЛ...

Я ня сокал зоркавокі,
Не арол адважны,
Што так думна за аблокі
Ўзносіцца з іх кажны.

Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я толькі верабейка,
Ўзрошчаны пад Гайнай.

Як ён, край шаную родны,
Не ляту ў чужыя,
І з зімой б'юся халоднай,
Хоць-та сэрца ные.

Як ён, сеў-бы дзе на плоце
І песьні чырыкаў,
Людцаў родных-бы ахвоціў,
К лепшай славе клікаў.

Як ён сад—я хатку, поле
Люблю, хоць ня маю,
З верабейкавай і доля
Мая роўнай, знаю.

Верабейку стужа змора,
Або ястраб схваце,
Мяне-ж зломе маё гора,
Ў зямлю кіне спаці.

Над магілаю крыж з хаткай
Паставяць мне людзі,
Верабейкава-ж дзіцятка
Нада мной пець будзе.

І мне будзе смуткаў меней,
Лежачы ў заперці...
За жыцьця—сьлёзы цярпеньне,
А песьні па сьмерці.

## ЗМАЧУ ПЁРКА...

Змачу пёрка ў ватрамэнту
Ды як чыркну па паперы,—
Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—
Як быкі, стаяць літэры!

Глянем, у ваднэй з іх кучы
Прачытаем: „усе брацьці!“
У другой—гоман траскучы:
„Няма невукаў у хаце!“

А ўжо ў трэцяй, дык свабоду
Бачыш вольную пад неба;
А ў чацьвертай—„для народу
Досыць грошы, досыць хлеба!“

А хто гэта прачытае,
Скажа: добра напісана;
Скажа: нешта й мужык знае,
Дарма, што бядней ад пана!

Дык калі вось атрамэнту
Крыху выльлю на паперы,—
Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—
Як быкі, стаяць літэры.

## ЧАГО-Б Я ХАЦЕЎ

Мне ня трэба багатых другоў:
Даўно знаю пахлебствы я іх,
Іх малітвы да ўсякіх багоў
І з пагардай пагляд на другіх!

Не хачу з імі быць за сталом,
На сваё паніжэньне глядзець,
Як, мінаючы чаркай з віном,
Ад парогу накажуць сядзець.

Не хачу я дзявочай красы,
І пяшчот іхніх белых грудзей:
Рэжа сэрца мне горай касы
Зьменнасьць, хітрасьць агністых вачэй!

Не магу я цярпець, паглядаць,
Як іх сталасьць зьнікае, што мгла;
Тут душу табе рада аддаць,
Тут другога шчырэй абняла!

Не хачу я гуляць, дзе народ
Толькі гора цярпіць на вяку,
Дзе сіротка стаіць ля варот,
Есьці просіць, падняўшы руку.

Не хачу весяліцца, гуляць,
Дзе бяда, сьлёзы, скаргі ўвакруг,
Дзе другія ў няволі сядзяць,
Дзе замёрлі і сіла і дух!..

Эй, сказаць-жа, чаго я хачу?
За што нават-бы сэрца аддаў?
З чаго твар я сьлязамі мачу?
Ці-ж хто з вас калі гэта згадаў?

Дык-жа знайце, чаго-б я хацеў,
Аб чым думачкі толькі мае:
Каб мой люд маю песьню запеў
І пазнаў, аб чым песьня пяе!

## ПЕСЬНЯ АБ ПЕСЬНЯХ

Туды-сюды, там ды сям
З думкай зьлётаў ўслужнай.
Во й гатова песьня вам!
Пейце толькі дружна.

А жыла-ж каб век вяком,
Сьпішу на паперы,
Бо што сьпісана пяром,
Ня выйме й сякера.

Песьні, знайце,—сэрца дар,
Шанаваць іх трэба;
Кепскі з нас той гаспадар,
Што ня мае хлеба;

І бяз песень-жа народ,
Што ён варт быць можа?
Ён і цёмны, як той скот,
І бяды ня зможа.

Газэт, кніжак мовай чэй
Найболей друкуюць,
Паважаюць тых людзей.
Любяць і шануюць.

Так і вы-ж, людцы мае,
Ўстаньце, ачуняйце,
Аб чым песенька пяе,
Хутка пераймайце.

Пейце, пейце а дружней,
Брацьці-Беларусы,
Барукайцеся сьмялей
З няпраўдай, з пакусай.

Блізкі той дзянёк, калі
Шчасна запануем,
Станем самі мы людзьмі
І край адбудуем.

* * *

Хоць ты сэрца лопні, трэсьні,
Хоць ты выгані пан з хаты,—
Буду пець я свае песьні
Ці-то ў будні, ці то ў сьвяты!

Думкі, оды пець я буду,
Каб усякі весяліўся,
Каб для гэтага тут люду
Сьвет інакшы адчыніўся!

Каб на полі, ці на лузе,
Ці працуючы ля дому,
Ці у лесе, ці пры плузе
Пеў ён песьні пасваёму!

Каб ніколі ня чураўся
Сваёй родненькае мовы,
У якой узгадаваўся,
Хоць забыўся дзеля новай.

Дык пець буду табе, людзе,
Каб працёр свае ты вочы!—
А шмат лепей табе будзе,
Як адрозьніш дзень ад ночы.

Бо ты-ж надта цёмны, браце,
Як тытун у табакерцы,—
Хоць ня воўк—жывеш у хаце,
Хоць ты маеш душу, сэрца.

О, я знаю: сэрца маеш,
Бо па сьвінцы нават плачаш,—
А што мовай пагарджаеш,
Дык ты гэтага ня бачыш.

Гэй, прасьніся, беларусе!
Усе людцы паўставалі.
Гэй, прасьніся, беларусе!
Усе праўдачку пазналі.





## ПЛАЧУЦЬ МАЕ ПЕСЬНІ

Жудка стогнуць рэкі,
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песьні,
Галосяць са мною.

Не стагнеце, воды
Паводкі бурлівай,
Кіньце плакаць, песьні,
Горка, нешчасьліва.

Хто ўстрымаў паводак
Разгульнае мора?
Хто заглуша песьні,
Як іх вызьве гора.

Вялікае-ж гора
Часам людзей муча,
Наўча ненавідзець
І плакаць навуча.

Як дубок, з карыцы
Пастухом абдзёрты,
Як той салавейка
У клетку запёрты,—

Так я прападаю,
Ня маючы долі,
Як дуб усыхаю,
Плачучы ў няволі.

Не дало жыцьцё мне
Ні поля, ні хаткі,
Па чужых кутках век
Сіл гублю астаткі.

Там, гэт, за гарамі,
Дзе памчыцца вока,
Сьвет гучны, вялікі
Сьцелецца шырока.

Сокалам-бы вольным
Паляцеў ў сьвет гэты,
Дый мне крыльлі ўцяты!..
Доля, дзе ты, дзе ты?

Так-бы весяліўся,
Пеў аб шчасьці песьні,
Як той верабейка
Ў садзе на чарэшні.

Гулка стогнуць рэкі,
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песьні,
Галосяць са мною.

## ГЭЙ, ТЫ, СЭРЦАЙКА...

Гэй, ты, сэрцайка,
Ня тужы, замры!
Душа смутная,
Песень не твары!

Бо каму-ж, каму
Ў жалю запяю?
Хто паслухае
Песьню-жаль маю?

Можа-б выслухаў
Мяне ўбогі брат,—
Не да песенек,
Горам хто багат.

А шчасьлівы хто,
Хто багат ва ўсім,—
Песьня жальбная
Не пад мысьль такім.

Дык каму-ж, каму
Гулка запяю?
Хто паслухае
Песьню-жаль маю?

Перад кім, ой, кім
Расчыню душу?
Стогн бяды, нуды
Ў думках заглушу?

## Адзін

Ці йду я вясёлай дзянінай
З касой ці з сахой за сяло,
Й ня бачусь з пахілай хацінай,
Пакуль чую сонца цяпло,
Ї ў полі, працуючы ў поце,
Бядую над горам сваім,—
Дарэмна шукаю, хто шчыра-б
Пацешыў ў цярпеньні цяжкім.

Душа мне і шэпча і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

Ці з поля гадзінкаю шэрай
Вярнуся, сяджу за сталом,
Краплюся пацїху вячэрай,
Лучынка міргае агнём,
А зьеўшы адно, паглядаю,
Ці хто больш чаго падліе,—
Дый дарма!.. пры лаве, пры печы
Усё твары снуюць не свае.

Душа мне і шэпча і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

Ці ночкай панурай к падушцы,
Ўвесь змучан, прыльну аддыхнуць,
А сэрца, як ліст той на грушцы,
Трасецца, калышацца грудзь.
Ї жду так—вось прыдзе хтось любы,
Абніме, атуліць сабой;
Дый дарма!.. Нікога, нікога,—
Хтось кажа,—няма тут з табой!

Душа мне і шэпча і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

Ці йду ў беларусаву хату
Са сну прывітаць на зары,
І рукі там выцягну к брату
І кіну вачыма к сястры,
Ці ўсеўшыся ціха на прызьбе,
Зайграю там песьню сваю,—
Дарэмна прывету чакаю,
Дарэмна вітаю, пяю.

Душа мне і шэпча і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

## АДПОВЕДЗЬ

Вы, паны, мяне з песьняй к сабе прызываеце,—
Майго люду апець справядлівую справу;
Рай ніколі нясьнёны вы мне адкрываеце:
Знайду, кажаце, ў гэтым і долю, і славу...

Шумна вецер пяе песьню дзікую, жвавую
Над зямлёй, зьлітай потам людзкім і крывёю;
Не ганюся, паночкі, ой не, я за славаю:
Чую—доля ня ўзыйдзе мне сьветлай зарою.

Чую я, чуе сэрца маё жаласьлівае,
Душа ные, а болем здымаюцца грудзі:
Як радзіўся, ішло ўсё са мной нешчасьлівае,—
Не пацешылі ў смутку і добрыя людзі.

Мяне маці мая не пацешыла родная:
Над калыскай пяяла аб цяжкай нядолі;
Яе песьням зіма ўтуравала нягодная,
Віхар гэтыя песьні разносіў па полі.

Як падрос, дужы стаў, пазнаў сьвет, не пацешыла
Мяне моладасьць, поўная зводных надзеяў:
Холад, голад, бяду на маіх плячох вешала,
Ласк за гора сваё з ёй ня бачыў нідзе я.

Ня было для мяне на куце месца вольнага,
На маю беднату паглядала з насьмешкай,
У парозе было маё месца, бяздольнага,
За парогам калючкамі слалася сьцежка.

Не пясьцілі мяне ручкі дзевачак белыя,
Не шаптала мне слоўцаў сардэчных каханьне;
Як пустэльнік, забыты людзьмі, я дні цэлыя
Жыву так і маркочуся з раньня да раньня.

Як цыган той, па сьвеце век цэлы бадзяюся
Бяз прытоньня, бяз родненькай, цёпленькай хаткі;
Над чужой працай з сіл маладых выбіваюся,
Сьветлай веры у будучнасьць нікнуць астаткі.

Так, паночкі, у будучу славу ня верыцца,
Ї пустых абяцанак мне слухаць ня міла;
А што ў сэрцы маім і душы цяпер дзеецца,
Буду пець, громка пець, пакуль возьме магіла.

Буду пець не за славу, праз вас абяцаную;
Буду пець, бо люблю свайго краю паляны.
Буду пець, бо люблю сваю песьню загнаную;
Буду пець, бо мне дар гэты доляй пасланы.

## ЯК ПАЙДУ Я, ПАЙДУ...

Як пайду я, пайду па загонах,
Па мазольным аратых сьляду,
Па лугох і па борах зялёных,
І па сёлах убогіх пайду.

На жалейцы сваёй, на гудлівай
Там я песьні пачну расьпяваць;
Прыслухайся шчасьліў, нешчасьлівы,
Думкі лепшы хачу вызываць!

Я для нівы пагудку зайграю,
Каб радзіла спарней дабрыну,
Каб—баронку стаўляй к жытцу з краю—
І ўтрымала жытцо барану.

Я грудзямі прыльну к сенажатцы,
Маліць стану даваць больш сянца,
Вечна ў кветках каб ёй красавацца,
Кветкі шчасьцем цьвілі-б для касца.

Пушчы гукну, каб гордай, скупою
Ня была, дроў давала людзям,
Памагла ваяваць ім з зімою;
Шумаў бору падслухаю сам.

А прыду к свайму ў вёсачку люду,
Пачну з хаткі да хаткі хадзіць,
Жалець сэрца, душы там ня буду,
Буду пець, буду йграць і будзіць.

## ДЗЕ-Б І ПРАЎДА ЖЫЛА...

Дзе-б і праўда жыла, дзе-б і доля цьвіла'
Не стагналі-б дзе людзі над горам-бядой,
Сьлёзаў дзе-б не цякло, кроў-бы дзе ня плыла,
Паляцеў-бы туды, паляцеў-бы з душой.

І запеў-бы там песьню, эй, думку сваю,
Нібы той салавейка у цёмным бары,
Каб той сьвет мяне чуў, як шчасьліва пяю,
Сьлёз ня льлю, як цяпер, ад зары да зары.

Дый ня мне сьніці, пець аб шчасьлівых краёх:
Кругом бачу і сьлёзы, і кроў, і бяду;
Неспакойнай душой надарыў мяне бог,
І з такой у магілу напэўна зыйду.

Пакуль волі ня ўбачу над роднай зямлёй,
Ці-ж бы радасьцяй песьні аэвацца маглі?
І пакуль буду бачыць, як плача брат мой,
Мне праўдзівага шчасьця ня знаць на зямлі.

Шуміць вецер, лісты абівае з бяроз,
Абламляе гальлё, не цярпіць, а гудзіць.
Хто сьмяецца са сьлёз—сам прычынай тых сьлёз,
Хто ня ўмее будзіць—сам зато крэпка сьпіць.

Прэч з дарогі, мужык, абарванец ліхі!
Што? паноў не пазнаў са двара ты сваіх?
Ну, хамула, на бок! а што? вышаў сухі?!
Чорт ляціць і крычыць і быдляча ўсё, ўсіх.

## РВУЦЦА СІЛЫ...

Сьняцца сьлёзы, сэрца ные,
Пяюць ветры дзіка;
Рвуцца сілы маладыя
Да працы вялікай.

Рвуцца, як той сокал з клеткі,
Людзьмі закаваны,
Рвуцца, хоць лёс чорны гэткі
На душы тнець раны.

Рвуцца к бітвам з непагодай,
З няволяй, з нядоляй,
Туды рвуцца, дзе заўсёды
Сьлёз і гора болей.

Бяз упыньня рвуцца сілы,
А вецер шумлівы,
Як падземны, як з магілы,
Вые ўсім на дзіва:

„Эх, дарэмна гэтак рвешся
З маладой душою!
Аб няпраўду разаб'ешся
З сваёй барацьбою.

І так зробішся, як кажны,—
Будзеш спаці ў ковах,
Будзеш дужы і адважны,
Дый толькі на словах!“

## ПА ЖЫЦЬЦЁВАЙ ПУЦЯВІНЕ

Па жыцьцёвай па цярністай
Пуцявіне йду,
А за мной мая нядоля
Гоне ў сьлед бяду.
Бяда чорная такая
Сунецца, бяжыць,
Сьлёзы, жаласьць насылае,
Аж трудненька жыць.

Смутна, смутна, цурком сьлёзы
Льлюцца з-пад павек,
Хоць-бы йшла ўжо сьмерць-магіла,
Чымся так жыць век!

Эй, пайду я ў бор шумячы,
Песьню запяю,
Перад лесам выльлю скаргу
Горкую сваю.
Дзе ты доля, дзе ты воля?
Ня знаць, ня чуваць;
Глуха стогнуць дубы, хвойкі,
Галіны трашчаць.

Каб, здаецца, абняў елку,
Сагрэў-бы сабой,
А з людзьмі так неяк зімна,
Жудка, божа мой.
Акавала сонца праўды
Няпраўды зіма,
І як жыці, што чыніці?
Разгадкі няма.

Толькі чорная нядоля
Сунецца, плыве,
Хоць змагаюцца з ёй, гоняць,
А яна жыве.

## З ВАСЕНЬНІХ НАПЕВАЎ

Ня гудзі так, восень,
Непагодай дзікай;
Ня крываўся, сэрца,
З нядолі вялікай.

Цяжанька марнеці
Ў жыцьця паняверцы;
І восень на сьвеце,
І восень на сэрцы.

Што год вясну бачым,
Гуляючы ў полі,
Дый вясны на сэрцы
Ня знаў я ніколі.

Моладасьць, вясёласьць
Ня жылі са мною;
Пейце-ж хоць вы, песьні,
З няшчаснай душою.

Ня гудзі так, восень,
Непагодай дзікай;
Ня крываўся, сэрца,
З нядолі вялікай.

## З ПЕСЕНЬ НЯДОЛІ

Шумныя бярозы
Пабяліў мароз.
Хацеў-бы я плакаць,
Дый ня маю сьлёз.

Хацеў-бы я пеці
Аб сваёй бядзе,
Дый мне сэрца ные,
Песенька ня йдзе.

Хацеў-бы, каб зімаў
Срогіх ня было,
Каб зарэла цягам
Летняе цяпло.

Хацеў-бы, каб доля
У хатцы жыла,
Каб з бурлівай рэчкай
Нядоля сплыла.

Хацеў-бы, каб воля
Гуляла са мной,
Каб сонейка грэла,
Як грэе вясной.

Але, божа мілы!
Долі ня відаць,—
Кайданы няволі
На руках зьвіняць.

Няма вясны, сонца,
Сьветлых дзён няма,—
Марозам марозіць
Срогая зіма;

Марозам марозіць,
Сьнегам адзяе,
На работу гоніць,
Есьці не дае.

Эх, пайду я ў поле
    Долечкі шукаць,
З востраю касою,
    Як на сенажаць!

Ой, пайду я ў поле,
    Як-бы на вайну,
Шукаючы волю,
    Шаблячкай махну!

Можа ўзойдзе доля
    Ясьненькай зарой,
Можа блісьне сонцам
    Воля нада мной!

## З ПЕСЕНЬ АБ СВАЁЙ СТАРОНЦЫ

Невясёлая старонка
Наша Беларусь:
Людзі—Янка ды Сымонка,
Птушкі—дрозд ды гусь.

Поле—горы ды каменьне,
Потам зьліта ўсё,
Сенажаць—адно карэньне,
Сівец ды куп'ё.

Родзе шнур несамавіта,
Колькі-б працы ўнёс,—
Ячмень з сажай, з званцом жыта,
З сьвірэпкай авёс.

Небагатыя і вёскі,
Садоў ў іх ня знаць,
Толькі часам дзе бярозкі,
Як тычкі, стаяць.

А па вёсках люд убогі,
Век бяда ў крук гне,
Вечна ў лапцях гное ногі,
Зрэб'е сьпіну тне.

Цёмны, цёмны народ гэты,
Трудна і сказаць,
Абарваны, неадзеты,
Ня ўмее чытаць.

З яго кожны насьмяецца,
Назаве дурным...
Бедны люд... так-бы, здаецца,
Плакаў разам з ім.

Так няміла, як магілай,
Нейк выдае
Беларусь, мая старонка,
Дый люблю-ж яе.

Я, калі-б з ёй разлучыўся,
Плакаў з усіх сіл...
Эй, бо дзе воўк урадзіўся,
Яму куст той міл!

Дома голаду дазнаю,—
Зьем хлеба, вады...
Горай жыці ў чужым краю,
Болей сьлёз, нуды.

Там ня знойдзеш братніх сэрцаў,
Там кожны чужым,
Будзеш жыць з нудой у спрэчцы
Ды адзін-адным.

Песьню родную зацягнеш,
Хто пачуе, хто?
Там любіць свой край прысягнеш
Лепей, як жыцьцё.

## НАД СВАЁЙ АЙЧЫЗНАЙ

Божа! гэткі сьвет тут
Моц стварыла твая!*)
Дзе-ж мой дом, дзе мой люд?
Дзе айчызна мая?
Дзе той час, у яком
Тут кіпела жыцьцё?
Свой народ быў кругом
І любіў сваё ўсё!
Сваю песьню ў лад свой
Ня стыдаўся запець,
І сярмяжкі сівой
Ня стыдаўся надзець!
Весяліўся народ,
Аж грымела сяло!
Ва ўсіх сьветлы паглёд,
Ва ўсіх шчасьце цьвіло.
А цяпер, а цяпер
Ня відаць ясных зор,
Хоць сабе сам ня вер,—
Зьнікла ўсё, як віхор!
Зьнікла ўсё, як імгла,
Няма славы таей;
Злая доля змагла
І мой край, і людзей!
Адны ў шар курганы—
Сьведкі бітваў—стаяць;
Косьці к ім груганы
Прылятаюць зьбіраць.
Прашмыгаюць вужы,
Канюх моліцца „піць",
Воўк прабег па мяжы,
Далей сьпіць усё, сьпіць!

*) Зварот поэты да нейкага „бога", які быццам „стварыў сьвет"—ёсьць ня болей, як поэтычны зварот. Біблейская казка аб стварэньні сьвету богам зруйнована сучаснай навукай і адкінута назаўсёды.

*Рэдакцыя.*

## ГЭТА КРЫК, ШТО ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю—Беларусь.

Хоць гарыста яна, каменіста яна,
Вераб'ю па калена, што сею, расьце,
Дый люблю-ж я яе, шкода хаткі, гумна:
О, такіх няма, мусіць, нідзе!

З саламянай страхой мая хатка, гумно;
Непачэсна, што праўда, віднеюць яны,
Дый на іх-жа сваёй клаў рукой бервяно
І зямлю раўнаваў пад зьвяны!

З саламянай страхой мая хатка, тачок!
Многа чутак наводзяць і дум на душу;
Я у сьне бачу іх, помню кожны разок,
І у сэрцы, як веру, нашу.

Хатка сьведкай была, як пазнаў божы сьвет;
З хаткі бегаў да школы вучыцца чытаць;
Пры лучыне ня раз гаварыў казкі дзед;
У двор з хаткі хадзіў зарабляць.

У тачок збожжа, сена я клаў кожны год;
У ім першы раз Зосі сказаў, што люблю...
У ім з дзеткамі посьле зьбіраў умалот,
І цяпер пры ім лазьню таплю.

А хоць гора зазнаў, зьнікла доля навек,
Зося парыць зямлю, у сьвет дзеці пайшлі,—
Тут-жа неяк прывык да ўсяго чалавек,
Прырос неяк, як корч да зямлі!..

Тут усякая рэч як гавора з табой:
І крывая бярозка, і столетні дуб,
Сьнег халоднай зімой, траўка летняй парой,
І асьвер і абцінены зруб...

А бурлівы ручай і зялёненькі сад!—
Хоць, брат, сэрца аддай і душу хоць аддай!..
Сам садочак садзіў гадкоў дваццаць назад,
А цяпер-жа вялікі, як гай!

З садам гэтым я зжыўся, як з хаткай сваей;
Знаю, колькі з яго маю яблык і сьліў;
Ночак шмат скаратаў у ім з Зосяй даўней,
Шмат чаго у ім я перасьніў!

Ой, бывала, як сонейка блісьне вясной,
То-ж-то рай, далібог!—захліпаецца дух,—
Як на ўсе на лады, на садок увесь той
Засьвяргоча рой птушак-пяюх!

Тут кукуе зязюля, ці шмат пражыву;
Там чырыкае шпак, там пяе салавей;
Тут крычаць вераб'і і клююць крапіву;
А на ўсё сонца грэе цяплей і цяплей!..

Цяпер глянь, браце, вокам на поле, на луг,
На сівец-сенажаць, на вузкія шнуры,
Дзе сьвістала каса, барабаніў дзе плуг,
Дзе з зары працаваў да зары:

Тут даўгі-даўгі шнур зелянее з аўсом;
Бліжэй гоні адны, на іх—бульба у шар,
А там далей даўгі шнур віднее з жытцом;
А там голы, як бубен, папар.

Пасяродку аўсу галавісты лянок
Зелянее, інакш адбівае сабой;
Там вусаты ячмень, а там далей на бок
Ад ячменю—дзірванчык з лазой.

Ды і што гаварыць!—дзе я толькі гляджу,
Бачу родненькі край, сваю матку-зямлю;
Тут і людзі... ат... што!.. аб іх посьле скажу...
Долі іх надта-ж я ня люблю!..

А вот як ня любіць гэта поле і бор,
І зялёны садок і крыклівую гусь!..
А што часам тут страшна заенча віхор,
Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!

## А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У вагромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячох,
На руках ў крыві, на нагах ў лапцёх?
— Сваю крыўду.

А куды-ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды-ж нясуць на паказ сваю?
— На сьвет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несьць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

А чаго-ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

## З ПЕСЕНЬ А БІТВАХ

Іграюць сурмы баявыя,
Віхор разносе іхні звон,—
І песьні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

Аб славе цуднай граюць сурмы,
Аб шчасьці люду усяго;
Завуць змагаць няволі штурмы,
Завуць... ой, многа да чаго!..

Дый дарма звоняць сурмы гулка!
Народ абманены прыціх,—
Той сьпіць, той ходзе бяз прытулка,
А жаль і роспач ува ўсіх.

Мучыцель толькі рад, снуецца,
Як шакал дзікі па трупох,—
З ахвяр сваіх ваўком сьмяецца,
З ахвяр, што мруць у ланцугох.

І відзець страшна ў путах сілу,
Людзкі ўвесь з жалю енк і плач,
Аж хоць кладзіся у магілу
сьвету гэтага ня бач.

І ходзіш так, як пагарэлы,
І хочаш людзям скаргі слаць,
Азвацца крыкам на сьвет цэлы:
Дзе праўды, волі дзе шукаць?!

А сурмы граюць баявыя,
Віхор разносе іхні звон,—
І песьні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

## МОЖНА...

Можна хатку убраць тынкаваньнямі з плесьні,
Можа віхар нядоляй заенчыць над ей;
Можна пець салаўіныя шумныя песьні,
Што шчасьлівы ўвесь сьвет, няма гора ў людзей.

Можна сьвет упрыгожыць у кроў і пажары,
Можа гром загрымець і паслаць пяруны,
Могуць гінуць нявінныя ў бітвах ахвяры,
Можна слабым, нязбройным надзець кайданы.

Але ёсьць-жа вялікая праўда на сьвеце,—
Праўда, сілаю роўная сонца агням,—
Цяпер сьпіць, але ўстане і бляск свой расквеціць,
За сваё паніжэньне адплаціць людзям.



* * *

Я відзеў душы сільныя,
Якім віхры ўсьміхаліся
І пелі песьні дзіўныя,
Каб вышлі і змагаліся;

Змагаліся з няпраўдаю,
Змагаліся з кайданамі,
З кайданамі пякельнымі,
З людзкіх касьцей кованымі,

І вышлі людзі сільныя
На бітву на крывавую
Дый сьмерцяю акрыліся,
Хоць несьмяротнай славаю.

І толькі плакаць хочацца
Над гэтымі ахвярамі,
Над гэтым краем змучаным,
Над гэтымі цяжарамі.

І толькі плакаць хочацца,
Прад цэлым сьветам жаліцца,
Што так зямелька родная
З ног ад нядолі валіцца!



## ПЕСЬНЯ ВОЛЬНАГА ЧАЛАВЕКА

Дарэмна сьвістамі нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцень шаек,
Акулі рукі ў кайданы,—
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Ня страшны мне Сібір, вастрогі,
Меч катні над шыяй маей,
Хоць і скуюць мне рукі й ногі,
Хоць зрэнкі выдзяруць з вачэй,—
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Нам есьці хочацца тым болей,
Чым горай голад прыгняце,
Тым рвёмся больш мы і да волі,
Чым меней к нам яе ідзе.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Дарэмна гіканьне нясецца
Дэспотаў подлых над зямлёй,
Што воля ў путы акуецца,
Згняцецца сілаю, пятлёй.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Ці-ж людзі сонца згасіць могуць,
Згасіць, як сьвечку, яснасьць дня?
І волі-ж дэспоты ня змогуць,
Бо воля сонейку раўня.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

## ВОЛЯ

І люблю-ж я, люблю
Гэту волю сваю!
Зямлёй лягу ў зямлю—
Вазьму волю сваю.

Нашто сокалам быць,
Так высока лятаць,—
Толькі-б воляю жыць,
Толькі-б путаў ня знаць.

Эх, каб так раскаваў
Петлі ўсе ў ланцугу,—
Я-б усім паказаў,
Як быць вольным магу!

Зямлёй лягу ў зямлю,
Але перш прапяю,
Як я волю люблю,
Гэту волю сваю!

## З ПЕСЕНЬ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА

Я—багач, я—магнат!—
Усім рад, усім сыт!
Што мне пан, што мне кат!?—
Цэлы сьвет мне адкрыт!

Я усё закляну,
Усё сілай папру,—
З гор зраблю даліну,
А з далінкі гару!

Затрымаю ваду,
Цёмны бор павалю,
А як з сошкай пойду,—
Увесь сьвет накармлю!

Кажуць, кволы дух мой...
А ўсё-ж я маладзец:
Замахаю касой—
Трупам ляжа сівец!

Кажуць, крыўджу людзей...
Ах, каб іх жа багі!—
Ці-ж ня з працы маей
Карыстае другі?!

Эй, дуж я да ўсяго—
На ральлі, на лугу!
Толькі гора свайго
Я змагчы не магу!..

Толькі шнур мой вузкі
Град аполе, пажне,
І залом ведзьмакі
Заплятуць на мяне.

Толькі ў хатцы маей
Зімой сьвішча віхор,
Хлябок вынасе зьмей,
Дроў ня дасьць панскі бор.

Толькі, як памру я,
Прападаю, як мыш,—
Няма хоць-бы гнільля
На труну і на крыж...

Толькі, як памру я,
Ня ўмірае бяда,—
Хоць з магілкі маей
Насып змые вада.

## Я МУЖЫК-БЕЛАРУС...

Я мужык-беларус,—
Пан сахі і касы;
Цёмен сам, белы вус,
Пядзі дзьве валасы.

Бацькам голад мне быў,
Гадаваў і карміў,
Бяда маткай была,
Праца сілу дала.

Хоць пагарду цярплю,—
Мушу быць глух і нем;
Хоць сьвет хлебам кармлю,—
Сам мякіначку ем.

З цяжкай працы маей
Карыстаюць усе,
Толькі мне за яе
Няма дзякуй нідзе.

Глянь, высокенькі бор,
Вокам нельга прабіць:
Загудзеў мой тапор,—
Як блін, поле ляжыць.

Сошку з вышак сьцянуў,
Кабылічку ўшчаміў,
Плечы трохі прыгнуў,—
Лес на пахань зрабіў!

Дый засеяў кусок,
Потым з жонкай пажаў...
Пан пшанічкі тачок—
Люба глянуць—наклаў.

Дык вось, людцы, які
Я мужык-беларус!
Пады лбом сінякі,
Цёмен сам, белы вус.

Эй, каб цёмен ня быў,
Чытаць кніжкі умеў,—
Я-б і долю здабыў,
Я-б і песенькі пеў!

Я-б патрапіў сказаць,
Што і я—чалавек,
Што і мне гараваць
Надаела ўвесь век.

## НА СТАРУЮ НОТУ

Сьвеце месяц, сьвеце
З вечара да рана,
Арэ мужык поле
Не сваё, а пана.

Не сваё так поле
Мужычок пахае,
Бо сваёй зямелькі
Так нямнога мае.

Пахае, пахае
І галосіць песьні.
Ўвесь потам пакрыты,
Ўвесь крывавай плесьняй.

У даль у шыроку
Гоне думкі роем,
Гоне іх і ў прышласьць
Глядзіць з неспакоем.

Вось надыйдзе восень,
Двор багацьце злажа,
Будуць поўны торпы
І сена і збожжа.

Весела пан з паняй
Едзе заграніцу,
Мужыку-ж хоць зубы
Злажы на паліцу.

Аручы чужое
Ад Юр'я да Спаса, *)
Сабе й не згарусьціў
К восені запасаў.

*) Сьвята Юр'я поэта бярэ, як звычайна прынята ў хлебаробаў, пачаткам працы на полі, не прыдаючы яму ніякага рэлігійнага значэньня. Сьвята Спаса – канчаткам гэтае працы таксама бяз іншага значэньня. *Рэд.*

Бясхлеббе глухое
На стале засядзе,
Яго з дзецьмі, з жонкай
Пасвара, павадзе.

У карчму загоне
На гора-забаву,
Кажушок, бравэрку
Даць скажа ў заставу.

Сьвісьне ў хаце холад,
Сьвісьне папацёмку,
А ў бары у панскім —
Сосна у сасонку.

І шумяць сасонкі
Мужычку над вухам:
Кінь смутныя думкі,
Кінь ды будзь ты зухам.

Надыйдзе гадзіна,—
Зямелькі прыбудзе,
Запануе доля
У бедным у людзе.

Мужычок сасоньнік
Чуе і ня чуе,
Арэ й ціха плача,
Аб долі бядуе:

Ня шумі, бор панскі,
Так удзень і ўночы,
Пакуль сонца ўзыйдзе,
Раса выесьць вочы.

Раса выесьць вочы,
Пот цела паране,
Пакуль будзе ў хаце
Долі панаваньне.

## АД РАНА ДА РАНА...

Ад рана да рана
Пейце, старцы, дзеці:
Добра меці пана,
А лепей ня меці.

Пан за тваю працу
Нібы-то й заплаце;
Знай плату з палацу!—
Зьбярэш з ёй багацьце!

За гадзін семнаццаць
Працы ў дзень нязьменьне,
Выйдзе грошаў дваццаць,
Або й таго меней.

Ой, ды лёгкай служба
Нідзе ня бывае,
Бо служба—ня дружба,—
Няволя цяжкая.

Трэба ведаць, знаці
Службы гараваньне:
Позна легчы спаці,
А ўстаці зараньне.

На слаце й марозе
Рабіці зьзіханым,
Дрыжэці ў парозе
Перад грозным панам.

Заціркай найболей
Гавець, разгаўляцца,
Як сьвіньні, на полі
З блыхамі валяцца.

Лае пан багаты,
А ты цярпець мусіш,
Хоць не вінаваты,
Языка прыкусіш.

Горш якой скаціны
Спаганяць, зьняславяць,
Кляцьбой бяз прычыны
Спаткаюць, адправяць.

Ой, позна і рана
Пейце, старцы, дзеці:
Добра мецi пана,
А лепей ня мецi.

Ў службе гора болей,
Як якіх выгодаў;
Хто ня любіць волі,—
Ня нашага роду.

## ВОСЬ ТУТ І ЖЫВІ...

Няма хлеба, няма солі,—
    Чужому рабі;
Няма шчасьця, няма долі,—
    Вось тут і жыві!

Во зіма,—мароз вялікі,—
    Дровы ў Менск цягні;
Дзеткі зьмёрзьлі: енкі, крыкі,—
    Вось тут і жыві!

Прайшла зімка, цёпла стала,
    Вясна на зямлі,
А тут корму, хлеба мала,—
    Вось тут і жыві!

Вясна, лета—час рабочы:
    Ары, касі, жні;
Пот крывавы заліў вочы,—
    Вось тут і жыві!

Прайшло лета, прышла восень,—
    Падаткі нясі,
А дзяцей абдзёртых восем!—
    Вось тут і жыві!

Вот і будзь шчасьлівы, браце,
    Долі не кляні:
Холад, голад, бяда ў хаце,—
    Вось тут і жыві!

Працуй цяжка дні і ночы,
    Пагарду цярпі;
Сказаў праўду—дзяруць вочы,—
    Вось тут і жыві!

У палацы п'юць, гуляюць,
    Сьвецяцца агні;
Мяне-ж з хаты выганяюць,—
    Вось тут і жыві.

## ГОНІШ МЯНЕ, ПАНІЧОК...

Гоніш мяне, панічок,
Ды ня ў пору з хаты,
Што я бедны мужычок,
Доляй не багаты.

Гоніш з хаты, хаця я
Плаціў акуратне,
Хоць за гонькі, дом з гнільля
Драў ты грош астатні.

Ці-ж на тое табе бог
Даў багацьця болей,
Каб ты бедных душыць мог,
Як быкоў у полі?

Гэй, з табой-жа мы браты,
Як лічыць з Адама,
А ты гоніш?!.. Каб-жа ты
Цягаўся таксама!

Каб цягаўся рабаком,
Бо рабак ты з сьмецьця,—
І пазнаў, як бедаком
Кепска жыць на сьвеце!

## З ПЕСЕНЬ БЕЗЬЗЯМЕЛЬНАГА

Ох, як гляну, гляну я
На жыцьцё паганае,
Цісънуць думы знаныя,
Жалем выліваныя.

У цябе, саколіка,
Ані свайго полейка,
Ані свайго воліка,
Ані свайго століка.

Ходзіш ты вячорамі
З ціхаю пакораю,
Бачаць неба з зорамі,
Полейка з разорамі.

І клянеш напэўнае
Гора неразьвейнае,
Долю пустасейную,
Долю безьзямельную.

Толькі думы думныя
Чуюць хмары буйныя,
Хвойкі, елкі шумныя
Дый ня людзі чуйныя.

Вось, як гляну, гляну я
На жыцьцё паганае,
Бачу ўсё мне знанае,
Сьлязьмі паліванае.

## А ТЫ, БРАЦЕ, СЬПІ!

Вясна. Сонца узыходзе,
    Сьвеце на зямлі;
Дух збудзіўся у народзе,—
    Усталі, пайшлі.
Ёсьць і працы, ёсьць і поту,--
    Спаць няма калі!
Дружна валяць на работу,—
    А ты, браце, сьпі!..

Сьпі, на сьлёзы і на гора
    Рукою махай;
Хоць зрабіў-бы ты з іх мора,
    А кажы: няхай!
Няхай тыя уставаюць
    Рана да зары,
Што свабодачку кахаюць!—
    А ты, браце, сьпі!..

Недастатак госьце ў хаце,
    З крыўдаў дух замёр;
Дзеці, жонка шлюць пракляцьце...
    Ты-ж, як той тапор!
Дрэмле сошка, і адлогам
    Шнур ляжыць даўгі;
Ржа касу есьць пад парогам...
    А ты, браце, сьпі!

Сьпі, а можа хто заблудзе
    У твой бедны край.
І цябе з душой разбудзе,—
    Крыкне: „Уставай!"
Ты на гоман той народны
    Паходню бяры
І другіх будзі з паходняй!..
    А мо' лепей... сьпі?!.

## ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, МУЖЫЧОК!

Шуміць шумненька барок
Песьняй жаласьнянай;
Люлі, люлі, мужычок!
Сьпі—ўставаць зарана!

Яшчэ поўнач пятухі
Першыя ня пелі;
Тваe коні-валахі
Сена не паелі.

Шыпяць, сьвішчуць па лугох
Вужы, скарпіякі,
А па стайнях, па хлявох
Лазяць ваўкалакі. *)

Ведзьмы, совы, кажаны
Круцяцца, лятаюць,
На сваіх бацькоў сыны
Залом заламляюць.

Зьмей панёс чараўніком
Грошы ад скупога;
Ваўкі выюць пад лясом,
Аж ляціць трывога.

Шуміць шумненька барок
Песьняй жаласьнянай;
Люлі, люлі, мужычок!
Сьпі—ўставаць зарана!

Яшчэ вокал цемната
Над сьветамі пануе,—
Яшчэ міласьць, дабрата
Людзей не раўнуе...

*) „Ваўкалак“—парасійску „Оборотень“, паўкраінску „Перевертень“, узяты поэтаю з народных павер'яў і ўжыты для большай вобразнасьці. *Рэд.*

## ЭЙ, СКАЖЫ, МУЖЫЧОК!..

Эй, скажы, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?—
Ці ўтапіў ў ручаёк,
Ці прапіў, ці праеў?

Ці змарозіў ў мароз?
Ці у лапцях стаптаў?
Ці на рынак завёз,—
На хлеб дзецям прадаў?

Ці зарэзаў касой?
Ці сахой заараў?
Ці рыдлёўкай цяжкой
У зямлю закапаў?

Ці на жэрдку у плот
Сьпілавала піла?
Ці загрыз яе пот?
Ці сьляза заліла?

Мо‘ ў заставу аддаў,
Як падаткі плаціў?
Можа пан не дадаў,
Як за працу плаціў?

Ці адбіў яе град,
Як жытцо адбіваў?
Ці табе яе бог,
Як радзіўся ня даў?

Дык скажы, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?—
Ці ўтапіў ў ручаёк,
Ці прапіў, ці праеў?

## З ПРАСОНЬНЯ

...Не! досыць, досыць! трудна далей
Цярпець, ціхія сьлёзы ліць!
Нічога мне, ой не, ня далі,
А ўзялі ўсё, чым мог-бы жыць.

Нявольнік, кланяцца век трэба
Людзям; век з потам кроў цячэ,
Няма патолі і ад неба:
То студзе, то сьпекай пячэ.

Пярун у хатку б'е крывую,
Пасевы нішчыць суш і град,
Авечку воўк задраў старую,
Скрыпіць нямазан панарад.

Худзее жонка ў сьлёзах, працы,
Трасе дзюравым каптаном...
Гэй, ты, што песьцішся ў палацы,
Меў-ж лятасьць над маім жыцьцём?!

Я сам... мне ногі гное лапаць,
Аборы ўелісь да крыві...
О, кроў! калі-ж ты кінеш капаць?
О, доля, раны зажыві!

Грызецца зрэбная кашуля,
З сярмяжкай трудна пагадзіць, —
Зімой ад сьцюжы не атуле,
А ўлетку горача хадзіць.

Аблазяць спрэўшыя ад поту
Пад шапкай дрэннай валасы,
Нажыў удушша і ламоту
Ад тапара, сахі й касы.

На ўгры пабіў мазоль мне рукі,
Век цэлы пыл за акрыцьцё...
О, колькі гора, колькі мукі
Г'ясеш, паганае жыцьцё!

Ніхто й пацех мне не гавора
За долю горкую маю,
Нясецца толькі рэха з бору,
Як песьню скрозь сьлёзы пяю.

Гэй, растлумач, выродзьдзе ўражжа,
Трутні, зладзеі пчольных прац!
Чаму, дзе труд крывавы ляжа,
Цьвіце загон, стаіць палац?

Чаму я сею, а другія
З сяўбы маёй зьбіраюць плён?
...О, досыць, досыць! сэрца ные,
Грыміць пагудкі новай звон.

Чакаў і днём, чакаў і ночай
І ўжо абрыдала чакаць,
Ўстаю, іду, куды йдуць вочы,
За крыўды плату адшукаць.

## ДЗЕ НЯ ВЫЛЯЦІ З НЯВОЛІ...

Дзе ня выляці з няволі,
Ад пачатку да канчатку
Ўсюды ўбачыш сваё поле,
Ўсюды ўбачыш сваю хатку.

Ўсюды ўбачыш чалавека,
Што цямнотай цябе разіць,
З сьлязой вечнай пад павекай,
Вечна ў лапцях і сярмязе.

Хоць-жа сэрца, што за сэрца!
Агньня, хцівасьці ня знае,
Жывучы-ж у паняверцы
Толькі гора к збыцьцю мае.

Горам чорным, ой, багата
Недарыла люд наш доля;
Гора ў хаце і за хатай,
Гора ў полі і за полем.

Вецер хаткаю калоце
І па шчылінах галосіць,
Гаспадар зьлёг ад калоцьця,
З дзяцьмі жонка есьці просіць.

Пустка ў сьвірні і ў вадрынцы,
Сьвінка хоча штось здыхаці,
Вые сучка на дзядзінцы—
Памрэ нехта ў гэтай хаце.

А у полі на загонах
Аруць віхры, барануюць,
Хутка, дружна, не натужна
Шнуры вузкія руйнуюць.

Далей—паркай сытай шпарка
Праляцеў пан у карэце,
А за ім паштовай паркай
Прэ чыноўнік на расьсьвеце.

А на пустцы апаўночы
Ведзьмы, чэрці пяюць, граюць,
То сьмяюцца, то рагочуць,
Знахароў-вужоў склікаюць.

І ўсё гэта, хэўра гэта:
Ветры, віхры і сабакі,
Ведзьмы, чэрці з таго сьвету,
Пан, чыноўнік, ваўкалакі—

Ўсе навыперадкі пруцца,
Гікам, сьмехам чартаўскімі
Заліліся і нясуцца,
Аж зямля стогне пад імі.

А за імі, нібы хмара,
Йдзе мужыцкае ўсьлед гора,
Праз пасевы, праз папары,
Так сягоньня, як учора.

І мужык—пан у старонцы—
Гора гэта вечна бача,
Бача, што толькі ў карчомцы
І ў магіле ён ня плача.

## АХ, ЦІ ДОЎГА...

Ах, ці доўга, брацьце, будзем
Пад няволяю стагнаць?
Ах, ці доўга сваё шчасьце,
Сваю долю праклінаць?

Ці так цягам, як сягоньня,
Цярпець будзем мы бяду?
Ці-ж нам горкая нядоля
Напісана на раду?

Жыцьцё нашае, нас бедных,
Заганяных мужыкоў,
Горш за ўсякае стварэньне,
За сабак і чарвякоў.

Хоць мазольнымі рукамі
Ты працуеш кожны дзень,
Хоць у гэтай цяжкай працы
Сохнеш з голаду, як цень,—

Але твае жонка, дзеці
Хлеба просяць у людзей,
Але тваім жонцы, дзецям
Няма чым прыкрыць грудзей.

Ці мароз, ці сьнег вялікі,
Басяком бяжыш на двор,
Бо такая твая доля,
Такі яе прыгавор.

Калі часам дзе двузлотку
Зарабіў ты ў пана дзе,
Дык на чынш і на падаткі
Яе воласьць забярэ.

Хоць нам гэту зямлю-матку
Бог бясплатна дараваў *)
І плаціць чыншоў, падаткаў
За яе нам не казаў,—

Дый на гэта тут ня помняць
І, як могуць, так дзяруць,
Апасьледнюю кароўку
За падаткі прададуць.

Хто тут вінен, разгадайце,
Ці тут бог, ці чорт праклятьі?—
Але толькі што ня байце,
Самі-ж многа вінаваты!..

---

*) Поэта ў гэтым месцы бярэ бога ў тым сэнсе, у якім працоўны народ ужываў яго пры змаганьні за зямлю. Зямля божая—значыць ня царская, народная. *Рэд.*

## НА ДОБРЫ СТАРЫ ЛАД

Забудзься і працуй!
Ні сэрца, ні душы,
Ні дум сваіх ня чуй;
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

Хоць хаткаю тваёй
Трасуць што-дзень вятры,
І песьняю сваёй
Разносяць стогі стары
Над хаткаю тваёй,—
Забудзься і працуй!
Нуды пажар тушы,
На вір жыцьця ня злуй,
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

Хоць ночка цемнатой
Заслала сьцежкі ўсе,
Праходзіш ты кудой
Па сьлёз сваіх расе
З адвечнай цемнатой,—
Забудзься і працуй!
Прашкоды ўсе крышы,
На долю ня крыўдуй,
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

Хоць гора ўсьлед бяжыць,
А каменем-гарой
На сэрцы жаль ляжыць,
Хоць смутна, божа мой,—
Забудзься і працуй!
Ні сэрца, ні душы,
Ні дум сваіх ня чуй,
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй.

## ПРАЦУЙ

Працуй, бедачышча, гаротна,
Ці прэеш ад поту, ці мерзьнеш!
Гні плечы свае ты ахвотна,
Бо прыдзе гадзінка—і шчэзьнеш.

Ой, шчэзьнеш, а толькі ня бойся,
Што ўжо і засыпяць зямлёю:
Як з горам у дружбу завёўся,
Яно йшчэ паходзіць з табою.

Цяпер, малады і ахвочы,
Ты рвешся, як птушка там з клеткі,
Да працы і ўдзень, і уночы,
Дый зможа крывавы труд гэткі.

Бяз часу прыжме, апануе
Цябе неадчэпная старасьць,
І моладасьць скрыша ўдалую,
Адгоне ад працы няздарасьць.

Пахіляцца плечы ад горбу,
Удушша дыхнуць не пазволе,
Надзенеш старэцкую торбу
І пойдзеш у сьвет, на прывольле.

А мусіш-жа ўперад наўчыцца
Ты пацераў доўгіх, дзядоўскіх,
Бо, як не патрапіш маліцца,
То выганяць гэткага з вёскі.

Ты мусіш наўчыцца, бо маці
Даўжэйшых наўчыці ня ўмела,
Ды ў беднасьці часу ці-ж хваце
За гэткае брацiся дзела.

Дык вось, як узброішся гэтак
У пацеры, торбы і пугі,
І ў рваны старэцкі адзетак,—
Павер, будуць брамы на ўслугі.

З пагардай, як лішняй сабацы,
Швырнуць табе лустаю хлеба;
Дзіця цябе будзе пужацца,
Пачне непагодай выць неба.

А ты?.. Ты цані й гэту працу,
Хоць збыцца яе і ня лёгка;
Ня йдзі жабраваці к палацу,
Бо стуль цябе выгане лёкай.

## НУДА

Будзь ты дуж, як вада,
Як жалеза цьвярды,—
Калі-ж нойдзе нуда,
Ты ня зможаш нуды!
Як благая напасьць,
Атуманіць сабой,
І спакою ня дасьць,
Аж заныеш душой.
Аж заплачаш душой,
Жаль ахопе такі!
І ня прыдзе спакой
Да магільнай даскі.
На сьвет будзеш глядзець
Ашалелым ваўком;
Песьні ўздумаеш пець,—
Адазьвешся выцьцём.
Стане пеклам жыцьцё,
Людьзі—горш ад зьвярэй;
Думаць будзеш усё,
Як памерці скарэй.
Эй, дзянькі каратаць
Трудна з ёю, бяда!—
Ня дасьць ночкаю спаць
Усё гэта нуда!
Змуча, хоць ты вазьмі
І ня пі і ня еж;
Вочы зойдуць сьлязьмі,
І свой лёс праклянеш.
Адно шчасьце людзей,
Толькі змога тады,—
Калі працай сваей
Зваляць камень нуды;
Калі мысьль адна іх
У жыцьці павядзе:
Працаваць за траіх,
Каб ня дацца нудзе.

## НЯ РВІСЯ К БАГАТЫМ

Ці пойдуць пажары, хваробы пад стрэхі,
Ці голад, ці холад, ці смутак у хаце,—
Ня йдзі да палацу шукаці пацехі!—
Там толькі пачуеш зласьлівыя сьмехі.
Ой, раю—ня рвіся к багатым, мой браце!

Ня рвіся к багатым ты, доляй убогі,
Ня нойдзеш сэрц братніх, дзе толькі багацьце!
Там будзеш сабой выціраці парогі,
Табе, як сабацы, косьць кінуць пад ногі...
Дык слухай! ня рвіся к багатым, мой браце!

Багаты гуляе, адзеты і сыты,
Багатаму цэлы век сьвята па сьвяце,—
Ты-ж вечна працуеш, век потам абліты!
Дык будзь чалавекам, бо ты-ж не забіты!
Падшэптаў багацьця ня слухай, мой браце!

## ЯКІЯ

Сыты, раскормлены,
Вясёлы вечна,
Сільны над стан,
З трудоў слабейшага
Жыве бясьпечна,—
Гэта—ваш пан.

Худы, прыгорблены,
Працай сьцяганы,
Ў вобуві з лык,
Холадам, голадам
Век катаваны,—
Гэта—мужык.

## ДУЖЫЯ І СЛАБЫЯ

На балі жыцьця шумнага
Ня ўсім адзін абед,—
Для дужага і слабага
Не аднолькоў прывет.

Сядзіць дужы з павагаю
За бесядным сталом,
На куце ён пасаджаны
Жыцьцём-гаспадаром.

Прынукай, просьбай дужага
Частуюць у стале,
І чарка прад ім поўная,
І служаць яму ўсе.

Дзе-ж месца, дзе слабейшага,
Загнаных месца дзе?
К парогу з страхам ціснуцца;
Яны—не ў грамадзе.

Аб'едкі з стала дужага
З пагардай ім швырнуць,
І дужым недапітую
Ім чарку паднясуць.

Зайграла гучна музыка,—
Пайшоў дужы гуляць,
На гэта-ж толькі слабыя
З-паза вуглоў глядзяць.

## ПАШКАДУЙ МУЖЫКА!

Пашкадуй мужыка-бедака,
Ты, што вечна адзеты і сыт,
Пашкадуй—не адсохне рука,
Бо яму сьвет да шчасьця закрыт

Як асеньняя ноч, як туман,
Цёмны сам, цёмна ў хатцы крывой;
На плячох абарваны лахман,
Ногі ўкручаны цьвёрдай лазой.

Холад, голад, хваробы цярпіць
Ён за кроў і за працу сваю.
Прыдзе ў хату—ў парозе стаіць,
За сталом яго месца—з краю.

І ласкавых ён слоўцаў нідзе
Не пачуе, ня кінуць яму;
Не ўспаможа ніхто у бядзе,
Ня дасьць хлеба і дроў на зіму.

Пашкадуй-жа ты, брат, мужыка,
Каб было яму жыць весялей!
Пашкадуй—не адсохне рука,
Пашкадуй, не чакай, а хутчэй!

Пашкадуй, бо з яго цемнаты
Кожны рад карыстаць заўсяды;
Пашкадуй ты яго, сіраты,—
Бо на сьвет многа прыдзе бяды.

Бо за крыўду сваю адамсьціць,
Сьвіням будзе крыві не пабраць!—
Адамсьціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць.

## КЕПСКА...

Кепска, браткі, жыць нам стала!
Няма шчасьця, добрай долі;
Калі хлеб ёсьць—няма сала,
Хоць гарэлкі дык даволі.

Ой, гарэлка, як з крыніцы,
Да нас цягам прыплывае;
І п'е кожны, ня журыцца,
Хто які грош толькі мае.

П'юць усе, хоць бяда дома,
Хоць льлюць сьлёзы жонка, дзеці.
Хоць хлеб—зёлкі ды салома,
І таго няма у клеці...

П'юць, хоць грош крывавым потам
На гарэлку здабываюць;
П'юць, хоць посьле дзе пад плотам
Сваю долю праклінаюць...

## ГАРЭЛКА

Атрутай маею
Хто стаў заліваццa,
Астаўце надзею
Мець шчасьце у хатцы.

Мець шчасьце, багацьце,
Жыць згодна з раднёю,
Спакою зазнаці,
Ня плакаць душою.

Я з дзеткамі. з жонкай
Дзень кожны паваджу,
Зазнацца з палонкай
Пад'юджу, параджу.

Маёй як атрутай
Душу атуманіш,
І мысьлі паплутаў,
І сьветла ня глянеш.

Усе людзі—дружочкі,
Ня людзі—анелі!
Адрокся-б сарочкі,
Каб толькі хацелі.

Такім добрым будзе
Той п'яны бяз меры,
Хоць будуць-жа людзі
Глядзець, як на зьвера.

Хоць будзеш ты горай,
Як зьвер, выглядаці,
О, зьвер без пакоры,
Што шоў-бы кроў ссаці.

На лоб павылазяць
Чырвоныя вочы,
І воблік твой сказяць,
Твар-плямы абскочаць.

Расхрыстаеш грудзі
Ты, п'яны гуляка,
Язык-жа твой будзе
Брахаць, як сабака.

О, дзікім, о, страшным
Зраблю без прагляду.
Га! бойся, няшчасны,
Быць пад маёй ўладай.

Сягоньня шчасьлівы,
Як мною зальлешся,
А заўтра, о дзівы!
Піць больш заклянешся.

І каяцца будзеш,
Мяне праклінаці,
І сам сябе злудзіш.—
Карчомкі ня знаці.

Парваць-жа ня меціў
Маіх, брат, кайданаў,
Праходзе дзень трэці,
Ты йдзеш ужо п'яны.

Атрутай маею
Хто стаў заліваца,
Астаўце надзею
Калі-будзь расстаца.

## ЧАГО НАМ ТРЭБА

Трэба нам, трэба перш-на-перш хлеба,
Хлеба, каб стала на цэлінькі год,
Дроўцаў палена, конікам сена,
Капейку якую сабе на зварот.

Трэба нам, трэба, як сонца з неба,
Лепшы, даўжэйшы зямелькі шнурок.
Сытай скацінкі, новай хацінкі,
Каб красаваўся пры хатцы садок.

На сьвята скварку, часам і чарку,
Булкі і сыра гасьцей частаваць.
Цэлы адзетак, кніжак для дзетак,
Трэба нам школы па вёсках прыдбаць.

Роўнай дарогі, ботаў на ногі,
Мультану жонцы на лепшы каптан;
Жыць сьмела ў хатцы і не баяцца,
Каб не ганялі у воласьць, у стан.

Доктара трэба, шпіталь нам трэба.
Дарма лячыліся-б дзе бедакі,
З торбай-жа ў старасьць каб не цягацца,
Трэба устроіць прытулак такі.

Ой, многа, многа для вёскі ўбогай
Трэба ўчыніці, каб добра жыла,—
Ня плакаць толькі, ня раніць болькі,
Болькі, якую нядоля дала.

Працай ўсё зможам, новы быт зложым,
Гора затопчам сільнай нагой,
Зможам нядолю, зможам няволю,
Сьветач запалім шчасьця свайго!

Зьясьнеюць ночы, высахнуць вочы,
Зьлітыя горкай бядноты сьлязьмі;
Голад загіне, бяда пакіне!
Долю мець будзем,—эй! будзем людзьмі!

## ЛЮБІМОСЬ, МАЕ СУСЕДЗІ!

Любімось, мае суседзі!
  Кіньма сваркі, звадкі;
Жыйма, як родныя дзеці
  Аднэй нашай маткі!

Што ты маеш з сваёй звадкі,
  З дзікай ненавісьці?
Людзі толькі насьмяюцца,
  І ўсёй тэй карысьці.

Людзі толькі насьмяюцца,
  Ўрагі скарыстаюць,
Над душой чорт запануе,
  Ўнукі цябе злаюць.

А пачнема жыці ў згодзе
  Ў пачцівай, харошай,—
Знойдзем долю, знойдзем волю,
  На зваротак—грошы.

Ўрагом нашым прыступіцца
  Трудна тады будзе,
Ды ў суседзяў ласку маюць
  Згодлівыя людзі.

Дык любімася, суседзі!
  Кіньма сваркі, звадкі;
Жыйма, як родныя дзеці
  Аднэй нашай маткі!

## ШЧАСЬЦЕ

Мы гонімся часта за мараю блуднай,
Якая ў нас шчасьцем завецца,
Дый трудна яе нам злавіці, ой трудна,
Хоць блізка, туж блізка, здаецца...

Аднымі рай-шчасьце завецца багацьце,
Што сьвеціцца грошы машонкай;
Другімі—парадак і згода у хаце,
А іншымі—ўдалая жонка.

Той рвецца да славы шырокай, вялікай,
Той—жыці нязнатна, як дзеці;
Той—песьняй азвацца нясвойскай і дзікай,
Той—родную думку запеці...

І роім у думках так цэлымі днямі,
Ды шчасьце ня роіцца ройна...
А сьлёзы другіх, што ліюцца прад намі,
Ці-ж могуць даць спаць нам спакойна?..

## ЗАСЬВЯЦІЛА ЦЯПЛО...

Засьвяціла цяпло бляскам радасьці яснай,
Разбудзіла ўвесь сьвет ад зімовага сну;
Эх, напрасна віхор енча ў плоце, напрасна:
Бачым сьветласьць кругом, бачым сонца-вясну!

Як з вадзіцы сьвянцонай нячыстая сіла*),
Паляцелі расстаўшы і сьнег і мароз;
Вясна холад змагла, вясна сьвет ажывіла,
З вясной меней на сьвеце і смутку і сьлёз!

Ва ўсіх шчасьце на твары вясёлкай гуляе,
Ды ахвоціць да працы, да праўды сьвятой,
Невясёлыя думы і сны разганяе,—
Аж так хочацца жыць усяёю душой!

Аж так хочацца жыць і жывую надзею
Калыхаць у душы, думку сьніць аб адном:
Што вясна наша гора, як сьнег і завею,
Пахавае ў рацэ, спале сонца агнём!..

*) З вадзіцы сьвянцонай нячыстая сіла—поэтычны вобраз, ужыты аўторам у сымболічным сэнсе, акрасьляючы сілу новых ідэй у змаганьні з рэакцыяй. Звычайны способ абмінуць конкрэтны выказ ад кары царскай цэнзуры. *Рэд.*

# ВЯСНА

Ой, вясна, ой, вясна!
За душу ты мілей,—
З табой доля ясна,
З табой жыць весялей!

Як зьявілася ты,
Лес іначай шуміць;
Узлажыўшы лісты,
Як пан думны, стаіць.

Ты зялёнай травой
Скрыла чорну зямлю,
І прызвала сабой
Усіх к працы, к жыцьцю.

Гоман птушак-пяюх
Льлецца ў вушы твае,
На жалейцы пастух
Галасіста пяе.

Чуць заняўся усход
Неба яснай зарой,
Прэ на поле народ
З бараной і сахой:

Працавітай рукой
Засявае шнурок...
Ой, радзі, божа мой,
На пацеху хлябок!

А далей паглядзі,—
Там дзяўчаткі стаяць,
І з дзявочай грудзі
Песьні громка ляцяць.

Адным словам, кругом,
Вясна, права тваё!
З цябе долю бяром
І салодзім жыцьцё.

Засьвяці-ж ты, вясна,
Сваім бляскам для нас,
Калі сэрца, душа—
Сьпяць у чорненькі час!

Засьвяці, калі мы
Абліёмся сьлязьмі,
Разбудзі нашы сны!
Душу, сэрца вазьмі!

## З ПЕСЕНЬ АБ ВЯСЬНЕ

Сьвяціла сонца, птушкі пелі,
Была вясна ўжо дзьве нядзелі,—
Гняздо клаў бусел-клекатун;
Лясы ўжо пукацца хацелі
І песьні весела шумелі;
Шукаў ахвяр сваіх каршун.

Але зьбірацца сталі хмары,
Крукі паселі на папары,
Запеў а полудні пявун;
І сівер з поўначы павеяў,
Сьнягамі ўсю зямлю абсеяў;
Азябшых птушак б'ець каршун.

І будзе так са дзьве нядзелі:
Заціхне птушчына капэля,
Замоўкне бусел-клекатун,—
Ажно устане зноў з пасьцелі
Цяпло—і сьвет сабой засьцеле,—
Загіне з выстралу каршун.

## ПАДАРОЖНЫ

Цягнецца, пляцецца
Падарожны ў даль,—
Няма дзе падзецца,
Душу муча жаль.

Ношка за плячыма,
Кіёк у руках,
Сінцы пад вачыма,
Млявасьць у нагах.

Чакае з трывогай
Ночкі, летніх бур;
Сьцелецца дарога,
Як вясковы шнур.
Па бакох бярозкі—
Прысады стаяць,
Далей—поле, вёскі
Родныя відаць.

Там—плех сенажаткі,
Пасевы, папар;
Там, як бабкі, хаткі
Селі ў доўгі шар;

Там снуе араты
З крывуляй-сахой;
Там—смычок зубаты
Скача над ральлёй;

Там ходзіць скацінка,
Авечка бляе,
Там градкі дзяўчынка
Поле ды пяе.

Бача падарожны,
Бача гэта ўсё,
Думкаю трывожнай
Маркоціць жыцьцё.

Гэй, вы, хаткі, поле!
Вы, людцы мае!
Гэй, ты, доля, доля,
Дзе ласкі твае?

Мільёны загонаў
Зямелькі ляжыць,
Хацінак мільёны
На зямлі стаіць.

Чаму-ж мне, калецы,
Лета ці зіма,
Чаму-ж мне падзецца
Няма дзе, няма?

. . . . . . .

Цягнецца, пляцецца
Падарожны ў даль;
Сэрца плача, рвецца,
Душу муча жаль.

## ПРЫ СКАЦІНЕ

Яшчэ і сонца ня ўзышло
Людзей на днеўны труд будзіць,—
Тру-гу, тру-гу! на ўсё сяло
Труба пастырская гудзіць.

Тру-гу, тру-гу! ўставай,
Хто жыў, адзін, другі,
Вароты адчыняй,
Скаціну выганяй!
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Ўстае сяло на трубны гук,
Сьпяшыць к жывёліне сваей,
І вот раздаўся рык і грук
Кароў, авечак і сьвіней.

Тру-гу, тру-гу! ідзі
На поле, на лагі,
Скацінка, і глядзі,
Тэй тая не бадзі!
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Ідзе ўсё войска на папар;
Прышло, скланіла галаву,
І дружна, дружна мал і стар
Скубець вільготную траву.

Тру-гу, тру-гу! дзяры
Травіцу з-пад нагі,
Даждаўшыся пары,
Нап'ешся ты вады.
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Скубець скаціна, а пастыр
Пасе, пільнуе ад ваўка,
Снуе вакол, удоўж і ўшыр,
То цёлку злае, то быка.

Тру-гу, тру-гу! з трубы
На сьвет шырок, даўгі
Мкне адгалос грубы,
Аж стогне лес, дубы.
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

І вось наеўся ды ідзе
Рагаты сыты полк у хлеў,
Пастух за ім у грамадзе,
Але пастух ці сыт, ці еў?

Тру-гу, тру-гу! й ня сьніў...
Пастыр—слуга слугі,
Свой полк кармі-пасі,
Сам посьле пад'ясі!
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

## КАСЬБА

Бяжыць час дзень за днём,—скуль вазьміся, Пятрок
Наляцеў і пагнаў к касьбе жыва людзей;
Пайшлі ў ход малаток і каса, і брусок,—
Стукі-бразь, маху-шась, а дружней, а бардзей!

Сьвішчуць косы ў траве, проста дзіва, гульба;
Размахаліся рукі, ўзыгралася кроў,
Сонца паліць агнём, пот ліецца з ілба—
Абмахнуў рукавом, ды і далей пайшоў.

І пракос у пракос вырастае, як стой,—
Пан з карэтай-бы пэўна праехаў між іх.
Эх, аддаўся рабоце люд бедны з душой!
Калі есьць, як бог даў, як рабіць—за траіх.

Махай дружна касой, пакуль згіне раса—
Куй жалеза, пакуль не астыне яно!
Рэж аселіцу, брат, калі зрэзаў гумно,
А там далей—на лог няхай мчыцца каса.

Люба выйсьці, прайсьці па лагу, па гумне:
Гоман нейкі стаіць, сенам пахне укруг;
Ляжыць трупам трава, як народ на вайне,
А ў траве конік шастае, радуе слух.

Вось падвяла крыху. Жыва бабы на лог!
Трэба скошанае разьбіваць, аграбаць.
Сюды-туды!.. глядзі, ўжо пракосы ў валох;
Глядзь... і копамі ўбралі усю сенажаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дружна йдзі, бедны люд, калі сонца к касьбе
Кліча з неба ды голадам мучышся ты;
Рэж траву, дабывай долю сілай сабе,
З часам выйдзеш і ты з бедньаты, з цемнаты.

Дружна йдзі, бедны люд, і з зары да зары
Працуй, біся, ня гніся пад лямкай цяжкой,
І за праўду сваю, дачакаўшы пары,
З касой вострай сваёй дружна, сьмела пастой!

## КАСЦУ

Стукі, стук, стук, малаток!
Кляпі коску, мужычок,
Кляпі востранька сваю,
А я песеньку сьпяю.

Гоп, гоп, гоп!
Я табе сьпяю.

Быў даўней народ хітрэй,
Ня знаў стрэльбаў, дык аей!
Коскі шаблямі былі,
Ваяваць з імі ішлі.

Гоп, гоп, гоп!
Ваяваць ішлі.

Касу ў шыйцы адагне
І насадзіць, і махне;
Сьмерць таму, хто ня зышоў:
Касой рэзалі ўрагоў.

Гоп, гоп, гоп!
Рэзалі ўрагоў.

І гарматаў быў ня страх,
Грамада вялікі гмах:
Адзін ляжа, сто ідзе,
А хто-ж роўны грамадзе?!

Гоп, гоп, гоп!
Роўны грамадзе?!

Дык і ты касу вастры,
І так хутка—раз, два, тры!
Ідзі з ёю на вайну,
А я йначай пець пачну.

Гоп, гоп, гоп!
Пець інакш пачну.

На вайну з травой ідзі,
Касі гладзенька, глядзі!
Пяруны грымоты б'юць,—
Ты касі, адважным будзь.

Гоп, гоп, гоп!
Ты адважным будзь.

Пяюць птушкі пад вакном,
Лепшай долі даўно жджом...
Ну, досьць коску ўжо кляпаць,
Час з калодкі уставаць.

Гоп, гоп, гоп!
Час ужо ўставаць!

## ПЕСЬНЯ ЖНЕЙ

Пагнуўшы ў крук худыя сьпіны,
Сярпом махаючы крывым,
Мы, жонкі, ўдовы і дзяўчыны,
Пры доўгай постаці стаім

І дружна жнём,
І паддаём
Адна аднэй
Ахвоты больш,
І песьню жаласна пяём.

Асобна кожную загонам
Нас надзяліў пан-дабрадзей,
А над усімі злы аконам
Стаіць, ганяе жаць бардзей.
І мы ўсё жнём і г. д.

Агніста сонца прыпякае,
Ў губах язык засох, як косьць,
Пот горкі вочы залівае,
Змачыў кашулю ўсю як ёсьць.
А мы ўсё жнём і г. д.

Серп прыбаўляе ранаў косых,
Павеку рэжуць асьцюкі,
Як п'яўкі, смокчуць кроў з ног босых
Аржоньня вострыя сукі.
Але мы жнём і г. д.

Мы жнём, растуць снапы і мэтлі,
Мы жнём людзям, адно пабач:
Гаротным нам хоць лезь у петлі:
Працуй на полі—дома плач.
І ўсё-ж мы жнём і г. д.

Гэй, жнема, бабкі і дзяўчынкі,
Гаруйма: гора—не напасьць;
Пан справіць гучныя дажынкі:
За пот, кроў, сьлёзы—водкі дасьць!

Мы будзем піць,
Як гора п'ём,
Паноў хваліць,
І дружна ім
Скрозь сьлёзы песьню прапяём.

## ЗАХАД СОНЦА

За нязнаную
Даль пахмурную
Закацілася
Ясна сонейка.

Ой, пара, пара
Табе, добрае,
Адпачыць пайсьці,
Посьле дня ўсяго.

Нахадзілася,
Нагулялася
Над зямелькаю
Па-над крыўднаю.

Бачыць трэ' было,
Каб уродаю
Ніва ўбогая
Убіралася.

Сагрэць трэ' было
Бяспрытоннага,
Сьлёзы высушыць
Абнядоленым.

Усьміхацца
Ўсім замучаным
Доляй-радасьцяй,
Воляй-сокалам.

Посьле гэтакай
Працы-мачыхі,
Спачынь, сонейка,
Там за горамі.

І на заўтра ўстань
З новай сілаю,
Узьнімі агні
Ў сэрцы стухшыя.

Распалі агні
Веры ў будучнасьць,
Што дзён лепшых мы
Дачакаемся.

## ВЫЙДУ...

Выйду я, выйду
З лубкай сваею
І шнур вузенькі
Густа абсею.

Густа расьсею
Збожжам зярністым
Па гэтым полі
Па камяністым.

Мо' блісьне доля
Над маёй нівай
І пагадліва,
І урадліва.

Агрэе ў холад,
Скропе ў пагодзе,
Буйна і спорна
Шнур мой уродзе.

Сажну увосень,
Як будзе сьпелы,
Хопіць мне хлеба
На годзік цэлы.

## СЯЎЦУ

Зблiжаецца лета к адходу,—
Дзе-не-дзе зьляцеў лiст чырвоны;
Павесiўшы лубку на шыi,
Выходзе сявец на загоны.

 І поўнай мазолiстай жменяй
 Жытцо па ральлi раскiдае,
 Хавае ў зямельку надзею,
 Што возьме з сяўбы?—не згадае.

Цi можа цяпер вот, увосень,
Чарвяк яго працу падточыць,
Цi сьнег у разводзьдзе падпарыць,
Цi ўлетку грады падрузгочаць.

 Цi зьнiшчыцца ў пуньцы пажарам,
 Цi так ад якой-будзь прыгоды.
 Такiя, ах! горкiя думкi
 Сяўца абсядаюць заўсёды.

А ён не зважае на гэта,
То ўвосень, то цёплай вясною
Арэ, барануе i сее
Сваёй мазалiстай рукою.

 Тут кожны, сяўца хто пабача,
 Стары цi малы, цi кабета,
 — Радзi, памажы, божа!—кажа,
 А лёгка-ж на сэрцы чуць гэта!

— Радзi, памажы, божа!—скажам
І мы сяўцом ўсякага роду,
А з зерня, што добрага севу,
Зьбяруць яны й добрую ўроду.

## ВОСЕНЬ

Эй, восень, восень,
Скуль ты ўзялася?
Песьняй няўдалай
Так разьляглася?

Хоць адным шчасьце,
Восень, прыносіш,
Для другіх жудка
Горам галосіш.

Для адных ясна
Цяпла навееш,
Лінуць багацьцем
Не пажалееш.

Збожжам насыплеш
Поўна аруды,—
Будзе, ой, будзе
Золата груды.

Дзіка-ж ты б'ешся,
Восень, аб шыбы
Беднай мужыцкай
Хаткі-сялібы.

Хатка старая
Стогне, трасецца,
Туж-туж бясьсільна
Рухне, здаецца.

Бедныя людцы
Крыюцца ў хатцы,—
Страшна ім страшна
З холадам знацца.

Дзеці худыя
Туляцца к печы:
Босыя ногі,
Голыя плечы.

Да іх палезла
Ніткі сукаці
Ў зрэбнай спадніцы
Хворая маці.

Ўсеўся на лаве
Згорблены бацька
І ўвесь аддаўся
Думцы бядацкай.

Вот нібы восень,—
Думае гэтак,—
А тут няма, бач,
Хлеба у дзетак.

Цэлае лета
Біўся, ня жарты,
Ну і труды ўсе
Што былі варты?

Хоць шнур вузенькі,
Ня дасьць шмат хлеба,
Ды чынш вялікі
Выбраці трэба.

З поля забраў вось
Коп пяць бязмала,
Як змалаціў-жа,—
Воласьць забрала.

Ну, засталося
Ад чыншу нешта,
Бач, магазыньнік
Вывалак рэшту.

Вось і жыві тут,
Будзь ты шчасьлівы,
Будзь ты багаты
Восеняй з нівы.—

Холад у хаце,
Голад у хаце,
Ды во й скацінцы
Корму ня хваце.

Кепска, эй, кепска
Жыці ў няволі,
Ня лепей жыці,
Як няма долі.

Гэткія думкі
Мучаць старога...
Бедны, гаротны,—
Шкода такога.

Каля хацінкі-ж
Вецер заводзе:
Знай ты, няшчасны,
Стужа надходзе.

Знай ты, няшчасны,
Знай ты, убогі,
Будзеш марозіць
Рукі і ногі.

Да места возік
Дроў будзеш везьці,
Сівер табою
Будзе ўсё трэсьці.

Будзеш калеці
Ночкай у полі,
Каб здабыць дзеткам
Хлеба, круп, солі.

Вушы скастнеюць,
Плечы спацеюць,
Ногі у лапцях
Акачанеюць.

Будзеш ты сеяць
Сьлёзы па полю
Дый праклінаці
Горкую долю.

І змучан гэтак
Працай, марозам,
Знойдзеш магілу
Недзе пад возам.

## СПУСТАШЭНЬНЕ

Га, чаго, вятрыска,
Так узбунтаваўся
І над вёскай блізкай
Ты не зьлітаваўся?

Ці цябе ўгнявілі
Людзі або неба?
Ці тваёй злой сіле
Выкупу патрэба?

Пазрываў салому
І шчыты з хацінак;
Зрабіў кучы лому
З хляўчукоў, з адрынак.

Што цяпер пачаці?
Бедны люд вясковы!
Холад будзе ў хаце
Панаваць зімовы.

Будуць над калыскай
Плакаць бацька, маці
Дый цябе, вятрыска,
Праклінаць, пытаці:

Чаго, пеклаў цёска,
Так узбунтаваўся
Дый над блізкай вёскай
Ты не зьлітаваўся?

## ОЙ, ЧАМУ НА ХАТЫ ГЭТЫЯ?..

Ой, чаму на хаты гэтыя
Зышла восень з халадамі,
Калі людцы не сагрэтыя
Трасуцца пад лахманамі?!

Ой, нашто, нашто няшчаснага
Парадзіла мяне маці,
Калі долі, шчасьця яснага
Не магла з жыцьцём мне даці?!

Цяжка з віхрам жыцьця біціся,
Горш, як з бурай хвойцы ў полі,
Дый цяжэй жыцьця пазбыціся,
А яшчэ цяжэй—нядолі!

## ЗІМА

Прышла зіма халодная,
Нягодная зіма, —
Цярпі, зямелька родная,
Няма жыцьця, няма.

Прыцьмілась сонца яснае,
Прыціх шум баравы;
На полі пустка страшная—
Ні збожжа, ні травы.

Сьнег белы мёртва сьцелецца
Пасьцеляй грабавой,
Сапе, шуміць мяцеліца,
Мяце сьнег, як мятлой.

Мароз, як кат бязжаласны,
Ў лёд рэчкі акаваў,
Стральбой сваёй бязрадаснай
Па сьценах біць пачаў.

Стральбой сваёй праклятаю
Ў лёт слабых птушак б'е,
Пры хаце і за хатаю
Спакою не дае.

Хаваюцца ў будоўліны
Жывёла і народ,—
У сьнег зямлі абноўленай
Ня міл для іх паглёд.

Ваўкі па сьцежках шляюцца
І ночкаю, і днём,
І жутка разьлягаюцца
Магільніцкім выцьцём.

О, гора падарожнаму
Іх стада напаткаць!
Ня жыць неасьцярожнаму,
Радні не аглядаць.

І вырвуць вочы ясныя,
І выхлебаюць кроў,
І пойдуць далей, страшныя,
Шукаць ахвяр ізноў.

Ой, жудасна-халодная
Ўзгулялася зіма,
Цярпі, зямелька родная,
Няма жыцьця, няма.

Цярпі, старонка родная,
Мучэньне пі да дна,—
Міне зіма нягодная
І ўскрэсьне зноў вясна!

## МАЯ ХАТКА

І старая, і крывая
Хатачка мая,—
Уся зьлеплена, як будка,
З аднаго гнільля.

На страсе, як на балоце,
Зрос зялёны мох;
Каты, часам і сабакі
Лазяць па вуглох.

Па дзьве шыбы у ваконцы
І тыя з лучын,
Адны нізенькія дзьверцы,
Ганачак адзін.

І ў сярэдзіне у хатцы
Бедна, хоць ты плач:
Непачэсна выглядае,
Бо я-ж не багач.

Яе сьцен не склютавана,
Няма ў ёй сьвятліц,
З друзу выбіта падлога,
Столь яе з драніц.

Як увойдзеш,—пры парозе
З гліны печ стаіць,—
На ўсю хату, як вураднік,
З-пад ілба глядзіць;

А пад печкай—маіх курак
Хаткі-катухі,
Там, як трэба мне ўставаці,
Пяюць пятухі.

Напроць печы з дзьвюх пліт жорны,
Ля жарон—палок;
Над палком тарчыць пад бэлькай
Коска і брусок.

На куце пад абразамі
Стол стаіць, як пан;
Дзьве пры ім таўстыя лаўкі
І адзін тапчан.

Дык во, знайце-ж маю хатку,
Родную маю!—
У ёй цэлы век жыву я,—
Ем, працую, сплю.

Хоць старая, хоць крывая,
З аднаго гнільля,—
Не аддам яе нікому,
Бо яна мая!
Бо яна мая!

## САХА

Друг мой неадчэпны,
Саха ты крывая,
Хоць корміш сьвет цэлы,
Сама-ж век худая.

Вяровак, жалеза,
А дрэва найболей
Пайшло, каб пажытак
З цябе быў у полі.

От рэзьні-нарогі,
Паліцу ўзьнімай-роль
Мне выкаваў ў кузьні
З жалеза каваль Сроль.

Палічнік, прыполак,
Падсошнік-крывуля
Прыладжаны мною
З дубочка-сынулі.

На пласе з бярозы,
Ў рагач увязанай
Падвоямі туга,
Нарогі ўзагнаны.

Рагач-жа яловы—
Ў ём мыліца ўбіта—
З ярмом змацаваны
Прызьмом з дубцоў вітым.

Ў ярмо і кульбакі
Капаныя ўткнёны,
А так-жа й занозы
На ўсе дзьве староны.

Такіх вось прыладаў
Сабраць сасе трэба,
Каб здатнай была ўжо
Дабыці нам хлеба.

Як гэта ўсё ўмелай
Рукой і здаровай
Прывёў да парадку,
І сошка гатова.

Валоў запрагаеш,
Кульбакі прымерыш
І—валь баразною!
К сабе Бур, к сабе Рыж!

К сабе Бур, к сабе Рыж
Ідзі, сошка, ёмка,
Мы-ж гора забудзьма,
Запейма а громка.

Запейма, як дужы,
Каб сьвет аж затросься,
На ўсе каб староны,
Як гром гул разьнёсься...

Ты, сошка, худая,
Я пан твой—араты,
Век бедны, галодны,
Хоць пан наш багаты.

## ЛАПЦІ

Не праклінайце
Лапцяў ліповых,
Не пагарджайце
Лапцяў лазовых.

З імі шануйце
Цяжкую працу,—
Лапатнік корме
Пана з палацу.

З часам-жа лапці—
Гаю, ой, гаю!—
Выпра дастатак
З нашага краю.

Людзі абуюць
Боты, камашы;
Прыдзе загуба
На лапці нашы.

Але адзін хоць
Мусіць застацца,
Ў царкве завісьне
Дый на падкладцы.

Вушкам, аборай,
Скурай пад сподам
Памяткай будзе
Прышлым народам.

Будзе ён сьведчыць,
Як у няволі
Кепска жывецца
Ў хаце і ў полі.

Як людзей сотні
Лапці цягалі,
Каб багачы ўсе
Ў золаце спалі.

І пройдуць леты,
Многія векі,
Зьменяцца людзі,
Можа і—рэкі.

Лапаць-жа будзе
Ў цэркве вісеці,
Люд аб ім будзе
Песенькі пеці.

## БАБУЛЬКА—ПРАДАЎЧЫЦА ЗЁЛАК

У Менску на рынку,
Ў канцы агароды,
Бабулька старая
Садзіцца заўсёды.

Усякія зёлкі
На рынак прыносіць,
І людцаў прахожых
Купляць у ёй просіць.

Ляжаць перад бабкай,
Ці вечар, ці ранак,
Пучкі дзівасілу,
Чабор і румянак.

Ад кожнай хваробы
Ё зёлкі, карэньне;
Лячыць можа імі
Падвей, парушэньне.

І любчыку нават
Дасьць вам пад сакрэтам,
Ды наўча, як зводзіць
Любізьнічкам гэтым.

І ўсякіх, усякіх
Дастанеце лекаў,
Якіх толькі людзі
Ня зналі ад векаў.

Шмат летак бабульцы:
Трасуцца ўжо рукі—
Ёсьць пэўна унукі,
Э! нават праўнукі.

Усяк ёй жылося
На сьвеце на божым—
І смутна, самотна,
І з хлопцам прыгожым.

І сьлёзы ліліся,
І песьні зьвінелі,
Малойцавы грудзі
Туліла ў пасьцелі.

Ды ўсё-ж праляцела,
Як яснай маланкай;
Сьпяць думкі і песьні,
Ў магіле сьпіць Янка.

Эй, моладасьць-радасьць
Мінула ўдалая!
А старасьць-няўдаласьць
Ніяк ня мінае.

І кепска бабульцы:
Сівая, худая,
Брак сіл працаваці,
Дык зёлкі зьбірае.

Нясе іх да Менску,
На рынку садзіцца,
Збывае і вуча,
Як трэба лячыцца.

А можа паможа
Душы хоць адной дзе,
І праца бабулькі
На марна ня пойдзе.

## СТАРЦЫ

З торбай кажны, з думкай важнай:
„Дадуць—не дадуць“,
Даўным сьледам дзед за дзедам
На кірмаш ідуць.

Як дарога к хаце бога,
Або й так аб што,
Ня пытаюць, добра знаюць,
Звон пачулі—й до!

Быццам горбы, іхні торбы
Выдаюць парад;
На кірмашы старцы нашы
Садзяцца урад.

Кожны прэцца ў лепша месца...
Чуй! аж во калі,
Ўтройцы, ўпарцы хрыпла старцы
Песьню завялі.

Там той з лірай у тры шчыра
Струны задае,
Той з кантычкі, той з прывычкі
Модлы дзьме свае:

За змарлыя, за жывыя
Душкі, за жыцьцё,
За скацінку, за збажынку
І за ўсё, за ўсё...

Гэй, малітвам, быццам бітвам,
Стар'ё аддалось,
А з-пад воку глядзяць к боку,
Ці дадуць хто штось.

Во пасьледні у абедні
Кончыўся „падай“;
Сыплюць людзі, што-та будзе,
Старча, намагай!

Неспакойна з сілай двойнай
Песень гул памкнуў,
І ўвесь гэты рой расьпеты
Рукі працягнуў.

Дыдак густа й хлеба лусты
Сыпяцца, прычом
Разам з хлебам—за што трэба
Маліцца дзядом.

Час праходзе... Годзе, годзе
Глядзець на полк наш!
Пайшлі людзі, што-та будзе,—
Кончыўся кірмаш.

З торбай кажны, з думкай важнай:
„Ці дзе больш дадуць“,
Даўным сьледам дзед за дзедам
З кірмашу ідуць.

## НЯБОЖЧЫК

Надаела чалавеку
Жыці, пажываці;
Пекаў сваё гора, пекаў,
Дый трэба ўміраці.

Хоць хацеў-бы можа трошка
Жыць, павесяліцца,—
Сьмерць благая кладзе ў ложка,
Кажа ня будзіцца.

І памёр. Цяпер шчасьлівы,
Не баіцца ліха...
Эй, глядзеце: дзівы, дзівы!
Сьпіць спакойна, ціха...

Але везьць гной трэба з хаты,
Каб чэрві ня елі;
Скідай, браце, свае шаты!
Вады ўжо нагрэлі...

Змылі троху вочы, сьпіну,—
Што болей наразе?!
Палажылі ў дамавіну,
Як пана, як князя.

З дамавінай на калёсы
Нясуць, як сьвятога;
Разявякаў, салапякаў
Сабралася многа.

Кожны стогне, уздыхае,
Галосе, заводзе,—
Нібы плача, сэрца мае...
Годзе лгаці, годзе!

Ну, кабыла, ну, худая,
Паволі цягніся!
Ты, істота нажывая,
Ляжы, не зваліся!

Вот і царква, поп з крапілам
Чакае на ўзятку,
Пакурыў труну кадзілам,
Даяк запеў ў астатку.

І на могілкі панесьлі
Труну, як павалу;
Ой, ой, каб-жа не растрэсьлі!
Нясіце памалу!

Званы гучна загудзелі
Галасістай песьняй;
Ой, колькі-б вы там ня пелі,
Нябожчык ня ўскрэсьне!

Ну, грабару, капай яму,
Локцяў тры бяз мала;
Пахаваем тут мы краму,
Што труд прадавала.

Ужо выкапаў?—ну, ладна!
Труп спускаць пачалі,
І спусьцілі так парадна;
Зямлёй закапалі;

Насып вылажылі дзёрнам,
Крыж на ім—з каменьняў,
Вот і меней непакорным,
Адным меней, меней.

Праплывае многа летак,
Няма чалавека...
І пляцецца у нас гэтак
Ад веку да веку.

Як сьмерць возьме, усё гіне:
Нядоля, няволя,—
Спакой толькі ў дамавіне,
Ў дамавіне доля!

## НАД МАГІЛАМІ

Сьпіце, загнаныя,
Ад сонца скрытыя,
Сьпіце бяздольныя,
Горам забітыя!

Як вам зямелькаю,
На вочы кінулі,
З людзкое памяці
Марна загінулі.

Над косьцьмі вашымі,
Па-над курганамі
Сьлёзы ўзносяцца
Мглою, туманамі.

Крыжы яловыя
На бок скрывіліся,
Насыпы пасьмертныя
Вадой размыліся;

Два-тры з іх сьвецяцца
Кветкай жычліваю,
Рэшта скрываецца
Лазой, крапіваю.

Самі-ж вы зданямі,
Бледнымі, сінімі,
Летам усходзіце
Па-над магіламі.

Начніцы чорныя
Ночкай зьлятаюцца,
І совы шэрыя
Пераклікаюцца.

Ваўкі зьбіраюцца
Парой зімоваю
І пяюць, выючы,
Песьнь паграбовую...

Сьпіце, загнаныя,
Ад сонца скрытыя,
Сьпіце бяздольныя,
Горам забітыя!..

## Я БАЧЫЎ

Я бачыў, як вецер па полі гуляў,
Зямлю ўзрываў і бярозкай хіляў,
Заносіў пяском сенажаткі, лагчынкі,
Ламаў на бярозцы жывыя галінкі.

Я бачыў, як ястраб галубку забіў,
І выклеваў сэрца, і цёплу кроў піў;
Віхор яе пер‘е і косьці разьвеяў;
Галуб варкаваў, галасіў без надзеі.

Я бачыў дзяўчынку няшчасну адну,
Як бегла да рэчкі, нырнула ў ваду!
Нагнаў вецер хвалі і сьлед той загладзіў;
На беразе вольхі шумелі аб здрадзе.

Я бачыў усё гэта й душою цярпеў,
Застыў сьмех на губах і песьні ня пеў,
Заплакаў, заліўся маркотнай сьлязінкай
Адзін над бярозкай, галубкай, дзяўчынкай.

## ДУБ

Калыханы ветрамі
Дый на ўсе староны,
Стогне дуб сярод поля,
Стогне дуб зялёны.

Стогне, квола трасецца,
Карані трасуцца,
Гальлё ломіцца з трэскам,
Лісьці ў сьвет нясуцца.

Рухне дуб гэты скора,
Рухне дупляняты,
І ўзыходзіць дасьць месца
Жалудом-зярнятам.

Гэй, на дубным кургане
Дуброва паўстане,
І зямлі песьняй новай
Зашуміць-жа дуброва!

## ВОЛЬХА

Шуміць маркотна вольха
Над рэчкаю бурлівай,
Аброслая на доле
Бадылямі, крапівай.

Над ёй сінее неба
І сее няпрыветы:
То студзяць яе зімы,
То паляць яе леты.

Абломлівае вецер
Галіны бяз сумленьня,
Падточывае рэчка
Жылястае карэньне.

Пацешыцца, як птушкі
Пяюць вясной агнісьце;
Жалобу жаляў носіць,
Як разьдзяецца з лісьцяў.

Дні многія праходзяць,
Найбольш непагадліва,
Шуміць маркотна вольха
Над рэчкаю бурлівай.

## ЛІПА

Высока, разлажыста
Расьселася пры хаце
Стара-старая ліпа,
Паважная, як свацьця.

Сто лет ужо старусе,
А можа нават болей,
Ад віхараў і ад бураў
Ня мела век патолі.

Сто лет—кавалак часу,
Ня сто дней, ня сто тыдняў,
Якіх зашло праменаў,
Збадаці ўсё абрыдне.

Няшчасьцяў, кляцьбы, плачу
Было, што, божа мілы!
Нябожчыкаў бяз ліку
Сыходзіла ў магілу.

А ліпа ані дбае,
Жыве, стаіць пры хаце
Высока, разлажыста,
З павагай, нібы свацьця.

## ДЗЯЎЧЫНКА, ГАЛУБКА МАЯ!

Дзяўчынка, галубка мая!
Кінь весела вочкам ка мне,
Табой зачараваны я,
Любуюся ў яве і ў сьне.

Дзяўчынка, галубка, хадзі
Ка мне, бо цябе я люблю,
Сагрэю на белай грудзі,
Уцехай каханьня прысплю.

Дзяўчынка, галубка, тады
Забудземся сьвету, людзей,
Забудземся гора, бяды,
Нядолі забудзем сваей.

Дзяўчынка, галубка, сьлязой
Як скропім павеку сваю,
Я вытру, пацешу, як свой,
І песьню табе запяю.

Дзяўчынка, галубка, ня дам
З цябе жарты строіць жыцьцю:
Дзяліць буду я папалам
Нядолю і долю тваю.

Дзяўчынка, галубка, мой друг,
Спаўём мы ціхое гняздко,
Дзе створым душу адну з дзьвюх,
І думы і сэрца адно.

Дзяўчынка, галубка, мы так
Па хвалях жыцьця паплывём,
З каханьнем за знамя, за знак,
На зайздрасьць цярпеньню, ўрагом.

А толькі, галубка мая,
Мяне сірату пажалей:
Любі, як цябе люблю я,
Мілуй і цалуй агнісьцей.

## ДА ДЗЯЎЧАТАК

Ой, дзевачкі, любанькі!
Люблю, люблю вас,
Я ў вашых, галубанькі,
Сетачках увяз.

Ох, мае вы сонейкі,
Ня знаю з чаго
Ня мілы мне гонейкі
Шнурочка майго.

Ня мілы мне хатачкі
Родненькай куток,
Ня мілы мне матачкі
Слоўцы: „мой сынок!“

Ня міла, як волікаў
Рог забушаваў;
Ой, ой, для саколіка
Час благі настаў!

Сэрца б‘ецца, корчыцца,
Кроў пашла гуляць,
Днём рабіць ня хочацца,
А ночкаю—спаць.

Нападае часьценька
Нейка дзіўна млось,
І так шчасна-шчасьненька
Хочацца чагось.

Вочы неўспадзевачкі
Ўсё туды бягуць,
Дзе сонейкі-дзевачкі,
Любачкі жывуць.

Ой, ой, ня ў цікавую
Сетку, знаць, забрыў,
Хоць-бы з добрай славаю
Ўжо яе пазбыў.

Голуб, як з галубкаю,
Весела вурчыць;
Пэўна хлопцу з любкаю
Лепей, як так, жыць.

Бачу, так здаваецца,
Што мне, бедаку,
Таго штось жадаецца,
Чаго й галубку.

Адну ненаглядачку
За жонку вазьму,
Тады можа радачку
Дам гору свайму.

Тругі, тругі, трубачкі!
Грайце ў добры час;
Дзевачкі-галубачкі,
Люблю, люблю, вас!

## ЧОРНЫЯ ВОЧЫ

Што, скажэце, цямнейшым на сьвеце ад ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

Што больш мае і тайнаў, і чараў, як ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

Што няведама дзе завядзе, як мрок ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

Што нас губіць, як гінуць зблудзіўшыя ночай?
— Дзявочыя чорныя вочы.

А што любім, хоць жуткім, як цёмныя ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

## СВАТАНАЯ

Прыстройся, дзяўчынка-нябожа,
Так, як у дзянёчак сьвяты,
Галоўку ўчашы ты прыгожа,—
Сягоньня прыедуць сваты.

З гарэлкай прыедуць сягоньня
Й запоіны будуць твае...
Падумай, куды цябе згоне,
Куды цябе злы лёс пашле.

Падумай, як прыдзецца жонкай
Вайці да хацінкі чужой,
Зазнацца з чужою старонкай,
Зьлюбіцца з чужою сям'ёй.

Дасьць бацька пасагу: цялушку
Й сьвіньню ці авечку з ягнём;
Дасьць маці выправу: падушку
Ды кубел стары з палатном.

Усё гэта возьме твой мілы,
Як з купленай, возьме з табой,
А ты будзеш аж да магілы
І жонкай яму, і слугой.

Павінна служыць ты і мужу,
І ўсёй яго слухаць радні;
На працу, на голад на стужу
Зважаць не павінна ані.

Ня будзеш чуць ласкавых словак,
І сьвёкар палае й сьвякроў;
Прытыкаў ятровак, заловак
Нап'ешся, і ўгроз—дзевяроў.

Цярпець будзеш многа, ды часам
Паскаржышся мужу свайму,—
Багаты й сваіх крыўд запасам,
Ня дасьць рады гору твайму.

А гора тваё, на пачатку
Малое, пачне прыбываць,
Як станеш ты звацiся маткай,
Дзiцё пачне грудзь тваю ссаць.

Жаць пойдзеш далёка цi блiзка,
Муж пойдзе араць цi касiць,
З табой йдзе дзiцё,—i калыска
На полi на козлах вiсiць.

А вернешся з поля дадому,
Гаротнае гора тваё!
Пачнеш паглядаць пакрыёму,
Цi хлеба хоць трохi йшчэ ё.

Слуга, жонка, ўрэшце i матка,
Ўжо знаеш, што трэба рабiць:
Спаўеш у пялёнкi дзiцятка
І станеш вячэру варыць.

І вечна ня знойдзеш спакою
Ў замужнiм бязвольным жыцьцi;
Нядоля усьлед за табою,
Як здань тая, будзе iсьцi.

Ў дарогу ты выправiш мужа,
Пачнеш яго з страхам чакаць,
А хоць ня раз поўху i ўдружа,
Павiнна п'янога спаткаць.

Каса твая доўгая п'яным
Патузанай будзе ня раз,
Наб'е сiнякоў пад каптанам,
Зрачэшся дзявоцкiх прыкрас.

Прытухнуць ад сьлёз ясны вочы,
Завяне, паморшчыцца твар,
А ў сэрцы, сягоньня ахвочы,
Замрэ твой мiлосны ўвесь жар.

Нявольнiка з краю нядолi—
Гаротнай нявольнiцай ты,
Ахвярай ты век без патолi
Трудоў, беднаты, цемнаты.

Ну, што там смутнееш, нябожа?
Гарэлку пап'еш зараз ты!..
Ідзі-ж і прыстройся прыгожа,
Каб не адракліся сваты.

Ўпадоба быць мусе нязьменьне,
Каб з дому барджджэй палядець,
Бо дома... і дома ня меней,
Як замужам, мусіш цярпець.

Званкі ўжо зьвіняць па дарозе,
Вот госьці пад брамай крывой,
Ідуць, вот ужо на парозе...
Ты плачаш?! Чаго? Бог з табой!

Дзяўчынка, ці я цябе песьняй
Разжаліў панурай сваей,
Што гэтак ліюцца балесна
Сьлязінкі з прыгожых вачэй?

Кінь плакаць і сьмейся! Хай плача,
Хто песьню нядолі запеў,
Сьвятла хто і ласкі ня бача,
Хто з малку дзён шчасьця ня меў.

Жалобных ня слухай ты шумаў
У сілы свае цьвёрда вер
І лепшую долю прыдумай,
Як гэта, што маеш цяпер.

## МАЛАДЫМ НА ВЯСЕЛЬЛІ

Ужо зьвязалі рукі вам
Прад аўтаром навекі,
„Сама“ ўжо—жонка, мужам—„сам“,
Ня трэба вам апекі.

Каб хлопец—маці кіне ўчыць—
К „самой“ не падсукаўся;
„Самога“ бацька ня збурчыць,
Каб па сялу ня шляўся.

Вы самі будзеце ўжо знаць,
Што годна, што ня годна,
Адно другога пільнаваць
Лепш маткі, бацькі родных.

Як, што там далей будзе у вас
Ня нам тут раздумляці!
Вясельле ў вас, а ў гэты час
Мы хочам пагуляці.

Гарэлку п'ём мы як ваду,
Ядзём сыр, масла, сала,
Загналі ў кут нуду-бяду,
Чуй!.. музыка зайграла.

Уседзіць трудна за сталом,
Аж ходзяць—так здаецца—
І ногі й плечы хадыром,
І сэрца б'ецца, б'ецца.

Хутчэй, хутчэй яду набок!
Набок сталы і лавы!
Гульнём, дзяўчынка, мой дружок!
Часьцей такіх забаваў!

І шчасьце—дым, і праўда—дым,
А клёк—гульня, пахмельле.
Гукнём мы „дзякуй“ маладым,
Што ўстроілі вясельле.

Разгул такі гады-ў-рады
Пацешыць прылятае...
А гэта што? Хмур малады,
І плача маладая?

Чашы каменьне ў сто сякер,
Ня выстругаеш крэсел;
Я плакаў некалі... цяпер
Глядзі,—няма сьлёз—весел!

І ты, злучона пара, пей,
А я вот павіншую:
Мецъ спор вам з любасьці сваей,
Мецъ долю не благую!

Мецъ клеці поўныя з дабром,
Мецъ міласьць, згоду ў хатцы,
Й так жыўшы, жыўшы удваём,
Унукаў дачакацца!

## АУТАРЦЫ „СКРЫПКІ БЕЛАРУСКАЙ“

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу з думкай падлятаеш,
Шчасьця жычыш для людзей.

Ў перагонку з салаўямі
Пайсьці голас можа твой.
Грай-жа, грай-жа паміж намі!
Ваюй песьняй з цемнатой.

Крэпкі струны тваёй скрыпкі,
Ў тваёй скрыпцы душа ё,
Ў руцэ сільнай смычок ліпкі
Лёгка ходзіць, як пярцо.

Павядзеш ты ім, і песьня
Льлецца—проста-б слухаў век:
Неяк шчасна, то балесна
Сябе чуеш чалавек.

Аб чымсь сьветлым, аб чымсь новым
Твая скрыпка грае нам;
Грае, грае, а ў ёй мова
Наша чуецца бяз плям.

Беларуса й яго жонку
Называеш ты людзьмі,
Беларусь, яго старонку,
Славіш песьнямі сваймі.

Аж так хочацца, хоць сьціха,
Тваёй скрыпцы ўтараваць,—
Піць з таго, што й ты, кяліха,
Аб чым граеш, апяваць.

Гэй, пясьнярка, болей, болей
Нам на скрыпцы сваёй грай!
Прывітаем хлебам-соляй,
Дзякуй скажа родны край.

Бедна нашая старонка,
Яе-ж люд бядней яе:
Не апеты песьняй звонкай,
І цяпер хто-ж апяе?

Хто?—як кінеш так прыгожа
Для сваіх ты йграць людзей.
...Эх! іграй-жа той, хто можа:
Плакаць будзе весялей.

## ДУМКІ

*(З украінскага. Т. Шэўчэнкі)*

Нашто-ж чорныя мне бровы
    І чорныя вочы,
Нашто леты маладыя,
    Нашто твар дзявочы?

Леты мае маладыя
    Марна прападаюць,
Вочы плачуць, чорны бровы
    Ад ветру лiняюць.

Сэрца вяне, нудзіць сьветам,
    Як птушка бяз волі;
Нашто-ж мне, краса мая, ты,
    Калі няма долі?

Цяжка, цяжка сіратою
    На сьвеце мне жыці:
Свае людзі—як чужыя,
    З некім гаварыці!

Няма каму распытаці,
    Чаго плачуць вочы!
Няма каму расказаці,
    Чаго сэрца хоча!

Чаго сэрца, як галубка,
    Дзень і ноч варкуе,—
Ніхто яго ня пытае,
    Ня знае, ня чуе!

Людзі-ж мяне ня спытаюць,
    Дый на што-ж пытаці?—
Няхай плача сіраціна,
    Няхай леты траце!

Плач-жа, сэрца, плачце, вочы,
Пакуль не заснулі,
Плачце моцна, галасіце,
Каб ветры пачулі!

Каб занесьлі ветры буйны
За сіняе мора
Маю цяжкую нядолю,
Маю бяду-гора!..

* * *

За думаю дума роем вылятае,
Тая цісьне сэрца, тая разьдзірае,
А трэцяя ціха-ціхусенька плача,
Аж там на дне сэрца, дзе ніхто ня ўбача.

Каму-ж тут іх пакажу я?
І хто тую мову
Прывітае, угадае
Вялікае слова?

Глухім кожны тут радзіўся,
Кожны з гора тужа:
Ты сьмяешся, а я плачу,
Вялікі мой дружа!

А што прыдзе з таго плачу?
Боль галоўкі, браце...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Што там!.. Будзем лепш сьмяяцца,
Хоць голад у хаце!..

## П А Р À

*(З польскага. М. Канапнінкай)*

Раз-другі сохі-крывулі
Зямлю нашу падвярнулі,
А па ўсякай скібе чорнай
Жджэцца севу, жджэцца зёрнаў.
Гэй, сяўцы, пасьпешны час!
А чаму-ж ня відна вас?

Громы ўстрэсьлі зямлі лонам,
Прамкнуў вецер над загонам,
Зьляцеў з неба дождж на нівы,
А дагэтуль не пашлі вы.
Гэй, сяўцы, на ваш прыход
Жджэ зямелька, жджэ народ!..

Бацькоў косьці, што ў магіле,
Наша поле удабрылі,
Сонца сходзе к нам паволі,
Ўжо за ценяў бляскаў болей.
Гэй, сяўцы, гарачы час!
Зямля-маці жджэ на вас!

# К А М У

*(З польскага. М. Канапніцкай)*

Тым саху, плуг толькі здаці,
Хто прырос к зямельцы-маці,
Хто загон свой наскрозь знае,
Каго холад ня пужае;
Хто радзімых сваіх ніў
Знае час сяўбы і жніў.

Таму толькі з бараною
На ральлю пайсьці вясною,
Хто лапцямі топча поле,
Знае гора цьвёрдай долі,
Працягнуў хто, як свой брат,
Двое рук да ўбогіх хат.

Таму толькі серп і коска,
На начлезе хто за вёскай
Снуе думкі пры агнішчы,
И вера ў прышлай долі йгрышча,
Каму ў полі труд—закон,
А чужыя з нівы вон!

## НА ЖАЛЕЙЦЫ

*(З польскага. М. Канапніцкай)*

Ой, чаму мглой палі росы
Халоднай,
Калі я голы і босы
Й галодны?
Ці-ж ня досыць, што мы плачам
З нядолі,
А йшчэ гэта ночка сыпе
Сьлёз болей?

Ой, каб зрэнкаю, здаецца,
Саколяй,
Зьлічыў, колькі сьлёз ліецца
На поле,—
Страх было-бы з сяўбы гэтай
Жаць жніва,
Бо сноп кожны быў крывавы-б
На дзіва!

Ўзыйдзе сонца, пусьце косы
Зьмянліве,
На лугочках вып'е росы
Й на ніве,
Але высушыць сьлёз мора
Ці-ж можа?
Хіба сьвет увесь запаліш,
Мой божа!

## ЯК КАРОЛЬ Ў ПАХОД ВЫХОДЗІЎ...

*(З польскага. М. Канапніцкай).*

Як кароль ў паход выходзіў,
Голас зычных труб праводзіў,
Залацісты сурмы йгралі
На пабеду ў добрай хвалі.

А як Стах пашоў на бітвы,
Зашаптаў яму малітвы
Цёмны лес ды жыта ў полі
На нудоту, на нядолю.

На вайне ўсьцяж кулі сьвішчуць,
Як касою людцаў нішчаць,
Каралі найлепей б'юцца,
Мужыкі-ж найбольш кладуцца.

Шалясьцяць сьцягі шаўковы,
Недзе крыж скрыпіць вясковы;
Стах ад раны уміpae,
А кароль здароў вяртае.

У вароты як уехаў,
Вышла зорка на пацеху
І усе зайгралі звоны
На ўсе сьвставы староны.

Як дол мужыку капалі,
Зашумелі дрэвы ў далі,
Зашумелі праз дубровы
Тыя кветачкі ліьлёвы.

## СОН НА КУЦЬЦЮ *)

*(З польскага. Іды Пільцкай)*

Сюды, ка мне, за стол, хто другам,
Хто свой, ўсе сядзьма разам;
Ты, жонка, дзеткі, брацьця, кругам,
Во гэтта—пад абразам!

Ка мне, дружкі! хай вас угледжу;
Вітаю хлебам, соляй.
Куцьця сягоньня, сам ня ўседжу
Адзін з сваёю доляй.

На стол, як чынім векаў многа,
Сянца паслаў, глядзеце.
Падбліжцеся-ж!.. вянком старога
Свае ўсе акружэце!

. . . . . . . . . . . .

Стол доўгі, ўкруг свае ўсе самі,
Твар кожны весел, ясны,
У кожнага душы раямі
Снуюцца думкі шчасны.

І разам слуг людок нясьмелы
Нам пасадзіці трэба,
Ўсіх братняй згоды анел белы
Багаславіць хай з неба.

. . . . . . . . . . . .

Падайце ўборы мне яркія,
Ў жалобных нахадзіўся,

*) Куцьця—астатак паганскага звычаю сьвяткаваньня ў чэсьць зімы. Адпавядае наогул сьвятам у чэсьць розных квадраў году. Ня носіць у сабе нічога рэлігійнага, забабоннага. *Рэд.*

Пры мне сягоньня ўсе блізкія,
Сягоньня бог радзіўся.

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Пуста кругом!.. Гэй, гэй, свае дзе?
Дзе анел захаваўся?..

. . . . . . . . . . . . . . . .

Снуюцца цені... сэрца брэдзе...
Ня чуюць... Сам застаўся.

## ВОЎК І БАРАН

*(З польскага. К. Балінскага)*

Воўк

Ах, баранок мой, ах бараночак!
Вось і настрэўся ты мне, дружочак:
Гэткі пульхны, гэткі сыты,
І астрыжан, і памыты,—
Акурат для майго зуба.
А тут голад, проста згуба!
Зьем цябе ўраз на сьняданьне.

Баран

Знаю, знаю, ясьне пане,
Тваю воўчую натуру.
Але покуль здымеш скуру,
Адну просьбу к табе маю:
Ты ня еж мяне, як знаю,
Рвучы мяса па куску,
А—ўсяго, за адным махам:
Есьці-ж так ня стыд ваўку.

Воўк

Хай так будзе!—згінь ты прахам!
Чую, хопіць сілы, духу
Глытануць цябе, як муху;
Толькі-ж мне ідзе аб тое,
Баранётка залатое:
Каб слоў на́-пуста ня кідаць,
І сябе адважным выдаць,
Бо я, праўда, не хвалюся,
З гэтым доўга не важуся:
Кожна дорага мінутка,—
Мусім справіцца мы хутка.

Баран

О, як-жа сэрца чулае тваё!
А ў нас плятуць, што ўсе ваўкі—зьвяр'ё...

Воўк

Э, брэшуць! Ведама, галеча,
Але хай брэшуць недарэчы!
Ты ўсё-ж такі хадзі ка мне ў капцюры.

Баран

Мяне са скуры абдзіраць так без пары
Лішні труд, вяльможны пане;
На то ёсьць способ дагаднейшы,
Што і мучэньня мне убавіць,
І для ягомасьця лацьвейшы:
Хай ваша міласьць воддаль стане
І ляпу разявіць,
А я ў яе, бы ў поламку, і рыну.

Воўк

А я цябе глыну, як сьліну!
Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

І засьмяяўся павоўчаму воўк,
І зірнуў на галодны свой бок,
Язык выпер, глытаці масьціцца,
А баран як разьляціцца,
Як бадне пад ляпу рагамі ваўка,
Ды сам ходу к сялу, дзе—скаціна,
Дзе пастух, трасучы ўжо дубінай,
Крычыць: біце ваўка! Цю-га-га! Цю-га!

Воўк зрушыўся, глядзіць, як сп'яна́,
І думае: глынуў барана,
Але тонкімі бакамі трасе
І, калі ў пушчу са страхам нясе
Сябе самога, як злодзей,
Скавыча: быў баран ці не ў жываце—
На адно ўсё неяк выходзе.

Для нас такая тут навука:
Што хоць ваўку зьесьць барана й ня штука,
Але й баран з лап воўчых вырвацiся можа,
І слабы—як ня дурань—дык дужага зможа.

## ЛЕБЕДЗЬ, ШЧУПАК І РАК

Байка

*(З расійскага. Крылова)*

Там, дзе еднасьці і згоды
Няма шчырых у людзей,
Праца іхняя заўсёды
Ліха, марна прападзе.

Раз ў калёсы запрагліся
Лебедзь ды Шчупак і Рак;
З усіх сіл вязьці ўзяліся,
Дый ня зрушаць воз ніяк.

Пад нябёсы лебедзь рвецца,
Шчупак цягне у ваду;
Распусьціўшы клюшні, пхнецца
Рак назад, як на бяду!

Хто з іх вінен, хто ня вінен,
Ня нам гэта разьясьняць,
Толькі-ж і дасюль калёсы
Як стаялі, так стаяць!

## АГАРОДНІК

*(З расійскага. Някрасава)*

На людзей нападаць, забіваць не хадзіў,
Не хадзіў, куды ночкай ідуць цемнякі;
Праз дзяўчыну-красу я свой век загубіў,
Згінуў з ласкі паненкі, шляхоцкай дачкі.

Працаваў я у садзе у панскім вясной.
Вот раз неяк зграбаю сучкі ды пяю,
Глядзь, дачка майго пана стаіць прада мной,
Глядзіць зорка ды слухае песьню маю.

Агароднік дасьціпны, бадзяўся я шмат,
Па дварох і па местах багатых бываў,
І нагледзіўся там шмат прыгожых дзяўчат,
А такой-жа ні разу нідзе не спаткаў.

Бровы чорныя, стройна, аздобна была.
Стала жутка, я песьні сваёй не дапеў.
А яна? Што-ж яна? Пастаяла, пашла;
Я-ж за ёю усьлед, як шалёны глядзеў.

Чуў ня раз на сяле ад сваіх маладзіц,
Што і сам я прыгож, на пагляд ня брыдкі;
Як той сокал, гляджу, круглаліц, белаліц,
Валасы, нібы лён, а сам стройны такі.

Разыгралася сэрца з вясёлай душой,
Ды, як глянуў я тут на пакоі яе,
Засьвістаў і махнуў маладзецкай рукой,
Дый хутчэй за мужыцкія думы свае.

А прыходзіла-ж часта яна з тэй пары
Пагуляць, паглядзець на работу маю,
І сьмяецца са мной і крычыць: гавары,
Чаму так пасмутнеў і чаму не пяю.

Я-ж маўчу; ад чаго смуцен стаў—не кажу;
Вочы толькі спушчу, каб ня бачыць, ня чуць.

„Пазволь, яблынку я за цябе пасаджу,
Ты ўмарыўся, пара, знаць, табе аддыхнуць".

—Што-ж такое, паненка, вазьмі, на, паўчысь.
Памажы мужыку, папрацуй крыху й ты!—
Ды як брала рыдлёўку ў мяне, сьмяючысь,
Тут пярсьцёнак убачыла мой залаты.

Ад пахмурнага дня вочы сталі цямней,
На губах, на шчаках разыгралася кроў...
—Што з табою, паненка? Чаму на мяне
Няпрыветна глядзіш, хмурыш чорную броў?—

„Скуль узяў, скажы мне, ты пярсьцёнак такі?"
—Скора будзеш старой, як усё будзеш знаць.—
„Дай мне! Я пагляджу... Незгаворны які!"
І за палец мяне ручкай беленькай хваць!..

Пацямнела ў ваччу, душу кінула ў дрож;
Я даваў, не даваў ёй з пярсьцёнкам руку,
Дый прыпомніў тут, знаць, што і сам я прыгож,
І, ня знаю ўжо як, цмок паненку ў шчаку.

З таго часу з ёй ночак я шмат скаратаў,
Многа шчасьця зазнаў, ў ясны вочы глядзеў;
Касу сьветлую ёй расплятаў, заплятаў,
Цалаваў, мілаваў, песьні родныя пеў.

Мігам лета прашло, ночы сталі сьвяжэй,
Пад дзень шэрань, мароз пад нагамі скрыпіць.
Вот раз неяк скрадаўся ў пакоі я к ёй,
Аж хтось—цап! „Лаві злодзея!" грозна крычыць.

Так злавілі мяне, на дапрос прывялі;
Я стаяў і маўчаў, гаварыць не хацеў...
Ну, красу з галавы вострай брытвай зьмялі,
А жалезны убор на нагах зазьвінеў.

Далі розаг капу і пагналі дружка
Ад радзімай старонкі ў чужацкі краёк
На бяду і нуду. Знаць любіць ня рука
Нам, патомкам мужыцкім, ды панскіх дачок.

## НАД КАЛЫСКАЙ

*(Насьледаваньне)*

Сьпі, маленькі мой сыночак!
Вочкам ня міргні;
Сьвецiць месяца кружочак,
Ты-ж аб долі сьні.

Сьпі і слухай песьні гэтай,
Ды ўспомні калі;
Сьпі, пакуль ня знаеш сьвету,
Люлі, люлі, сьпі!

Падрасьцеш, дазнаеш гора,
Папіваеш сьлёз,
Твае сілы зломіць змора,
Сьпека ды мароз.

І спаткаешся на сьвеце
З няпраўдай, з людзьмі
Сьпі, сыночак! Месяц сьвеце,
Люлі, люлі, сьпі!

Падрасьцеш і мусіш ногі,
Як кожны мужык,
Укруціць у ўбор убогі,
Ўбор з ліповых лык.

У ім помачы папросіш
Для сябе людзкой;
Сьпі, пакуль лапцей ня носіш,
Люлі, родны мой!

Павяду цябе да пана,
Пастаўлю служыць,
Там ад вечара да рана
Будзеш ты рабіць.

За сьвіньмі ды за сахою
Будуць пхнуцца дні;
Сьпі, пакуль ты ня слугою,
Люлі, люлі, сьпі!

Хлеба, грошы ты слугою
Мала будзеш мець,
Аплявухаў-жа затое
Ня будуць жалець.
Крывёй вочы заліюцца,
Ты-ж працуй, цярпі!
Сьпі, пакуль ня зьдзекуюцца,
Люлі, люлі, сьпі!

З часам пойдзеш у салдаты —
Слуга ўжо цару,
За трыццатую ад хаты
Загоняць гару.
На вайне-ж, як забіяка,
Паліеш крыві,
Сьпі, пакуль ты не ваяка,
Люлі, люлі, сьпі!

Дамоў вернешся да бацькі,
Бацька бедзен сам,
Пойдзеш зноў на хлеб батрацкі
Служыці панам.
Штось ня ўгодзіш, пан багаты
Гікне: вон ідзі!
Сьпі, пакуль ня гоняць з хаты,
Люлі, люлі, сьпі!

Ты-ж ня рынешся ў канаву
З гора ды з бяды,—
Красьці выўчышся на славу,
Пан будзеш тады...

Што? з напасьці не прапасьці...
Гулі, гулякі!
Сьпі, пакуль ня ўмееш красьці,
Люлі, люлі, сьпі!

У вялікія ты людзі
Выйдзеш з беднаты,—
Шаблю зьвесіш цераз грудзі,
Стражнік будзеш ты.
Будзеш катам ты над братам,
Бяз жалю ані!
Сьпі, пакуль яшчэ ня катам.
Люлі, люлі, сьпі!

Будзеш пан вялікі з віду,
І шэльма душой,
Спатыкаць цябе я выйду,
Ты махнеш рукой.
Чужаком будзеш ты ў хаце,
На роднай зямлі.
Сьпі, пакуль ты тут пры маці,
Люлі, люлі, сьпі!

## ШАВЕЦ

Я шавец-маладзец,
Знаю дзела сваё,
Слухаць мусяць мяне
Капыльлё і скур'ё.

Пры варстаце маім
Дружна праца ідзе:
Жонка дратву прадзе,
Вучань суча яе.

Я сам „крой“ намачыў,
На капыл нацягнуў;
Стукі-стук! малатком,
Шылам, дратвай махнуў,

Падашву прылажыў,
Нагнаў штыфтаў кругом,
Абсац гладка прыбіў
Ды падкоўку на ём;

Капыл выдзер, і вот
Бот на траме вісіць;
Эй, дзівуйся, панок!—
Добра будзе насіць.

Эй, дзівуйся, хто жыў,
Які майстар я зух!
Бот, камаш, чаравік
Вам састрою удруг.

І багат-бы я быў
(Хоць ня бедзен і так),
Каб лапцей не насіў
Наш мужык-небарак.

## ПАНІЧ І МАРЫСЯ

Сьвеце месяц, сьвеце,
Як дзюрка ў сярмязе;
Паніч за мужычкай
Бязустаньня лазе.

Дваццаць год Марысі,
Кроў іграе ў целе,
З панскім сынам ночкі
Каратае, дзеле.

„Марыся, Марыся!"
Гавора ёй маці:
„Кінь на паніча так
Вачыма міргаці!"

Яна як ня чуе
Матчыных маралаў:
Спусьці маці з вока,
Дзеўка й загуляла.

Пад лясок, за вёску,
Бы далей ад дому,
Ляціць на спатканьне
К панічу ўдаломy.

Што з сабой там робяць,
Як час каратаюць?—
Гэта хіба толькі
Муж і з жонкай знаюць.

Сьвеце месяц, сьвеце,
Як лысіна ў пана;
Мусіць быць нарэшце
Песьня дасьпявана.

Ад пакус і ўцехаў
Крок адзін к пакуце,—
Быці бабай дзеўцы
Часам чорт паплуце...

Панічу з паненкай,
З багатай Амэляй,
Ужо рукі хусткай
Ксёндз вяжа ў касьцеле.

Панічова-ж любка,
Марыся ўдалая,
На прылёты бусла
Сьлёзна паглядае.

Марыся, Марыся!
Галоўкі ня чухай,—
Ня слухала маці,
Бабкі цяпер слухай.

## І ЯК ТУТ НЕ СЬМЯЯЦЦА...

На нашым хітрым сьвеце
Усяляк жыве народ:
Адзін жыве палюдзку,
Другі жыве, як скот.

Адзін другім гандлююць,
Купляюць, як той квас.—
Падноскі падбіваюць
Стаячаму ня раз.

І як тут не сьмяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на сьвеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось мчыцца пан на парцы,
Упражка зіхаціць!
І конікі абмыты,
І панскі лоб блішчыць.

На цэлы сьвет з пагардай
Дзікім глядзіць казлом,
А быў-жа ён нядаўна
Авечак гандляром.

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Вось хціевц грошы многа
З працэнтаў назьбіраў,
І фабрыку паставіў,
Людзям заробак даў.

Працуе душ галодных
Там соценькі са дзьве;
А ненасытны хціевц
Крывавы пот гняце.

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Вось доктар, пан вяльможны,
Лякар мужчын, кабет,
Вядзе убогіх, хворых
Ў асобны габінэт.

Пукнуў, паслухаў троху,
І кажа рубля даць,
А сам, як быў студэнтам,
Шоў бедным памагаць!..

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Вось ксёндз, служэбнік божы,
Ўвесь навучае люд,
Каб у касьцёл хадзілі,
Каб не грашылі тут.

Каб к жонкам на вячоркі
Ня бегалі чужым,
Беднейшым памагалі;
А сам?.. ну, бог і з ім!

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Вось аканом пузаты,
На чым ёсьць сьвет, раве,
Хоць клёку за капейку
Ня мае ў галаве.

І лае так сусьветна
Вясковых ён людзей;
А пасьвіў-жа нядаўна
У вёсцы тэй сьвіней.

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Вось шляхціц, марны шэршань,
Той выскачак адзін,
Душу заціркай муча,
Ужо ён гаспадзін!

Бяднейшаму ўжо брату
Рукі не падае,
Хоць сам такія·ж лапці
На ногі надзяе.

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Вось мужычок быў хітры,—
Абралі старшынёй;
Як чорт пераменіўся,
І свой яму ня свой!

З ураднікам у шайцы
І з пісарам у лад,
Ён мужыкоў, як ліпак,
Абдзёрці ва ўсім рад.

І як тут не сьмяяцца і г. д.

*

Цяпер свае прыпеўкі
Я кіну да пары,
Бо шмат каму напэўна
Яны не па нутры.

Бо, як там кажуць: шапка
На злодзеі гарыць,
Ці—парасё хто ўкрадзе,
Таму ў вушох пішчыць...

І як тут не сьмяяцца,
І праўды не сказаць:
Варон на сьвеце многа,
Ды некаму страляць.

## ПЕСЕНЬКА ДЛЯ НЕКАТОРЫХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ

У нас маладых людзей дужа вучоных
Цяпер надта шмат разьвялося,
Праўд нейкіх шукаюць на сьвеце нясьнёных,
Над бедным з іх кожны галосе.

Да працы да роўнай, да волі шырокай
Ахвочы крычаці, ўзываці;
Іх шумныя песьні нясуцца далёка,
Што ўсе людзі—родныя брацьці.

Як дзіўна, як складна бражджыць усё гэта!
Шмат праўды, а шмат тут і жартаў;
Пакуль песьня іхніх хаценьняў ня сьпета,
Прыгледзіцца к ім самім варта.

Адзін з вас, паночкі, хітрыя галоўкі,
На доктара выйдзе, і будзе
З няшчасных схварэлых цягнуць паўрублёўкі,
Лячыцца ў яго будуць людзі.

Другі будзе з вас брахунцом-адвакатам,
Як трэба судзіцца, парадзіць,
А больш каб карысьці мець, брата ён з братам
За нібы-та праўду павадзіць.

А трэці, што больш усіх рваўся к свабодзе,
Напэўна ён будзе йнжынэрам,
Як ставіць вастрогі планы павыводзе,
Збагаціцца гэткім манерам.

Чацьверты з між вас, вольнадумцы, у судзе
Расьсядзецца членам вяльможным,
Галодных, нявольных судзіці ён будзе,
Караці Сібірам марозным.

Во, пяты банкірам, а той зноў судзьдзёю,
А той там аптэку заложа,
І кожны сыт будзе, багацьце чужою
То крыўдай, то працай размножа.

Так будзе з вас кожны сьлядамі йсьці дзедаў,
Ня знаючы гора нікольки,
І ўсе вы, і ўсе вы палкі дармаедаў
Сабой павялічыце—й толькі.

І скажаце гэта вы некалі самі,
Як вам спухнуць каркі ад сала,
Што песенька песьняй, чужымі-ж трудамі
Жыць лёгка дый чэсьць і пахвала.

# З ДАРОГІ

Дарогай шырокай, з дарогі нялёгкай,
Дый многа бяз ліку гадзін,
На кій абапёрты, стары і абдзёрты,
Ішоў падарожны адзін.

Ішоў ён да вёскі, што блізка дарожкі
У полі пад лесам была;
Там некалі даўна ён жыў добра, слаўна,
Там моладасьць-радасьць прашла.

Там кінуў ён хатку і бацьку, і матку,
І жонку пакінуў сваю,
І дзетак маленькіх, прыгожых, міленькіх,
Пакінуў усю там радню.

У дальняй староңцы лет многа бясконца
Пражыў у бядзе ён цяжкой;
Ні шчасьця, ні долі ня бачыў ніколі,
Бядуючы сьлёзна парой.

Цяпер на зямельку, сваю карміцельку,
Прышоў, каб пабачыць сваіх,
Убачыць каб хатку і бацьку, і матку,
І дзетак—калісьці малых.

Ідзець ён, падходзіць і вёску знаходзіць,
Таксама, як жыў ў ёй, глядзіць:
І хаты-ж такія—гнілыя, старыя,
Карчомка таксама стаіць.

Тут хата Захаркі, там Еські, Ганчаркі,
Там Янкава жонка жыве,
Тут кум Давідзёнак, там сват Міхальчонак,
Там Сорка, што соль прадае.

А вот і садочак, а вот і дамочак
Даўнейшы яго тут відаць,
Во ганак той самы, з нізкімі вакнамі,—
Будынкі таксама стаяць.

Уходзіць у сенцы, аж гнуцца каленцы,
А сэрца трасецца, баліць:
Што будзе тут скора—ці радасьць, ці гора?..
Вось дзьверы адпёр і глядзіць...

Ушоў, пазірае, сваіх пазнавае...
Ах, што-ж? Ці пазнае калі?
Заплакаў нябожа і глянуць ня можа:
Чужыя ўжо там былі!..

## ГРАД

О вы, што век цэлы адзеты і сыты,
І з думкай аднэй, каб пражыць весялей!
Ці бачылі гора у вёсцы забытай?
Ці бачылі працу загнаных людзей?

Ці гнуўся з вас хто над сахою у полі?
Ці вёз з вас каторы да места дроў воз
На хунт які крупаў, на хунт які солі?
Ці пёкся на сонцы, ці мёрз у мароз?

Палац ваш сьмяецца з нядолі бядачай,—
Век музыка, песьні і сытасьці крык.
А там гэт, у вёсцы і стогне і плача
Ваш брат, пагарджаны галодны мужык.

Пад потам арэ, баранue і сее,
Каб белага хлеба прыдбаці для вас,
А хто-ж з вас яго у бядзе пажалее?
Паслухалі-ж песьні яго вы хоць раз?

Эй! песьня ад вас, як ад пнёў, адаб'ецца;
Вы рады-б і песьню здушыць, апляваць,
Бо ў песьнях шмат скаргаў на хціўцаў нясецца,
А ў скаргах бяздольных шмат праўды чуваць.

Гуляйце да часу уцехай шалёнай,
А можа і памяць надойдзе калі.
Эй! каб не спаткала вас доля Нэрона!
Рым можных шалёнствы к упадку зьвялі...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зашоў я раз к пану за нейкай патрэбай;
Сяджу, аж тут з вёскі прыходзе мужык.
Худы, чуць жывы, знаць, даўно ня еў хлеба,
Хоць, праўда, к бясхлеб'ю з іх кожны прывык.

Уйшоў, ўвесь трасецца, стаіць у парозе,
Баіцца йсьці далей, ат, ведама, гад!
Ён толькі адважны дрыжаць на марозе,
Крывавы пот ліці, каб пан быў багат.

Стаіць і ўздыхае і сьлёзы ўціpae,
З нагі на нагу праступае ўсё так,
Гняце, знаці, думка яго неўдалая.
Аж пан запытаўся: „Што скажаш, бядак?"

„Паночку міленькі!" той гэтак азваўся:
„Будзь ласкаў, зьмілуйся над горам маім,
Дай хлеба ці жыта: я ўсюдых цягаўся,
Нідзе не дастаў, сам галодны зусім.

І дома сямёра дзяцей засталося,
Нятоплена печка, няма што варыць,
А дзеткі заводзяць, а жонка галосе...
Ня йдзі хоць у хату, так цяжанька жыць.

Будзь ласкаў, паночку! Як будзе работа,
Я ўдвое за ласку табе адраблю...
Дай з пудзік, мей літасьць над нашай бядотай,
Пажыч, бо ці-ж буду я грызьці зямлю?!"

І моліцца гэтак, і жаліцца гэтак,
А колькі сьлёз выліў, сам хіба ня знаў,
Клянецца на жонку, клянецца на дзетак,
Што ён ня гультай, а што бог гэтак даў,

Што град выбіў збожжа усё да каліўка,
Так зьбіў, нібы конь пакачаўся ў траве...
А добра-ж была так абсеена ніўка,—
Як глянеш, здаецца, па ней штось плыве.

„Эй! шчыра, паночку", ён гэтак гавора:
„З сахой, з бараной увіваўся я ў полі;
Ару, барaную да поту, а скора,
А ўсё каб зрабіці, а ўсё як найболей.

Аж глянуці люба—абсеяў шнур цэлы:
Лялее пшанічка, авёс і ячмень,
Лялее другі шнур з жытцом, ужо белы;
Хаджу і любуюся кожненькі дзень.

Вот, думаю, будзе і крупак і хлеба,
Што лішняе—ў Менск павязу і прадам;
Вот будзе і солі, эй, ласкаў бог з неба!
Аддам ў магазын і падаткі аддам.

Дарэмныя-ж думкі былі усё гэта:
Нядолі праўдзівай, знаць, родны я сын!
Дарэмна я біўся вясну так і лета:
Усю маю працу дзень зьнішчыў адзін.

Раз неяк на небе зьявілася хмура;
Усякі з нас летняму дождж ыку рад,
Але тут шла летняя страшная бура...
О, божа, хаця-б не пасыпаўся град!

Гром глуха грахоча пад небам высокім,
Прыціхнулі птушкі, схаваўся каршун,
Мігнула маланка адблескам далёкім,
Ударыў у елку гняўлівы пярун.

Сьвет пеклам здаецца, зямля раве дзіка,
А неба, сыпнуўшы маланак агнём,
Азвалася бурай шалёнай, вялікай,
Лясы затрашчэлі, дождж лінуў ліўнём.

Пашоў я назаўтра к пасевам на поле;
Падходжу дзе жыта, дзе шнур з ярыной,
Хацеў-бы вярнуцца, ня йсьці ужо болей:
І смутна, і жутка, сам неяк ня свой.

Прышоў і... затрэсьліся ногі і рукі,
Хацеў-бы заплакаць—дый сьлёз не дастаў.
Дзе столькі ўлажыў я і працы, і мукі,
Мае ўсе пасевы з зямлёй град зьмяшаў"...

Так скончыў няшчасны свой жаль выліваці,
Па твары-ж сьляза за сьлязою бяжыць,
Як дзе летняй раніцай на сенажаці
Раса на травіцы вісіць і блішчыць.

Заплакаў-бы, браце, я разам з табою,
Дый сьлёзаў цяперашні сьвет не ўзнае;
Сіл трэба магутных змаганьню з бядою,
А сьлёзы, брат, высьмеюць толькі твае.

Вы скажаце, пэўна, што пан зьлітаваўся,
Даў хлеба ці збожжа, памог у бядзе?
Ці-ж знае, чым гора, хто з горам ня знаўся?
Паноў такіх добрых няма, брат, нідзе.

Паны толькі могуць гуляці да поту,
І беднаму гэты пры мне сказаў там:
„Плаціў я улетку табе за работу,
Плаці-ж і за хлеб мне: я дарма ня дам!“

## КАНЮХ

### Паданьне

Есьць, браткі мае вы, у нашым народзе
З даўнейшага часу паданьне адно,—
З дзядоў на унукаў ідзе, пераходзе,
І мне гэтак сама дашлося яно.

Навукі паданьне, ой, шмат захавала
Для грэшных, трусьлівых і цёмных людзей,
Ў ім бачым, што шчасьця зазнае той мала,
Хто праўды ня хоча пазнаці бардзей.

Гадоў таму многа, бяз ліку, бяз меры,—
За часу, калі сатвараўся наш сьвет,
Былі ужо створаны людзі і зьверы,
І птушкі-пяюхі усякіх прымет.

І людзі ўжо мелі усё, што хацелі:
Даліны і горы, і поле, і луг;
Лясы ўжо шумелі, дзярны зеляне лі,
І пекна і міла было ўсё ўвакруг.

Аднэй толькі рэчы яшчэ не хапала:
Ні каплі вады на зямлі ня было;
Праз гэта было бяды, плачу нямала,—
Усё піць хацела, што толькі жыло.

Ўсе сталі зьбірацца і радзіцца з гора,
Як гэтай пазбыцца вялікай бяды,—
Аж сам бог урэшце усім так гавора:
„Я вас навучу, як дастаці вады.

Ваду вы мець будзеце цягам навекі;
Зьбярэцеся разам, хто жыў на зямлі,
І ямы капайце на студні, на рэкі,
А толькі к рабоце усе каб ішлі!

І помніце: кожны, хто з вас астанецца,
Ня выйдзе у гэтай супольнай бядзе,—
Піць, піць будзе вечна такому хацецца,
І ён-жа ня знойдзе вадзіцы нідзе!"

Вот рвуцца да працы агромністай людзі
І зьверы, і птушкі, і кожны жучок;
І цяжка працуюць,—зрываючы грудзі,
Капаюць, цягаюць жвіровы пясок.

Ну! Будзе ім добра: дастануць вадзіцы,
Больш сохнуць ня будуць, як сохнуць цяпер;
Вот зробяць азёры і рэкі, крыніцы
І студні, а к студням—і зруб і асьвер!

Але хоць так шчыра паслухалі бога
Усе і за працу узяліся ўсе,
Канюх адзін толькі ня робіць нічога,
Ён гульма-гуляе, к рабоце ня йдзе.

Убачыў бог гэта з высокага неба,
Пазваў канюха і гавора тады:
„Няўжо-ж піць ніколі табе не патрэба?
Чаму не працуеш, дастаць каб вады?"

„Я піць не хачу!" так канюх кажа богу,
„А як захачу, дык нап'юся расы".
І тут ён пусьціўся назад у дарогу,
Аж енкнуў віхор, зашумелі лясы.

А з неба грамлівы ўсьлед голас раздаўся:
„Навекі ты будзеш жыць толькі расой!
І хоць-бы ты млеў і з жыцьцём расставаўся,—
„Піць, піць!" будзеш клікаць ты летняй парой!"

Вот скончана праца, нашліся крыніцы,
І мора бушуе, і рэчка бяжыць;
Хто колькі захоча, нап'ецца вадзіцы,
Адзін канюх просіць, лятаючы, піць.

Жалобна ён просіць так, як-бы клянецца,
Як моліцца богу, каб грэх дараваць,
І толькі часамі расіцы нап'ецца,
А самай жарой мусіць ён усыхаць.

Крычыць ён так, як-бы людзям для навукі,
Што боская кара ўсіх мусіць спаткаць
Тых, хто, баючыся цярпеньня і мукі,
Ня хоча па праўдзе для ўсіх працаваць.

Дык ведайце-ж, браткі, хто к працы вялікай
З вас рук прылажыць не захоча сваіх,—
Такому бог скажа: „Піць!“ цэлы век клікай
І будзь праклінаны ад брацьцяў сваіх“.

# СЬЦЁПКА ЖУК

1

Сьцёпка Жук, па бацьку Есцы,
Гаспадар усім на дзіва,
Ўсімі хвалены на вёсцы,
Жыве згодна і пачціва.

Абычай стары шануе,
Ня чураецца сярмягі,
Хаты дзедаўскай пільнуе,
Ад суседзяў шмат павагі.

Ен прыкладам для ўсёй вёскі,
Добра знае, калі трэба
З сахой выйсьці на сьвет боскі,
Калі дожджык пойдзе з неба.

Дзе якое сеяць збожжа,
Трудна лепш ад Сьцёпкі знаці;
Знацца лепш ніхто ня можа
На ральлі, на сенажаці.

Дзе якая звадка, схопка,
Годзіць, рае ў полі, у хаце,—
Адным словам, як наш Сьцёпка,
Рэдка нойдзеш гэткіх, браце.

2

Вечарынку як састрое,
Бо ўжо дзеці падрастаюць,—
Ёсьць і сёе, ёсьць і тое,
Музыканты гучна граюць.

За сталом Сьцяпан садзіцца,
Пры ім жонка і суседзі,
Чым паслаў бог, рад дзяліцца,
Ўсіх частуе, ўсіх прыгледзе.

Хлопцы-зухі і дзяўчаты
Пагуляць тымчасам рады,
Сталі ў пары сярод хаты
І далей-жа у прысяды!

Нуце, хлопцы, дзень далёка,
Пагуляйце, колькі воля!
Дый Сьцяпан ня зводзе з вока,—
Лішніх жартаў не пазволе.

Там і сям Сьцяпан бадзяўся,
Распазнаў сьвет доўгім векам;
Хто распусьце раз аддаўся,
Кепскім будзе чалавекам.

3

Жывець, праве, шыкам пана:
Крупаў, сала мае многа,
Хлеб вядзецца-ж у Сьцяпана
Круглы год, як у нікога.

А хлеб веены, ўсё белы...
Эй, што там казаць далёка!
Шнур зямлі ён мае цэлы,
Значыць—поўная валока.

З усёй вёскай ён у згодзе:
„Кепска", кажа, „жыці звадай".
Ен і ў воласьці на сходзе
Многа можа словам, радай.

Жывуць, скажа хтось вучоны,
За граніцай лепш народы;
Кормяць люду міліёны
Шахты, фабрыкі, заводы;

І у нас мінула-б ліха,
Каб настаў лад гэткі ў людзях;
Сьцёпка-ж бухне пад нос сьціха:
„А ўсё-ж бедны бедным будзе!"

4

Сьцёпкі жонка вёртка баба,
І язык... эй, што казаці!
А з рукамі і мазгамі
Трудна лепшай дзе спаткаці.

Ненаўды, што жонкі гэткай
Сьцяпан трохі і баіцца,
А найбольш, хоць то і рэдка,
Калі з сватам падхмяліцца.

У такую тады хвілю
Знае жончыну ён плату;
Гатоў кругу дацї мілю,
А цьвярозым прыйсьці ў хату.

Жонцы справіў чаравікі,
Сам-жа ў лапцях ходзе болей.
А пачуе дзе прытыкі,
Што ня меў ботаў ніколі,—

Сьцёпка скажа: „Эй, там, што ты!
Лепш па зімцы лета меці,
Пасьля лапцяў насіць боты,
Як па ботах лапці ўзьдзеці“.

5

У Сьцяпана лад між дзетак,
Лад на полі, лад у хаце,
Адным словам жывуць гэтак
Цяпер мала, пане браце.

Ад Сьцяпанавай хацінкі
Не адойдзе так убогі,
Пагарэлы без асьмінкі,
Сірата без запамогі.

Сьцёпка працы не баіцца,
Ці нуда гняце якая,
Песьняй роднай весяліцца,
Вечна весел, ня ўздыхае.

Стане хтось там наругацца,
Што так весел, хоць цьвярозы,—
„Лепей“, скажа ён, „сьмяяцца,
Як дарэмныя ліць сьлёзы“.

Да ўсяго Сьцяпан ахвочы,
Як то ёсьць прыпеў шляхочы,
І да танцу, і ружанцу,
Да выпіткі і выбіткі.

6

Плывуць леты, нібы рэкі,
Не варочаюцца болей,
Нішто жыць ня можа векі—
З сваёй, з божай нікне волі.

Сьцёпка выдаў замуж дочак,
Пры малодшым жыве сыне;
Як асінавы лісточак,
Ўвесь трасецца, горб на сьпіне.

Старасьць—слабасьць падасьпела,
Стаў нядуж к рабоце ўсякай,
Неяк ходзе ўжо нясьмела,
Нос распушыла табака.

Часам пойдзе ў лес і лыкаў
Надзярэ якіх з пяць пукаў,
З браку ботаў, чаравікаў
Лапці керзае для ўнукаў.

Старасьць, старасьць—смутны весьці!
Ўжо і „вушка“ ня прымеце,
Скора, пэўна, будзе плесьці
З сваім дзедам на тым сьвеце.

## АДПЛАТА КАХАНЬНЯ

*(З праўдзівага здарэньня)*

Вы хочаце казкі?—ну, добра, ну, ладна!
Садзецеся во дзе, і слухаць прыкладна!
Я-ж збаю, пакуль дзень загляне ў ваконца,
Ды толькі ня казку, а праўду, як сонца.

На сьвеце на белым, пад Гайнай убогай,
Жыў шляхціц багаты; меў поля ён многа
І конікаў сытых, і ўсякай скаціны,
І грошы, што чуць іх ня мерыў асьмінай.
Ня знаў ён, што голад, што холад, што праца,
Еў смачна, спаў доўга,—пан істы з палацу!
Шмат слуг на яго працавала у полі,
Што праўда—галодных, абдзёртых найболей,
А ён-жа, ім плацячы марныя злоты,
Стаяў, як над быдлам, ганяў да работы.

Во гэты то шляхціц, во гэты багаты,
Пан новай і гонтамі выкрытай хаты,
Меў некалькі сёстраў, а стройных і мілых,
Прыгожых у твары, здаровых на сілах;
Кроў, проста, здаецца, зьмяшаная з млекам,—
Спаткаўся дзе з імі—бяда з чалавекам:
Загіне напэўна з душою прастачай,
І сонца ня ўгледзе, і хаткі ня ўбача!
Аж так счараваці патрапяць галубкі
І іхнія грудзі, і вочы, і губкі!
А надта-ж адна з іх, што звалася Зосяй,
І зграбненька ходзе, галоўку лепш носе,
І лепей сьмяецца, і лепей міргае,
А ўся, як малінка, як кветка жывая!
Ці дзе загавора, ці песьню зацягне,
То слухаў-бы вечна,—так кожны прысягне.
Ой, гэтакай песьні, ой, гэткай гаворкі
Аж слухаюць птушкі, ўсьміхаюцца зоркі.

Цяпер вам цікавасьць, ці гэта паненка
У грудках у пышных, пад крамнай сукенкай,
Ці мела там сэрца, што шчырым каханьнем
Магло адазвацца хоць раз прад скананьнем?
Ой, мела напэўна, ой, моцна кахала!
Цяпер так сардэчна кахаюцца мала.

Пад горкай пад крутай, пры ціхай далінцы,
Над вузенькай рэчкай, абапал гасьцінца,
Расьселіся хаты апушчанай вёскі,
Ў якое то садзік, то дзьве-тры бярозкі
Ясьнейшым прыветам здаюцца для хатак,
А далей—вясковы адзін недастатак.
Пахілыя хаты глядзяць на староны,—
На стрэхах камамі парос мох зялёны,
Струхлеўшыя сьцены ў зямлю пайяжджалі,
А шыбы у вокнах ня больш па дзьве цалі.
Цікавасьць, ці праз так малое ваконца
Загляне у хатку калі-небудзь сонца?

У нізкай хацінцы, ў аднэй з найбяднейшых,
Ў аднэй з найкрывейшых, ў аднэй з найцямнейшых
Рос Янка Лявончык, па бацьку—Прывада;
Прыгожы быў хлопец, дзяўчатак прынада;
Што возьме, то зробе, зух першы ў забаве,
Ня мае плям чорных на сэрцы, на славе.
У вёсцы у роднай ён добрым суседам,
Ня крыўдзе дзяцей, не сьмяецца над дзедам,
Прыветліва з кожным спаткаўся, растаўся.
Ой, добры быў Янка, хоць з горам то знаўся.
У двор на работу хадзіў ён штодзенна,
Там з працай усякай спраўляўся сумленна;
Дзе толькі ні стане, працуе ў ахвоту.
І славы дакажа, рваць будзе да поту.
Сталетнюю хвойку паваліць у боры,
Корч выдзерці ў пасецы Янка ня хворы;
Загончык як выараў—глянуці міла,
Пракосік прагоне—то значна, дзе сіла.
За рукі, за працу і чэсьць і пахвала!
Быў Янка работнік, якіх цяпер мала!

А хоць грашмі бедзен, другім чым багаты:
Зайздросьцілі хлопцы, любілі дзяўчаты;
Любіла і Зося, шляхоцкая дочка,
А гэтаму сьведкай і садзік, і ночка.

Хто пройме, прагледзе спатканьні, гулянкі,
Мірганкі і шэпты каханка, каханкі?
Хто зьліча, па колькі друг дружку цалуе,
Галубіць і туліць, пяшчотна мілуе?
Ой, трудна пазнаці, ой, трудна збадаці.
Здаецца, штось бачыш, дый рэшты ня знаці!
Бо ночка каханьню спрыяе заўсёды,
Збаўляе каханкаў ад кепскай прыгоды.
А шчыра-ж, а міла і Зося, і Янка,—
Янук, сын мужыцкі, а Зоф'я, шляхцянка,—
Што ночку бяз сьведак адны карталі,
Аб шчасьці каханьня салодка шапталі.
А часам і смутныя думкі зазвоняць
Да сэрц закаханых,—яны іх разгоняць,
Абняўшыся шчыра, сваім цалаваньнем.
Эх, добра хоць трохі пажыці каханьнем!
Так смутна, так горка таму жыць на сьвеце,
Каму лёс каханьня ў душы не расквеце,
Хто братняй душы у жыцьці не спаткае,
З якой-бы і любасьць сплывала сьвятая,
З якой-бы і горам сваім падзяліўся,
І ў жалі паплакаў, к грудзям прыхіліўся.
— „Эй, Зося!—так Янка гавора, бывала:
„За што мяне шчасьце такое спаткала?
А можа няшчасьце, а можа і сьлёзы?
І сам я ня знаю, ці п'ян, ці цьвярозы.
Ты, панна, і любіш мужыцкага сына,
Убогага хлопца—пасажна дзяўчына;
Што людзі, што брат твой на гэта нам скажа,
Як праўду пазнае, загадку разьвяжа?
Ты-ж паняй і будзеш, і выйдзеш за пана,
А я буду плакаць ад рана да рана,
Аж высахне сэрца, кроў ў жылах застыне,
І ўсё з таго жалю па пекнай дзяўчыне".

А Зося за шыю да сэрца прыцісьне:
„Ой, Янка, ой, лгун, ты пляцеш так сумысьне,
Ці-ж Зосі ня верыш, што шчыра так любіць,
Што Янку праз любасьць напэўна ня згубіць?
Як любіць сягоньня—любіць будзе вечна,
І Янка мой добры спаць можа бясьпечна".
Так Зося гавора, і Янка забыўся,
Што з паннай з багатай так шчыра зьлюбіўся,—
Цалуе, мілуе, і ночкі ім гэтак
Мінутай праходзяць; аж летнія ўсе так
К канцу ўжо зблiжалiся; поле пусьцела,
І восень падходзіла сьціха, нясьмела.
І вось хоць нарэшце лёс чорны іх здрадзіў:
Падгледзіў брат Зосін іх сходкі у садзе.

Ноч цёмнай пасьцілкай зямлю абхінула,
Жыцьцё ўсё замёрла, прырода заснула.
На небе дзе-не-дзе забліскалі зоры,
Наехалі хмараў дажджлівыя горы,
І зоркі пагасьлі, і ўсё сьпіць у згодзе,
Адзін чалавек толькі сну не знаходзе.
Ня сьпіць пан Лаўчынскі, той шляхціц багаты,
Агонь яшчэ сьвеціцца з панавай хаты.
Страшэннаю помстай палае блюзьнерца,
Як ноч на Пакровы—сам чорны і сэрца;
Ня бача ён сьвету, ні праўды, ні бога,
Ня хоча ўжо знаці нікога, нічога,
Ўсё ходзе па хаце, шалее са злосьці.
„Як можна? Шляхцянка—род панскі, косьць з косьці—
З мужыцкай крывёю зьмяшаціся хоча!
На сьвет паказаці ня будзе як вочаў.
Той Янка, хамула, паненку абыме...
О! сьмерць яго ўперад з зямлі гэтай прыме!"
Так чорныя думы адна за адною
Снуюцца ў тырана, як стада зімою
Ваўкоў згаладалых, ня сытых ніколі,
Шукаючы жыру, валочацца ў полі,
Валочацца, аж дзе ахвяру спаткаюць
І выдзеруць сэрца, і вочы зглытаюць.
Эй, страшна, эй, жутка спаткацца з ваўкамі,

Страшней-жа з тым зьверам, што ўходзе між намі,
Як мы, чалавекам, а сэрцам—пантэра;
О, гэткі зьвер горшы за ўсякага зьвера!
Снуецца Лаўчынскі па хаце, як мара.
Чорт цешыцца: будзе для пекла ахвяра;
Штохвіля крываўшую помсту знаходзе,
Штохвіля чарнейшыя думкі наводзе
І шэпча: „Забі йдзі, як сьпіць у вадрыне,
Ці ў садзе, як зловіш яго пры дзяўчыне,
Ці ў лесе, як пойдзе табе сеч бярвеньні,
Але забі толькі, ня бойся сумленьня!"
Яшчэ не здаецца, яшчэ азірнуўся
На кут, дзе абраз быў, душой страхануўся;
Схапіў тапор востры рукой подлай, сьмелай
І выскачыў з хаты, глухі, азьвярэлы.
А хмары па небе ішлі і стагналі,
І як-бы бязбожніку грозна крычалі:
„Апомніся, грэшны, вярніся дадому!
Аб гэтым ноч-маці ня скажа нікому".

У вёсцы, так кажуць, жыве люд шчасьліва,
Зжываецца з горам і з працай, і з нівай;
У вёсцы у ціхай люд, кажуць, менш грэшыць,
Пакусаў менш мае, малым сябе цешыць,
І сцэнаў крывавых менш нойдзеш у вёсцы.
Ну, праўда-ж, як грушы растуць на бярозцы!
І ў местах, і ў вёсках шальмоўства вядзецца,
А толькі у месьце бардзей хто уп'ецца,
Бардзей і саграшыць, другога закрыўдзе.
У местах няўмысьне сабаку забіў дзе,
А ўжо на сьвет цэлы разбрэшуць газэты,—
Як-бы гэнэралам сабака быў гэты!
А ў вёсцы прыглядзься-ж на крыўды, на сьлёзы,
Што выльлюць дарэмна у сьпекі, ў марозы,
Што за сабак згіне людзей нешчасьлівых
У лесе пад дрэвам, з натугі на нівах;
А колькі на цёмных „сьвятлейшых" сягае,
І больш дзе хто з працы другіх карыстае?!
Ня скажаце ў местах, бо знаеце самі,
Што вёска больш зьліта людзкімі сьлязамі.

У вёсцы хоць горка пакрыўджаны плача,
Маўчаць кожны будзе так, як і ня бача...
Занадта сьляпы люд, занадта баіцца,
Каб мог ён за крыўду сваю заступіцца.
Праз тое і вёску так хваляць поэты,
Найболей такія, што, зьеўшы катлетаў,
Віном якім смачным катлет той закусяць;
О, гэткія, пэўна, аб шчасьці пець мусяць!

У пуні у панскай, як мёртвы, сьпіць Янка,
Ня вышаў да саду спаткацца з каханкай
(Таго дня да Менску паехала Зося).
Ой, дзіўныя часам сны ночка прыносе!
Вось Янка шчасьлівы, ўжо гора ня знае,
За жонку ўжо Зосю прыгожую мае,
Ўжо ў новай хацінцы яна гаспадара,
А ў стайні ржэ конікаў сыценькіх пара;
Саха валоў рослых, чатыры каровы
Скубецца на лузе; лясок-жа сасновы
Ту-ж блізка пры хатцы сячэ Янка сьмела,
Да пана ня мае ніякага дзела,—
Ня трэба ўжо ўсякаму рук цалаваці.
Шмат мае ён поля і шмат сенажаці;
А ўсё гэта працай дабыў ён пачцівай,
Як жыць пачалі яны з Зосяй шчасьліва;
Ды трохі прынесла яна і ў пасазе,
А важнае—любасьць, што лепш багацтв князя.
Ва ўсім памагае рукамі і радай,
Прад ім не азьвецца ні плачам, ні звадай.
І робіцца радасна Янку на сэрцы,
Што гэтак шчасьлівы, што ў горы ня б'ецца,
Ня мучыцца так, як уперад бывала...
Аж раптам вось гэтага шчасьця ня стала.
Жудосны зьвер-прывід падходзе, здаецца,
Зубамі скрыгоча і дзіка сьмяецца.
Збудзіўся, глядзіць ён на зданьне благое
І крыкнуў: „Паночак! За што? За якое?"

Сьпіць вёска сном моцным па працы па цяжкай,
Начлежнікі ў лузе—пад буркай, сярмяжкай,

А ў хатах—дзяўчаты і дзеці, і бабы
На ложках, на лавах, на печы—дзед слабы;
Нідзе ані шуму, ні плачу, ні крыку,
Ня чуць і кляцьбы тэй, якой днём бяз ліку.
Адзін толькі вецер шамоча бярозкай,
Ды недзе сава загукала за вёскай,
А далей—ноч-пані, і пуста, і глуха...
Аж вось даляцеў гук да чуткага вуха:
Што гэта?.. Збудзіліся людзі з пасьцелі,
У цэркаўцы блізкай званы загудзелі...
Што гэта? Што гэта? Хоць поўнач на сьвеце,
А відна, як сонца на небе ўжо сьвеціць.
„Пажар, гэй, пажар!“ так вакол загудзела;
Крычаць: „Уставайце, гасіць дружна, сьмела!
Гарыць у дварэ у Лаўчынскага нешта;
Гасеце! Згарыць там будынкаў і рэшта“.
Сабраліся людзі, ды толькі па часе:
Ніхто ўжо агню не зальле, не загасе.
Гарыць пуня панская, полымя мкнецца
І знамем крывавым на небе здаецца.
Бясьсільны тут людзі, бясьсільны іх рукі...
Хто ў полымя ўлезе на болі, на мукі?
І... пуня згарэла. Тарчыць куча сена,
Дымяць галавешкі, астаткі ад сьценаў;
Цягаюць іх людзі з агню на староны.
Аж... божа! Што гэта? Корч нейкі звуглёны...
Хто толькі ні гляне—ўцякае з трывогі;
Корч мае людзкія і рукі, і ногі!
Пры тулаве знаць галава чалавека—
Косьць толькі, няма ні вячэй, ні павекаў.
Пазнаў народ, што хтось згарэў з пуняй разам,
Пакленчыў над трупам, як-бы над абразам:
Пазнаці люд хоча, хто марна так згінуў,
Сьвет гэты пакінуў, радню ўсю пакінуў?
Глядзяць... аж тут раптам енк страшны разьнёсься
Аж кожны смуціўся, аж кожны затросься,—
Енк гэткага жалю, енк гэткай балесьці,
Што можа душой і тырана затрэсьці!

Так крыкне па страчаным любым дзяўчына
І маці так енкне, хаваючы сына.
І маці тут родная труп той пазнала,
Пазнала таго ў ім, каго ўзгадавала,
Хто хлеба ёй, беднай, насіў яшчэ ўчора,
Хто быў-бы ёй, беднай, на старасьць падпорай...
Эх, сын яе родны, эх, Янка прыгожы
Ляжыць няжывым на пасьцелі, на божай!
Ня ўстане на векі і сьвету ня ўбача...
І плача так маці і горка так плача,
А з ёю, здаецца, і ночка галосіць,
І сьлёзы зьбірае і к богу заносіць.

Ці-ж добра, ці-ж лёгка? Эй, пане, эй, мсьцівы!
Што Янка у пуні згарэў нешчасьлівы?
Твая-ж гэта, пане, рука учыніла,
Што будзе на сьвеце аднэй больш магілай,
Аднэй больш магілай, а сьлёзаў бяз меры.
Прыгледзься, што зробіў ты ўзмахам сякеры?
Вось Янка забіты, вось Янкава маці
Убогая мусіць ісьці жабраваці,
Бо ўжо працаваці застара, заслаба,
Ня то, што мужчына, ат, ведама,—баба!
А што скажа Зося, як з места прыедзе?
Што скажа, як спаленым Янку угледзе?
Ну, цешся, ну, цешся пацехаю ката!
Ужо дамавіна гатова на брата.
Ці-ж добра, ці-ж лёгка? Эй, пане, эй, мсьцівы!
Што Янка у пуні згарэў нешчасьлівы,—
Так голас таемны пытаецца ў пана;
Але грызьць сумленьне ці-ж можа тырана?
Раз толькі надумаўся збродню ўчыніці,
Ахвяру праз помсту са сьвету згубіці,
То пэўна, што плакаць па зброднi ня будзе:
Ня будзе йсьці роўна, хто раз ужо зблудзе.

Сьвітае. Вот Зося ужо з Менску едзе,
Вясёлая, цешыцца,—Янку угледзе;
Усё ёй так мілым, як лепей ня трэба:
І гэтыя людзі, і гэтае неба;

І рада сьмяяцца, і рада сьпяваці,
І з хлопцам прыгожым пайці пагуляці...
Прыехала-ж панна на плач, не на йгрышча,
Убачыла з пуні адно папялішча.
Што ўбачыла далей, сказаці ня можа;
Два выбеглі слоўцы: „О, Езу! О, божа!"
І рукі заломе, і крыкам шалёным
Азвалася з жалю над Янкам звуглёным.
На брата узгляне: маўчыць той панура,
Зубамі заляскае, вочы зажмура.
Дарэмна дзяўчына адкрыць праўду хоча;
Зжымаецца сэрца, цякуць сьлёзы з вочаў...
Га! чымся так жыці, лепш легчы у гробе.
У сьлёзах, у муках, у цяжкай жалобе
Праходзе дзень гэтак; ноч сьціха ўжо пхнецца,
А Зося ні мёртва, ні жыва снуецца.
Прашла ноч, і раніцу сонца прыгнала.
Дзе-ж панна? А панны з пасьцелі ня стала.
Збудзіліся слугі, і пан прабудзіўся;
Сястры няма дома. Спачатку зьдзівіўся,
А потым і чорныя думы абселі:
Ці-ж Зосі праз тое ня стала з пасьцелі,
Што спалены Янка?.. Тут болей затросься,
Заныла на сэрцы, страх нейкі пранёсься.
І выскача з хаты, і крыкне на слугаў,—
Заве ад работы, заве як-бы другаў:
„Эй, людзі! Дзе Зося, дзе ваша паненка?
Шукайце! Няма яе ў гэтых тут сьценках.
Была тут у хаце, няўжо яна ў полі?
А можа, а можа... ня ўбачу ніколі!..
Шукайце, шукайце! Бярэце багацьце,
А толькі, каб Зосю я відзеў у хаце!"
Крычыць так Лаўчынскі на ўсе на староны,
А дзіка, а страшна, як зьвер той шалёны.
І зьбегліся людзі, шукаюць, гукаюць;
Дарэмна! Дзе Зося, дзе панна—ня знаюць.
Аж глянуў брат родны у сад на сасонку—
Вісіць сястра пана, вісіць на пастронку.

У тры дні дзьве ямы на труны капалі:
На могілках Янку-хамулу схавалі,

А далей, за могілкі,—гожу паненку,
Народ-жа над імі маліўся і кленкаў.
Нябожчыкаў несьлі хаваць неяк зрана,
Пад вечар-жа везьлі ў вар'яцкі дом пана.

Эй, кончана казка! Ну, як вам здаецца:
Ці праўды ў ёй многа, ці лжэ, ці сьмяецца?
Мне-ж верце, што гэта ёсьць праўдай звычайнай,—
Спытайцеся толькі старэйшых пад Гайнай,
Там кожны з ахвотай раскажа вам гэта;
Хоць там яшчэ гора людзей не апета,
Але у паданьнях жыве і жыць будзе
І сьведчыць сабою багатых аблудзе.
Закінеце, можа, што ў казцы на пана
Замнога ўсялякіх шальмоўств наўскладана?
Няхай-жа багаты пан кепска ня чыне,
Напэўна і казка ні ў чым не абвіне.
Бо што зробіць бедны, з бяды што натвора,
Такога і казка ня так абгавора;
А створа-ж багаты дзе подласьць якую,
І з роскашы праўду патопча сьвятую,
Ні ў чым не дазнае ад прышласьці ласкі:
Такім не даруюць ні песьні, ні казкі.

# ГУСЬЛЯР

ДРУГОЕ ВЫДАНЬНЕ (ПЕРШАЕ ДРУКАВАЛАСЯ ЛАЦІНІКАЙ)

* * *

Я нясу вам дар.
Братніх скіб і сяліб,
Смутных сосен і ліп,
Думак дар, сэрца жар,—
Вольных, звонкіх песень чар.

Гэй! нясу вам дар!
Гэй! гэй! гэй!

Хай-жа песьня ўсюды льлецца,
Ў сэрцах вашых адгукнецца,
Зьзіханецца, ўскалыхнецца,

Як звон той,
Як свой!

А хто брат мне тут і друг,
Ладзь-наладзь душу і слух,
І за песьняй думкай скоч,
Там, дзе Нёман, Дзьвіна, Буг
Точуць наша поле, луг,
Дзе шумяць у сьвет далёкі
Белавежа, Налібокі,

Дзень і ноч,
Думкай скоч!

Прымі дар, сэрца жар,
Вольных, родных песень чар!
Гаю, гаю, гэй!!

## ГУСЬЛЯР

Гэй, гусьляр, гусьляр!
Ты удар, удар
Па струнах-званах,
Дай нам з песень дар,
Дум вялікіх чар,
К сонцу зорны шлях,
Дай, гусьляр, гусьляр!

Дзе залёг абшар
Курганоў—ахвяр,
Сей, засей прасьвет.
Ты слуга і цар,
Ты дудар-званар,—
Чуе, знае сьвет...
Эй, гусьляр, гусьляр!

Перавалы хмар,
Цемру, зводы мар
Выжый звонам струн;
Як вялік і стар
Сьвет, зямлі папар,
Ты ад гуми да гуми
Запануй, гусьляр!

Дай паходням жар,
Лінь жыцьцё ў бор-яр,
Ня мінай вакон;
Строй ваякаў шар,
Кроў сагрэй, як вар,
Сказам новых дзён...
Грай, будзі, гусьляр!

## СЯБРОЎЦАМ ПА ДОЛІ

окі маю ад сэрца патолі,
К вам ненавісьць грудзей ня крываве,
Думы рвуцца і к шчасьцю, і к славе,—
Я слуга ваш, сяброўцы па долі.

Свойскай песьняй у слоў родных цьвеце
Я хачу, што ў душу мне нагоне,
З вашых хат, з вашых спочаных гоняў,
Вашу долю, нядолю апеці;

Несьці пад саламяныя стрэхі
Ва ўсё веру, што шчасьцем быць можа,
Што надзеі цьвісьці далыш паможа;
Эй, хачу быці рэхам пацехі!

І во ў гэтакай службе, паходзе,
П'ючы сьлёзна жоўць крыўдаў, прытыкаў,
Платы з вас не жадаю вялікай,
От, іскрынку прывету, і годзе!

А сканаю, злучуся з зямлёю,
Вы курган мне насыпце высокі,
Бо, як будзе мой дол няглыбокі,
Не знайду і па сьмерці спакою.

## ПРЫВІТАНЬНЕ

Зноў я з вамі, са сваімі,
Мілыя сяляне!
Будзем разам спатыкаці
Ночку і сьвітаньне.

Станем разам у парадак
З плугам на папары
Спольна скібіну варочаць,
Нажываць загары.

Над работай няпрыдумнай
Вясковай пакоры
Будуць здаля баіць байкі
Хвойкі, ясакоры.

Скіба ў скібу, гоні ў гоні
Высьцелем на дзіва;
Ляжа зерне, ўзойдзе колас,—
Узрастай шчасьліва!

За плугамі за сваімі
На прасторы божым
Чыстым сэрцам, вольнай думкай
Песьню-казку зложым.

Пойдзе плавам песьня-казка
Ў сьвет аб нашай славе,
Дзіву дасца сьвет вялікі
Гэтакай праяве.

Хай сьвет знае, што патрапе
Бяз чужых прымусаў
Беларуса праца, сіла,
Сэрца беларуса.

## ГУСЬЛІ-САМАГРАІ

Як зайгралі, загудзелі
Гусьлі-самаграі,
Панясьліся, паляцелі
Песьні па ўсім краі.

Ад паляны да паляны,
Ад бора да бора,
Плыве голас няўніманы,
Як-бы хвалі мора.

Аб вялікай аб старонцы,
Беларусі-маці,
Жальба страшная бясконца
Ўсё чуваць-чуваці.

Як душы таёй пакутнай,
З-пад магільнай пліты
Гоман веча ў гусьлях чутны,
Чутны звон разьбіты;

Хоць разьбіты, хоць забыты,—
Для ўсіх зразумелы,
І ад сьвіту аж да сьвіту
Слухае сьвет цэлы.

Плачуць, жаляцца спрасоньня
Гусьлі-самаграі,
Аж, здаецца, пушча стогне,
Курган уздыхае.

## ЖАЛЬЦЕСЯ, ГРАЙКІЯ СТРУНЫ...

Ліра зьмірае ў спакою,
Губіцца струнавы звон;
Лірнік чапніся рукою—
Творыцца песень мільён.

Жальцеся грайкія струны,
Рэхам расходзьцеся ў даль!
Гэткі сьвет ярмен і сумны,
Гэткі паношыцца жаль!

Сэрцу нясеце зьлягчэньне,
З пут вызваляйце душу,
Новыя ліце праменьні
Ў сонную быту глушу.

Ліце прызыўныя чары,
Жыўчую думкам ваду,
Высельце буднасьці мары,
Духаў благіх чараду.

Ціхаму кроўнаму полю,
Сьлёзьмі абмытай зямлі,
Вызваньце лепшую долю,
Лепшыя скарбныя дні!

Сьцежку хутчэй ідэалам!..
Квецься, палай, хараство!
Куйся, зарнічная хвала,
Вечная радасьць, дабро!

Ліра пяе ў няпрывеце;
Жаліцца лірнік адзін...
Гэй-жа, далей з беспрасьвецьця!
К сонцу з пакутных нізін!

## ВЕЦЕР, І СОКАЛ, І Я...

вецер, і сокал, і я—
Сыны аднэй долі-жыцьця,
Наводзім маркотныя мы
І думы, і песьні адны.

*

Разьняў вецер крыльлі свае,
Ляціць і шуміць, і пяе;
Пяе а свабодзе сваей,
Пяе а бязвольлі людзей.

*

Як вецер, і я-б так ляцеў,
Як вецер, аб тым самым пеў,
Як вецер, свабодны мой дух,
Хоць гора цягаю ланцуг.

*

Пад зорамі сокал завіс,
Глядзіць паарлінаму ўніз.
Там сокалу сьвету ня жаль;
Мілей яму небная даль.

*

Як сокал, і я-б мкнуў да зор:
Там сонца, раздольле, прастор;
Бяз жалю-б пакінуў зямлю,
І хатку, і долю сваю.

*

вецер, і сокал, і я—
Сыны аднэй долі-жыцьця;
Наводзім маркотныя мы
І думы, і песьні адны.

## ПЕСЬНЯ І СІЛА

Дайце разгону, прастору
Дрэмлючым песьням і сілам,—
Дрогне запор наймацнейшы,
Мы ўскалыхнём і магілай.

Продка адвечную думу
Праўнук санлівы пачуе;
Што ўзяць курган нам маніўся,
На кургане адбудуем.

Шлях залаты працярэбім,
Зорна ўзьнясёмся ў высоты
Вышай няпраўды, няславы,
Вышай пакутных балотаў.

Моц сваю сьвету пакажам...
Зьдзіўляцца старцы і дзеці:
Што знача песьня і сіла!
Што знача вельмі хацеці!

## АДГУКНІСЯ, ДУША!..

Адгукніся, душа, песьняй звонкай грымні!
Няхай песьня з віхрамі памчыцца.
Ў братніх сэрцах няхай разгарацца агні,
Думы новай пальлюцца крыніцай.

Ад зары, да зары, па радзімай зямлі
Зацяганыя людзі снуюцца,
І гаруюць яны, рэдка шчасны калі,
З чорнай доляй змагаюцца, б'юцца.

З іх жыцьця бяз жыцьця, з іх беднот і цямнот
Карыстае бясспуцьце, як можа;
І ніхто-ж не жалее, як вечных сірот,
Ні свой брат, і ні ты нават, божа!

Жальбаў слухае іх толькі шум баравы,
На іх мукі глядзяць толькі зоры.
Адгукніся-ж, душа, на іх стогн векавы!
Задрыжэце, даліны і горы!

## ШЧАСЬЛІВАСЬЦЬ

Мецьбы мне крыльлі саколія,
Мець-бы мне волю зарніцаў,
К нізам ня рваўся-б ніколі я,
З высі-б глядзеў на зямліцу.

Птахам свабодным пад зорамі,
Лётаў-бы шпарка над сьветам,
Па-над далінамі, горамі;
Шчасьце сьвяціла-бы мне там.

Вокам начніцы прагледзіста
Ў тайнаў сягнуў-бы заставы,
Быў-бы сам даляй нязьведзістай,
Даляй свабоды і славы.

Песьняй душы ўзрывы чыстыя
Лінуў-бы ў сьвет на прывольле;
Слухалі-б зоры агністыя,
Вецер-бы ўторыў на доле.

Зможаны-ж гібелі сілаю,
Век рвучысь далей і далей,
Хмарка была-б мне магілаю,
Зоры памінкі-б спраўлялі.

Вось і па сьмерці з зямліцаю
Знацца ня трэба ўжо будзе...
Быці, ой, гэтак!—крыніцаю
Радасьць плыла-бы мне ў грудзі

Дуньце-ж, о, віхры прывольныя!
Цёмнай ня дайцеся сіле,
Вырвіце думкі нядольныя,
Дайце мне сонца і крыльле!

## К ЗОРАМ

К зорам агністым, к прывольлю нябеснаму,
Вырваўшы з ціны жыцьцёвай душу,
Мчыся, ня дайся цярпеньню балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу!

К зорам, што так над табой разгараюцца
Льсьніста ў мільённай па небе сяўбе,
Рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца:
Там хэрубіны спаткаюць цябе!

Песьні там, духамі зораў стваранья,
Будуць душу весяліці тваю;
Думна ўзьнясешся над нізяй туманнаю,
Рдзеці дасі там прывольля агню.

З зораў, з-пад неба ўсё быццё зямельнае
Проймеш паглядам цікавым наскрозь;
Бачыці будзеш—з жыцьцём неразьдзельныя—
Крыўду, бяспуцьце, нянавісьць і злосьць.

Горна расстаўшыся з буднімі справамі,
Тысячы ўздохаў пачуеш з грудзей;
Вызнаеш брата з рукамі крывавымі,
З сэрцамі гадзінаў поймеш людзей.

Крыкі, праклявіцьці пачуеш нязнаныя,
Мукі старыя, стагнаньні цямніц,
Трупамі ўбачыш паляны засланыя,
Сьлёзы сірот, удавіц, маладзіц.

Будзеш глядзеці на гэта ўсё дзікае,
К зорам-жа мчаціся будзе твой дух;
Будзе на сэрцы спакойнасьць вялікая
Ўскросшым з нізін, дзе Зьніч праўды затух.

К зорам агністым, к прывольлю нябеснаму,
Вырваўшы з ціны жыцьцёвай душу,
Мчыся, ня дайся цярпеньню балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу!

Дарогай змучаны далёкай,
(А быў дзяніны таей склон),
Я лёг пад крыжам і так лёгка
Заснуў, і гэткі бачу сон:

Я лесам шоў; якаясь змора
Вяла па ім мой сьпячы дух,
А лес быў цёмны, як дно мора,
Як мора дно, быў нем і глух.

Я заблудзіў, і страшна стала
Мне ў гэтай пушчы аднаму;
Ды бурай неба рагатала...
І ўздумаў я: памру—вазьму!

Надзея з вераю нямелі...
Тады, як з неба ці з зямлі,
Якаясь цень падходзе ў белі,
Такая, быццам знаў калі,

І кажа мне: „Чаго, сын міра,
Упаў так сэрцам і душой?
Я—песьня, а во мая ліра!
Бяры нас! Хочам быць з табой.

І страх жыцьця цябе аставе,
І бор пачне шумець жыцьцём;
Мы сьлед праложым табе к славе,
Чаго жадаў, мы ўсё дадзём".

І дзіва! Блуд і страх мой зломан:
Лес прасьвятлеў, загаманіў,
Мне стаў паняцен пушчы гоман...
Тут я збудзіўся, не дасьніў.

## НАША МІНУУЎШЧЫНА

Мы ня жылі, як жывуць людзі,
Гасьцінцам шчасьця не хадзілі,
Ня зналі ўцехі нашы грудзі,
Вянкоў мы славы не насілі.

Мы ў паніжэньні, ў вечным трудзе,
З днём кожным слабшыя на сіле,
Бясцэльна па калючай грудзе
Блудзілі, горасна блудзілі.

Быдлём асуджан быў валяцца
Сын свайго краю, родных межаў;
Калі-ж хто ўздумаў прачыхацца,
Курган прыбавіў толькі сьвежы.

Хацеў хто песьняй адазвацца,
Глушыў хаўтурны воклік з вежы;
З нягодай мусілі змагацца,
Як тыя вербы на ўзьбярэжжы.

## А ЯК МЫ З ХАТКІ ВЫХОДЗІМ...

...А як мы з хаткі выходзім,
Крыжам сябе абазначым,
Блудна вачыма паводзім,
Ці калі вернемся, ўбачым?

А як мы пойдзем па полі,
З намі, за намі нягода,
На нашай ніве гугольле,
На нашым поце урода.

А як пальлецца ў пацёмках
Песьня за лесам, за борам,
Слухаюць елкі, сасонкі,
Лес толькі з намі гавора.

А як мы пойдзем гасьцінцам,
З намі, за намі ўздыханьні,
У дзеннай і ночнай часінцы
Блудзім і блудзім, як зданьні.

А як мы вернемся к брату,
Лепшай спытаем дарогі,
Маем пацехі багата:
Тыя карчомкі, астрогі.

А як на неба мы глянем,
Дзе дрэмлюць сонца пажары,
А ні тых зор, ні сьвітаньня,
Хмары, і хмары, і хмары...

А як да могілак прыдзем:
Крыж, каля крыжа бадылі,
І тут мы толькі увідзім,
Як-жа здарма век блудзілі!

## З ПЕСЕНЬ ЖЫЦЬЦЯ

Нарадзіўся на долю-нядолю
Чалавек на багатым на сьвеце,
Ад пялёнак на волю-няволю,
Ад пялёнак бяз часу змарнеці.

Рос. Хадзіці навучыла матуля,
У лазовыя лапці абула,
Апранула на скокі, на гулі.
Аж старая паціху ўсхліпнула.

І дала, ой, дала на дарогу
Крыжык, матчынай зьліты сьлязінай,
Бацька бацькаўску даў прасьцярогу;
Выпраўлялі так з хаты дзяціну.

І пашоў ён, пашоў шляхам знаным,
І пашлі за ім сьпекі, марозы,
І зажыў ён, зажыў князем-панам
Ні то жыў, ні то п'ян, ні цьвярозы.

Думкі родныя сьледам хадзілі,
Коні, волікі ўчылі пакоры,
Пятухі на работу будзілі,
Сон наводзілі ціхія зоры.

Як устане, як пойдзе, бывала,
Пот-расіца і вымые чыста,
Сьлёз нап'ецца сваіх да адвалу,
Кроў свая ахарошыць квяціста.

Цягам так, пад апекай, пад шчырай,
Ні дзе даць, ні ступіць яму шагу,
З кута ў кут, з году ў год, як на вырай.
Пятлёй волен прагнаць голад-смагу.

Ой, жывецца на сьвеце, жывецца,
Чалавеку так слаўна, так лоўка,
Аж і сьпіна штось гнецца, здаецца,
Затраслася, сьсівела галоўка.

. . . . . . . . . . . . . . .

Годзе! годзе! Ня ўсё, знаць, асіліў;
Зачыні ўжо сухія павекі!..
І злажылі няздару, злажылі
У дамавіне, ў магіле навекі.

І насыпалі насып жвіровы,
Крыж паставілі новы, яловы.
Гэй, ляжы з сваёй доляй-нядоляй!
Гэй, ляжы з сваёй воляй-няволяй!

## БЕЗЬЗЯМЕЛЬНЫЯ

Жывём, забытыя людзьмі,
Пацех ня знаючы ні ў чом,
Крывавім сьцежкі мы сьлязьмі,
Ўвесь сьвет для нас магільным сном.

Ні нам вясна цьвіце, пяе,
Ні лета коласам шуміць,
Снапоў нам восень не дае,
Зіма нам толькі век гудзіць.

Глядзім на неба, на зямлю,
Ня раз з пракляцьцем на жыцьцё,
Аром мы ніву не сваю,
Дабро зьбіраем не сваё.

Хацінкі кут ня наш—чужы,
Ня наша ў поле стада йдзе;
О, сэрца, колькі ня тужы,
Няма нам радасьці ндзе!

Раве мяцеліцай зіма,
Вясна зальле паводкай сьвет,
Вады і сьцюжы нам няма,
Зжыліся з імі з малку лет.

Наклаўшы зрыўкаў і ламоў—
Убор саміх і хат гнілых,
З адных павыгнаны вуглоў,
Шукаць мы цягнемся другіх.

Худыя жонкі на вазох,
Пры жонках дзеці чарадой,
Мы самі ў зношаных лапцёх
Ідзём за коньмі пехатой.

Ідзём—у вочы вецер дзьме,
З-за хмараў сонца ня відаць,
Бяда, нуда прыгнула, жме,
Удушшам грудзі ўсё скрыпяць.

Эй, доля! Колькі мы разоў
Прасілі, клікалі цябе;
Ня йдзеш! Знаць, хтосьці з сьвету зьвёў,
Ці хлеба мала ў нас табе?

Ці, можа, дзікай непагодай
Цягацца з намі надаела?
Начлег застрашыў нявыгодай,
І ты нам, доля, акалела?

Жывём, рассыпаўшысь па сьвеце,
І сьмерць сабраці нас ня можа,
Хаця і ўсякага прымеце,
Хаця і ўсякага абложа.

Хаця усякага з нас грудзі
Магіла жудкая прыдаве,
Над якой крыж паставяць людзі
На памяць нашай беднай славе.

Над якой вырасьце сасонка,
І безьзямельных стогн пачуе,
І шумам, песьняю нязвонкай,
Над намі хіба забядуе!..

## СЯДЗЬ ТУТ, НА ЎЗЬМЕЖКУ...

Сядзь тут, на ўзьмежку, сядзь аддыхні,
Змучаны, браце, дарогай!
Ты без аддухі многія дні
Шоў сіратою паміж людзьмі,
Ждучы спачынку з трывогай;

не знашоў ты друга нідзе,
Што запрасіў-бы ў хаціну,
Дзе-б ты забыўся аб горкай бядзе,
Што за табою з горам ідзе,
Дзе-б аддыхнуў ты часіну.

Дзе-б табе далі цёплы куток,
Каб не калеў на марозе;
Каб ня млеў, хлеба далі-б кусок,
Веры і сілы, дзе-б ты, дружок,
К дальшай набраў-бы дарозе.

І не знашоў ты хаткі такой;
Дальш ісьці мала ўжо сілы;
Сядзь тут, на ўзьмежку, браце ты мой!
Тут як спачнеш ты з бурлівай душой,
Дойдзеш лягчэй да магілы.

## А ЯК НАМ ЗОРКІ ЗАГАСНУЦЬ...

А як нам зоркі загаснуць,
Месяц ня зьменіцца болей,—
Прыдзем да вечнага шчасьця,
Цемры к нам прыдуць з патоляй.

З глыб наразгаднага быту
Новае прыдзе збаўленьне,
Ўсё нам памера, паліча,
Думкі разьбіты і церні.

А покі яснасьць старая
Будзе свае снаваць ніці,
З хаты да хаты ня кіне
Дух векавечны блудзіці.

Стукнецца ў шыбіны, ў сенцы,
Ўкіне свой кліч-заклінаньне...
Мы, падыходзячы к ночам,
Ждаць будзем новых сьвітаньняў.

А як на нашай на ніве,
Крыўда гнязьдзіцца ўсё будзе,
Новыя выплывуць сілы,
Новыя к слаўнасьці грудзі;

Сэрцы ахвярна палажаць,
Насып насыплюць высокі,
І не пяройдзе той насып
Злыбеды цень бледнавокі!

А покі думка аб праўдзе
Ня ўзьдзене плесьні-сівізны,
Будзем нясьці свае ношы
К ціхім мальбішчам айчызны.

Сьвежыя ўзьдзенуць нам кіры;
Мы ўжо таго не забудзем,
Што нам пры вечным скананьні
Ўсё, ўсё палічана будзе.

## ЦІ ТЫ УЗОЙДЗЕШ КАЛІ, СОНЦА?

З плачам думка-песьня льлецца
Па замучанай староньцы,
З плачам рэха адаб'еццa...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Маці ўдоўка, сірацінка
Паглядаюць у ваконца,—
Дагарэла ўжо лучынка...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Пхнецца сьцежкай падарожны,—
Няма хлеба ўжо ў катомцы,—
Цэль далёка, зблудзіць можна...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Мужык з горам ляжа, ўстане,
Пляце байкі дзеткам, жонцы,
Толькі чутны уздыханьні...
Цы ты ўзойдзеш калі, сонца?

Шнур бядак пахаў да поту,—
Марны-ж колас на саломцы,—
Ні красы тэй, ні ўмалоту...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Безьзямельны згубіў долю,
Хоць шукай з бяды ў палонцы;
Ні тэй хаты, ані поля...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Сэрца поўнае трывогі
Жальма жаліцца бясконца;
Ні тэй праўды, ні дарогі...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

З плачам думка-песьня льлецца
Па замучанай староньцы,
З плачам рэха адаб'еццa...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?
— Ці ты ўзойдзеш?

## ЗЬНЯМОГА

Плача сонца маладое
Над плянэтай над старою,
    Іскры сыплюцца цурком,
Што ня тымі пуцінамі
Ходзяць леты за лятамі
    У вечным зладзе з курганом.

Безнадзейна, бястрывожна,
Ціха, зважна, асьцярожна
    Хаос гнёзды ўе свае,—
Вара зельле-калатуху,
Пое, зводзе князя-духа,
    Перадыху не дае.

Сьвіты, захады крыляцца,
На аднэй таўкуцца кладцы,
    Цемра вабе згубным дном;
Плача сонца маладое
Над плянэтай над старою,
    Іскры сыплюцца цурком.

## ЗА ГОДАМ ГОД

За годам год, за родам род,
Што хвалі хмар, што плесьні вод,
Па зьменах зьмен, на ўсход, на сход.
За родам род, за годам год.

На ўсход, на сход ідзе-брыдзе
У чарах-снох, у злыбядзе...
Канца ні ў чым, канца нідзе,
На ўсход, на сход, брыдзе-ідзе.

За бытам быт, за стогнам стогн,
За сьмехам сьмех, за сконам скон,
За векам век, за звонам звон,
За мглою мгла з усіх старон.

Ідзе-брыдзе за сьледам сьлед,
І ноч, і дзень, і цьма, і сьвет,
І песьні кліч, і сьмерці цьвет,
Ідзе-брыдзе за сьледам сьлед.

За годам год, за родам род,
Што хвалі хмар, што плесьні вод,
Па зьменах зьмен, на ўсход, на сход
Ідзе-брыдзе на быт, на звод...

* * *

Як вазьму жалейку ў рукі,
Як вазьму сваю,
За нішто тады ўсе мукі,
Граю ды пяю.

Што мне сьлёзы, што мне гора,
Як пушчуся я?
Знае неба, сонца, зоры,
Знае ўся зямля.

Вецер здоймецца, балесьне
Шасьне па страсе,—
Гэта цешыцца ён песьняй,
Песьню ў сьвет нясе.

## ДУМКА

Нудна ў думках Тамаша,
Нудна, адзінока,
Рвецца сэрца і душа
Недзе, эх! далёка!

Птушкай-бы ляцеў, ляцеў
Весела, разгонна,
Па-над хатку, па-над хлеў,
Па-над бор зялёны.

Эх! ляцеў-бы глянуць, чуць
Неба сіне мора,
Як гуляюць, як жывуць
Сонца, месяц, зоры.

Стуль, спусьціўшысь на сяло,
Так туліў, туліў-бы
Усё, усё мыста пад крыло:
Брата, вёску, скібу.

. . . . . . . . . . . . . . .

Нудна ў думках Тамаша,
Нудна адзінока;
Рвецца сэрца і душа
Недзе, эх! далёка!..

## МАЕ ДУМКІ

Мае думкі, быццам кумкі,
Назаляцца любяць мне,
То стыдліва, то пужліва,
Тая ў яве, тая ў сьне.

Тая плача, тая скача,
Тая песенькі пяе;
Як зязюлькі-аздабулькі,
Думкі родныя мае.

Ходам-зводам за народам,
За братамі за маймі
Цераз гоні, цераз тоні;
І вазьмі-ж ты іх, вазьмі!..

Дні, вячоры—полем, борам,
То ім жалю, то пацех...
Стужай стогнуць, бурай дрогнуць,
Сонца гляне—яны ў сьмех!

Як пры студні ў дзень ня будні
Кумкі гутарку вядуць,—
Думкі глянуць, не адстануць,
На язык усё бяруць.

Сяк і гэтак шмат ох, летак
Акелзаць я іх хачу:
Прытыкаю, навучаю...
Думкі змоўклі,—я маўчу.

Ціха... ціха... Што за ліха?
Маю думкі—не пасьлед;
За манаткі, ды зноў з хаткі,
З ветрам, з песьняй сып у сьвет!

## ДА СВАІХ ДУМАК

Скажэце мне, думкі,
Гора-весялушкі,
Чаго вы прыціхлі,
Як у восень птушкі?

Чаго вы прыціхлі,
Чаго прынямелі?
Ці вы са мной смутным
Шчасьцейка ня мелі?

Ці вас бедных людзі
Міла ня віталі
І вашую радасьць
Злосьцяй аплявалі?

Ці вас маё сэрца
Адчуці ня ўмела?
Ці вас мая доля
Скрыўдзіці пасьмела?

Эх вы, мае думкі,
Ўстаньце, ачуняйце!
Хоць вам мо' і цяжка,
Як калісь зайграйце!

Ня слухайце злыдняў
Казкі сьвета ўражай,—
Слухайце, што сэрца,
Што душа вам скажа!

Як звон гусьляў звонкіх,
Як арол на скале,
Голас ваш свабодны,
Голас ваш, як з сталі.

Дык іграйце-ж, думкі
З верай шчасьліва,
Зьменным людзям, сьвету
На ўзгардасьць, на дзіва!

## З ДУМАК МАРКОТНЫХ

Трудненька, ой, жыці
Ў беднасьці, ў глушы:
Замест сьмеху—сьлёзы,
Жаль нейкі ў душы!

Шчасьце ня прыходзе,
Хоць дней клічу шмат;
Гора не ўцякае,
Хоць і выгнаць рад.

Песьню-б вырваць з сэрца
І пусьціць на сьвет!..
Хай ляціць, хай знойдзе
Ласку і прывет.

Мо' шчасьнейшай будзе,
Як я, сын бяды,
Можа хто пачуе,
Запяе з нуды.

Можа хоць бор цёмны
Рэхам адгукне,
Можа вецер вольны
Заўтуруе мне.

Можа ў небе зорка
Песенькі маей
Зразумее голас
І міргне ясьней.

Ночка ў тайных шэптах
Азьвецца хвальбой,
А можа і людзі
Не пагардзяць ёй.

## ЯК ТУТ ВЕСЕЛА СЬПЯВАЦІ?

Як тут весела сьпяваці,
    Думкай весяліцца,
Калі ў беднай маёй хаце
    Сонца жыць баіцца?

Калі дзе ня йду гаротны,
    Ня маю прывету,
Калі мой пагляд маркотны
    Ня бача прасьвету.

Чорнай долі суд няправы
    Не дае спакою;
Зоры шчасьця, зоры славы
    Ня льсьняць нада мною.

Не заходзе ка мне ў госьці
    Мілая пацеха,
Не нямее людзкай злосьці
    Расшальное рэха.

Ў паніжэньні, ў паняверцы
    Жыцьця хвілі трачу,
Толькі плача маё сэрца,
    Песьня мая плача.

## А ХТО МАЮ ДОЛЮ ПОЙМЕ?

А хто маю долю пойме?
А хто зразумее?
Хто мне гора сьлёз адойме,
Хто нуду разьвее?

Ці журчаньнем ручаінка,
Ці шумам чарэсьня,
Ці прыгожая дзяўчынка
Удалою песьняй?

Ой, каб шчасьцейка мне даці,
Няма такой сілы!
Дзён вясёлых мне ня знаці
Да самой магілы...

## ВЫЙДУ, ВЫЙДУ...

Выйду, выйду я з хацінкі
У зялёны садок,
Пайду к грушцы пад галінкі,
Пасяджу кусок.

Шуміць грушка нада мною,
Трасуцца лісткі,
Душа поўна неспакою,
У сэрцы жаль такі.

Навяртаюцца на вочы
Сьлёзы, як раса,
Сьветлых думак гнаць ня хоча
Моладасьць-краса.

Лятуць толькі думкі з даля,
Хмурныя, як я,
Гасяць, давяць смуткам, жалем
Прасьветласьць жыцьця.

Пяюць песьні, як з напасьці,
Як восень, зіма,
Што ня жыць мне ў волі, ў шчасьці,
Што долі няма...

Ой, ня рвіце сэрца мне так,
Думкі! Трудна жыць!
Вазьму крыкну грозна гэтак,—
Доля прыбяжыць.

Гэй, бяжы ты, гэй, ляці ты,
Доля, да мяне,
Табой, клічу, пазабыты
На яве і ў сьне.

Праўда думак: голас мрэ мой,
Долі ня чуваць,
Шуміць толькі грушка нема,
Лісточкі дрыжаць.

## НА МОГІЛКАХ

Стаю на могілках і думу
    Ў сьлязьлівым сэрцы калышу,
Ганю ад жыцьцёвага шуму
    Ў загробны край сваю душу.

Бягуць прыгасшыя зраніцы
    Па наспах, плітах і крыжох;
На ўсіх, знаць, смутак без граніцы,
    На ўсіх лет многіх парос мох.

Ляжаць зарытыя тут касьці
    Ваяк гаротных за жыцьцё,
Зышлі ў зямлю на вечны госьці,
    Зышлі пад дзёрнаў пакрыцьцё.

Эх! б'ецца, б'ецца хтось нямала
    Гаротна ў шчасьці, то ў бядзе;
Скасіла сьмерць—і ўсё прапала...
    Дзе гора, доля, думы дзе?

Усё ў халоднай сьпіць магіле
    Сном вечным, непрабудным сном.
О, сьмерць! Хто дзе цябе асіліў?
    Ня йшоў, ня зьлёг пад курганом?

Ідуць усе, і я за ўсімі
    Зыду з нудой, бядой сваей.
Так цяжка жыць паміж жывымі!
    Ў магіле будзе мо' лягчэй.

## СІРОЧАЯ ДОЛЯ

Цяжка сірацінцы
    Адзінокай жыць;
Доля-весялуха
    Зьнікуль не бяжыць.

За хатай і ў хаце
    Цярпіць сірата:
То мароз марозе,
    То заліць слата.

Бачаць маці, бацька
    Роднае дзіцё;
Ўбогую сіротку
    Хто-ж убача, хто?

Ад брамы да брамы
    Йдзе, зьбірае хлеб,
Ручачку працягне,—
    Кожны глух і сьлеп.

Кожны насьмяецца
    Над беднаю ей,
Са зрэбнай кашулі,
    З лазовых лапцей.

Ой! цярпіш, сіротка,
    Усё жыцьцё цярпіш;
Пойдзеш у магілку,—
    Хто-ж паставе крыж?

Хто, як ляжаш спаці
    На векі ў зямлю,
Пацеры згавора
    За душу тваю?

Хіба гэты вецер,
    Што ў платох пяе,
Хіба з дажджом хмарка
    Сьлязу праліе.

Хіба ночкай зоркі,
    Што ў небе гараць,
Па сіротцы ўбогай
    Будуць бедаваць.

## НАД КАЛЫСКАЙ

Люлі, сьпі, мой сынку!
Годзі плакаць, драцца!
Зашануй сьлязінку:
Некалі прыдасца.

Глянуць з неба зоры
На жыцьцё, на беды;
Пойдзеш ты з пакорай
Свайго бацькі сьледам.

Вырасьцеш, дзіцятка,
Сасьніне па вуха,
Будзеш дуж, мой братка,
Як мядзьведзь-маруха.

Толькі будзеш ніжай
Беднаты пакорнай,
Не пазбудзеш крыжа
Сваёй долі чорнай.

Сьцяжыну блудліву
Нойдзеш ты за хатай,
Зьмерыш сьвет шчасьліва,
Не спаткаўшы брата.

Сам скуеш ты путы
Гора векавыя,
Сам саўеш пятлю ты
На сваю ты шыю.

Зыдзе год за годам,
Зыдзе чарадою,
Буры, непагоды
Сьвіснуць над табою.

Ты з мучэньнем зжыўся,
Давядзе да рэшты:
Бедным нарадзіўся—
Бедным і памрэш ты.

Дык-жа сьпі, мой сынку!
Годзі плакаць, драцца!
Зашануй сьлязінку:
Некалі прыдасца.

## НА ДУДЦЫ

Як-жа можна ў маёй хаце
Жыць долі,
Калі хлеба ёй ня хваце
І солі?

З маёй хаткі пацех мала,
Як з лому;
З страхі бура пазьдзірала
Салому.

На падпорах сьцены, шульле
Гнілыя;
Вецер чуць не перакуле,
Як вые.

А праз нізкія ваконцы,
Як ночай,
Хоць-бы глянуць ясна сонца
Ня хоча.

Вясна з голадам прыходзе
Заўсёды,
І благія шле разводзьдзе
Прыгоды.

Летам—праца, пот сплывае
Ракою,
Што засею—град зьбівае
Бяз бою.

Прыдзе восень, золка стане—
Час цяжкі;
Па пустым таку б'е з раньня
Цэп важкі.

А зімой завеі ў полі
Гуляюць,
Хаўтуры па маёй долі
Спраўляюць.

## З ПЕСЕНЬ АБ МУЖЫЦКАЙ ДОЛІ

Чый шнур вузак, убог,
Не дарос, не дасох
Лагі—мох, асака?
— Мужыка!

Чыя ў працы за ўсіх
Не спачыне на міг
З мазалямі рука?
— Мужыка!

Чыю хату віхор
Пахіліў, страху зьдзёр,
Зьбіў упору з тачка?
— Мужыка!

Дзе чыйго ў край чужы
З роднай нівы-мяжы
Адарвалі сынка?
— Мужыка!

Каго бедаў прыгон
З усіх мучыць старон,
Як на ўвязі ваўка?
— Мужыка!

Чыя слава ўсягды
Ня мінае бяды,
Турмы, торбы, шынка?
— Мужыка!

Чыю песьню чуваць,
Як-бы мае хаваць
На той сьвет бедака?
— Мужыка!

Гроб-магіла чыя
Сьпіць на дне забыцьця,
Як-бы змыла рака?
— Мужыка!

## КРЫЖЫ*)

Чуць мы божы сьвет убачым,
Ї да самай да магілы
Ўсё, як ёсьць, крыжамі значым,
Ці то міла, ці ня міла.
Як у хаце нарадзіўся,
„Бабка“ крыжам прывітала;
Як у царкве ахрысьціўся,
Крыж „кума“ падаравала.
Як пашлі дні маладыя,
Зноў бяз крыжа ані трошкі:
Дзе ня ступіш, крыжавыя
Ї гасьцінцы і дарожкі.
Крыж баліць табе, бяднязе,
Ад тэй цяжкай ад тэй працы,
Накрыж латы у сярмязе,
Накрыж дзюркі ў тваёй хатцы.
Пальцы накрыж ты складаеш
Ад напраснай ад напасьці;
Крыжам злыдняў адганяеш,
Каб ад крыўдаў не прапасьці.
Доляй мучаны паганай,
Сьлед сьлязой пачнеш крывавіць;
Крыжам ляжаш распластаны,
На сваім абы паставіць.
Крыжам ляжаш за парогам
У тэй цэркве, дзе хрысьціўся,
Крыжам ляжаш перад богам,
Каб цябе ён не забыўся.
Так жыцьця крыж мусіш несьці,
Як дзяды твае насілі;
А як данясеш да сьмерці—
Крыж пастаяць на магіле.

*) Ужываньне крыжоў,—сымболізацыя пакутнага становішча беларускіх працоўных мас пад царскім абсацам. Крыжы—цяжкая доля. *Рэд.*

## БЯСЕДА

Годзі маркоціцца, хлопцы, дзяўчаты!
Дружна падходзьце к сталу, во сюды!
Будзем гуляці; шынкар наш багаты
Дасьць чым пацешыцца, дасьць, як вады.
Гэй, грамадой
Засядзьма ў рад!
Свой, ці ня свой—
Нам кожны брат—
Будзьма аднэю сям'ёй!

За сваю радную мачыху-долю
Вып'ем па чарцы, вып'ем усе!
Жыйма сягоньнешнім шчыра у волю,
Плюйма на тое, што „заўтра“ нясе.
Гэй, чаркі ў ход!
За долю п'ём.
Да дна-ж... І вот
Тут за сталом
Сонца спаткайма усход!

Нашы дарожкі, знаць, ліхай часінай
Выбіты, церні бо скрылі і сьлед,
Пійма, палійма гарэлкай сьцяжыны—
Ссохне мо' зельле, ўзойдзе мо' цьвет.
Гэй, ў добры час,
Пійма дружней!
Гульнём хоць раз!—
Хто можа, пей!
Хай госьце радасьць і ў нас.

Віхры праціўныя веюць нам вечна,
Сілы змагаюць, капаюць грабы,
Тут-жа гуляем, пакуль што бясьпечна,
Нуце-ж! да чарак, да дальшай гульбы!

Гэй, не драмі!
Пі, хто ня п'ян,
Другім налі,
Ня будзь паган,
Знай—і мы так-жа людзьмі!

Сэрцы дрыжаць нашы, кроўю абліты,
Грудзі пылаюць змучэньня агнём,
Рукі змазолены, дух наш прыбіты;
Гэй-жа! Усё гэта атрутай зальлём...
Гэй, на прывет
Гэткіх прыкрас.
Наш тут абед,
Выступ-паказ!
Хай дрогне зьдзіўлены сьвет!

## З ГОРА ДЫ З БЯДЫ

Гэй, хадзі ў карчомку,
Дружа малады!
Гарэлачкі вып'ем
З гора ды з бяды!

Ўтопім долю ў чарцы
Хоць на час сваю,
Там табе я песьню
Гулка прапяю.

Чарачка-галубка
Шчасьця дадае,
І сэрца і думкі
Весяліць твае.

Пры чарачцы поўнай
Радасна ў вачах,—
І добрымі людзі,
І жыцьця ня страх.

І сябе пры чарцы
Ў крыўду-б не даваў,
І за сваю-б праўду
З кожным ваяваў.

І кроў маладая
Ў жылах закіпіць,
І дзяўчынку-сонца
Хацеў-бы туліць.

Дык чаго марудзіш,
Дружа маладый?
Хоць раз хадзі ўп'ёмся
З гора ды з бяды!

## ПЕСЬНЯ-КАЗКА

Гэй! далёка за морам, за сінім
Ёсьць адна старана, ёсьць адна,
А ў ёй князева дочка—княгіня,
Сьвітазарай завецца яна.

Гэй! далёка за лесам, за борам
Ёсьць адна старана, ёсьць адна,
А ў ёй князь у злацістым уборы,
Срыбра б'е ад каня, ад сядла.

Гэй! далёка за хатай, за вёскай
Ёсьць адна старана, ёсьць адна,
А ў ёй молад дзяцюк, бяды цёзка,
Ні ганораў, ні скарбаў няма.

Гэй і вышла, ой! вышла праява:
І той князь, і дзяцюк той бядак
Спадабалі княгіню на славу,
Спадабалі—і як яшчэ, як!

Не на рэчцы лялее вадзіца,
І ня явар калыша лістком,—
Гэта кроў маладая бурліцца,
Гэта сэрца пашло хадуном.

І паехалі ўдвух яны ў сваты
(Абодвум далей нельга так жыць),
І той князь, і дзяцюк небагаты,
Сьвітазару за жонку прасіць.

Едуць дзень, едуць ноч, едуць доўга,
Дзяцюк з тэй, а князь з тэй стараны;
Таму пнём, таму шляхам дарога;
Яны едуць, і едуць яны...

Не арлы, сокалы на даліну
Па дабычу-пажыву лятуць—
Два ўдальцы да аздобнай дзяўчыны
У яе хорам цудоўны бягуць.

„Вот, княгіня, вот, наша ты пані!"
Яны кажуць абодвы так ей:
„Няхай ласка твая на нас гляне,
Няхай выбера, хто ёй мілей!"

„Я багат, я брыльлянтаў даволі
Сыпну, княжна, пад ножкі твае;
Маё поле—тваё будзе поле,
Табе слугі пакорны мае".

„Я хоць бедзен, ды шчыра за тое
Сваё сэрца, душу табе дам;
Ня дам слуг, а сам буду слугою,
Скарбам стану цаньнейшым я сам".

Княжна чуе ўсе гэтыя словы,—
Бедака бярэ мужам сабе.
Князь запеніўся, мсьціцца гатовы,
Дзяцюку ўгрозы сыпе ў кляцьбе.

Ня груган над ахвярай шыбуе,
Несхаваную высачыў косьць,
К праўдзе ўвагі ня знае, ня чуе,
Як зьмяя, чалавечая злосьць.

З чараўніцаю зельле князь вара,
З цёмнай сілаю дружбу вядзе;
Маладую ўсыпляе ён пару,
Маладому аковы кладзе.

Прабудзіўся ўдалец,—і што бача?
Сам бяз княжны, апошні з людзей;
Сьвітазара у хораме плача,
Князь з дружынай гуляе сваей.

Ходзяць хмары шумліва, паважна,
Падцінае хаўтурны ім звон;
Людзі плачуць над хлопцам, над княжнай,
Князю б'юць за паклонам паклон.

## ГОЛУБ І ДЗЯЦЮК

Любе голуб галубку,
На гняздо ладзе любку;
Дзяцюк любе дзяўчыну
І будуе хаціну.

Забіў ястраб галубку,
З гняздом вецер зьмёў любку;
Адбіў недруг дзяўчыну,
Агонь зьнішчыў хаціну.

Найшоў голуб другую
Ўжо галубку, за тую;
Дзяцюк плача па згубе,
Другой так не палюбе.

Голуб зноў гняздо ладзе,
Свайму гору ён радзе;
Хлопца вабе магіла,
Хаткі ставіць ня сіла.

## ПЕСЬНЯ

Па зімовай па дарожцы
Мужычок брыдзе;
Дух займаецца ад ветру,
Сьнег бадзе, бадзе.

Эй, ня гоне шчасных доля
З-пад хатняй страхі
На такую непагоду,
На холад такі!

Дол капаці на магілкі
Бедачок сьпяшыць:
Дома страшную меў госьцю,—
Нябожчык ляжыць.

Каля белай дамавіны
Апошнюю дань
Дзеткі дараць і галосяць:
„Мама, мама, ўстань!"

Пяць іх бедных малалетак,
Сірацінак пяць;
Хто-ж замене ім матулю?
Хто будзе хаваць?

Хто ад мачыхі іх будзе
Бараніць благой?
Хто сіротак пажалее?
Скажы, дружа мой.

## НЕ ЖАЛЕЙКА ЙГРАЕ

Не жалейка йграе
Пад ляском за вёскай,
Не вятрок хістае
Беленькай бярозкай;

Дзевачка-нябожа
Уздыхае, плача
Па сваім прыгожым
Па жыцьці бядачым.

Жыў, любіў сіротку...
Ночкі караталі;
Песьціўся з лябёдкай—
Думкі ашукалі.

Несьлі людзі ковы:
За сваіх уняўся!..
Курганок жвіровы
Памяткай застаўся.

Сьпіць ён, небарача;
Дожджык насып мые,
А дзяўчынка плача,
А дзяўчынка ные.

## БЫЛО ГЭТА...

Было гэта вясною,
Клаў гняздо верабейка;
        На лугу на зялёным
        Шчасна йграла жалейка.

Было гэта улетку,
Шукаў зёрн верабейка;
        Хмары з громам стагналі,
        Нудна пела жалейка.

Было гэта увосень,
Гнаў каршун верабейку;
        На слаце-непагодзе
        Галасіла жалейка.

Было гэта зімою,
Мёр, замёр верабейка;
        Лягла ў сьнежныя гурбы
        Паламанай жалейка...

## ДЗЯЎЧЫНЦЫ

Ты адзінокай, я сіратою—
Возьмем і пойдзем разам з табою
Колкай жыцьця пуцявінкай;
Долю, нядолю, сэрцы і думы,
Зложым скарб гэты ў скрыню адну мы,
Будзь ты маёю, дзяўчынка!

Новую хатку табе збудую
І гаспадарку спраўлю такую:
Будзе хлябок і скацінка.
Днём будзем працай час каратаці,
Прыдзем з работы, будзем у хаце
Пяяць з табою, дзяўчынка.

Цябе, о, вер ты мне, маладому,
Я не пазволю нідзе, нікому
Крыўдзіці, строіці кпінкаў;
Сьцерагчы буду, як сваёй зрэнкі,
Новыя буду спраўляць сукенкі
Табе, з табою, дзяўчынка.

Шчыра і міла, сэрца маё ты,
Дам табе колькі хочаш пяшчотаў,
Буду паслушнай галінкай;
Буду, хоць віхры стануць шумеці,
Цёмна і жудка будзе на сьвеце,
Ўсюдых з табою, дзяўчынка.

А як нам доля надта дадзене,
Дасьць болей гора, а шчасьця меней,
Цяжкая прыдзе часінка,—
Тады, як разам згодна жылі мы,
Зносячы сьпекі і холад зімаў,
Памром з табою, дзяўчынка.

Ціха ў пасьцелі ляжам жвіровай;
Крыж нам паставяць белы, яловы,
Насып абложаць дзярнінкай;
Буры жыцьця мне сьлёз ня скупілі;
Гэткі-ж спакой у цёмнай магіле,
Ды і з табою, дзяўчынка!

## ПАДЫЙДЗІ...

Падыйдзі, пасядзі, паглядзі
Ў мае вочы, заліты сьлязьмі,
Сьпяі песьню, нуду разьвядзі,
Пачаруй хараствамі сваймі.

Я адзін, мне так смутна! Нуда
Душу муча, сон гоне з павек,
Ты-ж—вясёлая, ты—малада,
З табой быў-бы шчасьліў чалавек.

Ты пяеш—салавейка пяе,
Твар твой—сонца паглёд залаты,
Зоры сьветлыя—вочы твае,
Ты уся—з неба анел сьвяты.

Ты ня йдзеш—к табе думкай бягу,
Табой брэджу на яве і ў сьне;
Прыдзеш ты—гаварыць не магу...
Ты, дзяўчынка, замучыш мяне.

Кажуць людзі, што ты не ў нарок
Ад усіх на сяле найбядней...
На чале на дзявочым вянок—
Ад скрынь золата, скарбаў мілей.

Грошы я пражыву, як нажыў,
Або ўкрадзе благі чалавек;
Твоё-ж сэрца, цябе каб здабыў,
Хто праз цэлы мне выдзера век?

Дык хадзі-ж, ня стыдайся, к грудзям
Сваім белым мяне прыгарні;
Дай мне шчасьця на зайздрасьць людзям,
Сьпяі песьню, нуду разгані.

## ПАКАХАЙ МЯНЕ, ДЗЯЎЧЫНКА...

Плыве рэчачка далінкай,
Рыбак шмат у ей;
Пакахай мяне, дзяўчынка,
Як рыбкі ручэй!

Без вадзіцы-б аніколі
Рыбкі ня жылі;
Без каханьня шчасьця, долі
Няма на зямлі.

Няма з кім дзяліці гора,
Смутку і пацех;
Вылі сьлёз хоць цэла мора,
Чужым будзе сьмех.

Хто-ж кахае, ўсё згадае,
Адчуе душой;
Ня чурайся-ж, дзяўчыначка,
Сэрца мне ўспакой.

Разам будзем жыці ў хатцы,
Разам песьні пець;
Будзе раем сьвет здавацца,
Ўсё праўдай ясьнець.

Атачу сябе з душою
Апекай сваей;
Не зазнаеш ты за мною
Крыўду ад людзей.

Жыцьцё будзе слацца кветкай,
Сонцам заблішчыць;
Гэй, у долі добрай гэткай
Сьлёз ня будзеш ліць!

Пакахай-жа мяне толькі
Усяей душой,
Ня дай з жалю марнавацца,
Сэрца супакой!

## ПЕСЬНЯ

Бяжыць шыбка ручаінка
Па жвіровым дне;
Жыве ў вёсачцы дзяўчынка,
Ўпадобная мне.

Ў ручаінцы днём і ночай
Вадзіца бурліць;
У дзяўчынкі гараць вочы,
Кроў кіпіць, кіпіць.

Эй! так хочацца вадзіцу
З тэй крынічкі браць;
Дзяўчыначку белаліцу
Туліць, цалаваць.

На млын грэбляй ручаінку
Зьдзержу, перайму;
Ненаглядачку дзяўчынку
За жонку вазьму.

Млынок будзе малоць збожжа
Для добрых людзей;
Плакаць жоначка паможа
Ў хатачцы маей.

## З КІРМАШУ

Я іду з кірмашу,
Ногі барануюць,
Вочы ані бачаць,
Вушы ані чуюць.

Ночка намагае,
Да сяла далёка,
Хітра пазірае
Месяц-ляжыбока.

Чорт зашоў дарогу,
Панічом зрабіўся
І на вуха шэпча
Нешта аб Марысі.

Што мне ўсё тут знача?
Панам я сягоньня!
Па калені мора,
Еду на сто коні.

Чорту аплявуху—
Зайцам абярнуўся
І ў лес пакаціўся,
Ані азірнуўся.

Ну, валяйце далей,
Ногі-мімаходы!
Вёска недалёка,
Зажывём выгодаў.

Эх-ці!.. Дома баба
Не прапусьце ціха;
Ну, мы ёй пакажам,
Пачом фунцік ліха!

Як палезе шэльма,
Жалам вельмі дойме,
Скажу, што дарогай
Чорт шаптаў аб ёй мне.

А во ўжо і хата;
Галава ўсё слаба...
Лягу пад паветкай—
Сьпі адна там баба!

## ХАТКА

Пахінулася,
Ў зямлю ўехала
Ты, вясковая,
Хата бедная!..

На страсе тваёй
Мох паношыцца,
Цьмой-лучынкамі
Вокны жаляцца.

А як дзікія
Ветры ўсходзяцца,
Ты дрыжыш уся,
Хатка цёмная.

К табе, мілая,
Не зашоў ніхто
З словам ласкавым,
Дый з пацехаю.

Толькі йдуць к табе
Па мужыцкую
Сілу крэпкую,
Працавітую.

Бедна, хатка, ты,
Але вечная,
І палацы ўсе
Перастоіш ты.

## ПОЛЕ

Поле маё, поле!
Ты мне дарам божым;—
Люблю цябе шчыра,
Абсеяна збожжам.

Люблю тваіх межаў
Стужак рад зялёны,
Роўныя барозны
Шырокіх загонаў.

Люблю цябе, поле,
Вясёлай вясною,
Як ты зарунішся
Ўсякай дабрыною;

Як на табе срыбна
Зацьвіце расіца,
Птушка зашчабеча,
Сонца разгарыцца.

Люблю цябе летам,
Як красуе ніва,
Як шуміць ад ветру
Блогасна, шчасьліва;

Як колас насьпелы
Пад сярпом сагнецца,
І смутная жнеяў
Песьня панясецца.

Люблю цябе, поле,
Ўвосень няскупую,
Як напоўніш пуню,
Ты маю пустую;

Як ты мне за працу
Адплацішся гойна,
Да вясны кналецьцю
Пражыву спакойна.

Люблю тады нават,
Цябе, маё поле,
Як над табой жудка
Зімка заскаголе;

Як пачне сьняжніца
Гурбы насыпаці,
Быццам маё шчасьце
Навекі хаваці.

Поле маё, поле!
Дай-жа ты мне сілы,
Каб цябе любіў так,
Да самай магілы!

## ВЯСНА

У вянку з пралесак,
У сьвятлянай шаце
Ходзе борам-лесам,
Полем, сенажацяй.

Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльлянты, росы.

Сьцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Весела міргае
Сошцы і баронцы,
Зернятка хавае
Ў сьвежай баразёнцы.

У гайкі заходзе,
Шапаціць лісткамі;
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

Роднае прысельле
Вырай любіць вуча,
Лад вядзе ў капэлі
Грамады пявучай.

Сяміцьвет—вясёлкай
Зьзяе над далінкай,
Ходзе за кароўкай,
Гляне і ў хацінку.

Дзяцюку, дзяўчыне
Блогасна ўсьміхнецца,
Штось на вуха кіне,
Закалоце сэрцам.

І усюдых гэтак—
Полем, сенажацяй,
У кароне з кветак,
У сьвятлянай шаце.

## ВЯСЕНЬНЯЯ РАНІЦА

Вясеньняя ночка,
Як стой, праляцела,
І раніца з неба
Сплывае нясьмела.

Сьвет яснасьці ўзмахам
Пачаў дзянёк новы;
Хаваюцца з страхам
Начніцы і совы.

Мільённая зорак
Сямейка заснула,
Праменьнямі сонца
З усходу міргнула.

Туман з сенажацяй
Плыве, расьсяецца;
Звон пута чуваці,
Начлежнік пляцецца.

Ад птушыных песень
Лясы загудзелі,
І лісьце і травы
Ад росаў зардзелі.

Прачнуліся вёскі,
Дым з комінаў вале;
Асьверы, павозкі
Скрыпяць недзе ў далі.

А сонца ўсё вышай!
Жыцьця ўсюды болей...
Плугі і бароны
Зашурхалі ў полі.

Рыкае скацінка,
Іграюць жалейкі;
Над цэлай мясьцінай
Стаіць гоман нейкі.

Усё йграе йззывае
Да працы—аж міла...
Куй, браце, жалеза,
Пакуль не астыла!

## ЛЕТА

Лета ты, лета прыгожа-квяцістае,
Колькі ты ўносіш аздобы з сабой!
Цягнуцца стройна шнуры каласістыя,
Пахне павабна трава над ракой.

Гнуцца на лузе касцы немарудныя,
Дзе-ні-дзе ў постаці серп заскакаў;
Песьня пачулася наская, нудная,—
Рэха панеслася—бор адказаў.

Шум пакаціўся ад лесу адзетага;
Сонца купаецца ў полыску рос;
Эх! каб, здаецца, ды шчасьце да гэтага!
Эх, каб, здаецца, менш гора і сьлёз!..

## ПЯТРОВЫ ЧАС

Вот часіна! вот агніста
Завярцела, закруціла!
Прэ ў палі лугі ўсё чыста,
Ажно глянуць неяк міла.

Сьвішчуць косы у пракосах;
Той грабе, той копы звозе,
Серп гуляе на палосах,
Паўрубень бражджыць на возе.

Ўсюды сіла і ахвота:
Ногі, рукі ходзяць сьмела;
Значна сельская работа,
Пот ня дарма мые цела.

## ЗАВІТАЎ ПЯТРОК...

Завітаў пятрок
К табе, мужычок,
Ты ў шапку ня сьпі,
Коску, знай, кляпі
І вастры, вастры!

Кінуўшы кляпаць,
Ідзі сенажаць
Абкладаць касой,
З расой—не з расой,
З зары да зары.

Жонцы ўзяць сярпок
Гукні, мужычок,
Хай ідзе, бяжыць,
Дзе твой скарб ляжыць,
Дзе з дабром шнуры;

Там хай сноп-у-сноп
Звале многа коп
Серп, рука яе;
Хай жне, хай пяе
З зары да зары.

Лі ты з жонкай пот
За нядолі звод;
Працуй за пяцёх,
Зьбірай, што даў бог,
Карыстай з пары.

Хто улетку з нас
Ня робе ў запас,
Эх, будзе зімой
Бедаваці той
З зары да зары!

## НОЧКА

Лягла туманом
Ночка на дварэ,
Зваяванай сном
Зямлі гоман мрэ.

Пусткаю аднэй
Поле, сенажаць,—
Ня відаць людзей,
Песень ня чуваць...

Пад ляском начлег
Распаліў агонь;
Заяц перабег,
Путам бразнуў конь.

Чуй! трывожыць сны,
Хвілі забыцьця,
Совы, кажаны
Лезуць з укрыцьця.

Недалёкі бор
Абярнуўся ў шум;
Цёмен, глух прастор,
Жудак, повен дум;

Повен ценяў, мар...
Штось трасе душой,—
Нейкі страх і чар
Ноч нясе з сабой.

## СТУЖА ЗБЛІЖАЕЦЦА

Сонца хаваецца ў хмары,
Золкай слатой неба жаліцца,
Каўкі заслалі папары,
Чорна снуюцца, як мары...
Стужа збліжаецца.

Бусел сялібу пакінуў,
К вылету ў вырай зьбіраецца,
Лісьце скідае рабіна,
Так ня бушуе скаціна...
Стужа збліжаецца.

Людзі няўтульна схмурнелі,
Песьні ня так разьлягаюцца,
Дрож прабягае па целе,
Ціснуцца к хаце, к пасьцелі...
Стужа збліжаецца.

Нудна... Сяджу адзінокі,—
Думы дакучна чапляюцца,
Сьніцца край лепшы, далёкі,
Жаль падступае глыбокі...
Стужа збліжаецца.

Глуха прашлі год за годам,
Дні, што ідуць, ня ўсьміхаюцца,
Моладасьць з вольным паглёдам
Гасьне пад горасьці лёдам...
Стужа збліжаецца.

Цёмнасьць расставіла сеці,
Сьлёзныя віхры ўзьнімаюцца.
Губяцца сілы ў расьцьвеце...
Божа, як жутка на сьвеце!
Стужа збліжаецца.

## ЗАЗІМАК

На узгоры, на даліны,
На кусты, на перавалы
Леглі сьнежныя крышталы
Ад пуціны да пуціны.

Як жывыя, зоры-сьведкі
У нябеснай у купелі;
Патанулі далі ў белі,
Засьвяціліся палеткі.

Занямелі песьні, стоны...
Ціха скрозь, як у магіле!
Толькі, выстраіўшы крыльле,
Глуха кракаюць вароны.

Воўк з імшараў выбрыў сонных
На ваколіцу пустую,
І завёў сваю старую
Думу-думаў бяспрытонных.

Рэха вылецела з больлю
Па нізіне апусьцеўшай,
І, да вёскі даляцеўшы,
Задрыжэла ў частаколе.

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

І лягла-ж цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

Сьнег пушаны залёг
На галінах сасон.
І чарнобель, і мох
Атуліў сабой ён.

Сокат птушак замёр,
Як-бы поўнач была,
Адно сьвісьне тапор
Ды зазвоне піла.

Гэта сілу сваю
Так прабуе мужык;
Рухнуў дуб на зямлю,
Як магуч і вялік...

Далей—глуш, цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

## КАТ

І неба цямнейша ад сажы,
І крык далятае савы,
Падводзяць кабеціну стражы:
Ім трэба яе галавы.

Ўжо вісельня к дзелу гатова,
Гатова людзям паслужыць:
Слупочкі і роўны, і новы,
Пятля на пярэчцы вісіць.

Вяроўкаю вецер махае,
Варушыць асіна зямлю,
Ля століка кат пахаджае,
Намыліў сьлізгуча пятлю.

Рыхтуецца сьмелы, ахвочы,
На ўсходцы ахвяру вядзе;
Закрыты кабеціны вочы,
Ланцуг на руцэ і назе.

Кат глянуў на бабу, на неба,
Уніз на людзей, на зямлю.
Пятлю залажыў, як і трэба,
Пятлю ён на шыю... сваю.

Кабета зьляцела з усходаў,
І столік за ёю зьляцеў,
Пачуліся крыкі з народу,
Што тут-жа стаяў і глядзеў.

. . . . . . . . . . . . . .

Хістаецца труп на вяроўцы;
Кабета прыпала да ног,
І вырвалась страшнае слоўца:
„Сыночак, мой родны сынок!..“

А неба ўсё чорна, як сажа,
І крык далятае савы,
Падводзяць кабеціну стражы:
Ім трэба яе галавы.

## КУРГАНЫ

Як хмурын пагляд туманны,
Як заўцы-званы,
На няцьвіўшыя паляны
Леглі курганы.

Як на белі плесьні-плямы,
Як зрубы-зьвяны,
Сярод выдмаў, сярод ямаў
Дрэмлюць курганы.

Хто калі туды загляну,
Дзе ляжаць яны,—
Як хмурын пагляд туманны,
Сумны курганы.

Хто зачэпіцца іх межаў,
Хто чапне іх сны,
Як званы на цёмнай вежы,
Стогнуць курганы.

Дзівам дзіўлюцца з праяваў
Маткі ды сыны:
Скуль такую ўзялі славу
Насыпы-курганы?!

## ПАМЯЦІ С. ПАЛУЯНА *)

Куды ідзём?.. куды пракляцьце нас вядзе?
Якія далі здабываем?
Дзе гарт, надзея, вера ў будучыну—дзе?
Чым сэрцы, думы акрыляем?

Няшчасны край! чым быў, чым стаў, чым будзеш ты
З сваім век стогнучым народам?
Як нёс—нясеш ярмо упадку, сьлепаты,
І зьмен чакаеш год за годам.

Чакаеш ты... а толькі жалабы ўсё чуць;
Асот уеўся ў твае гоні;
Сыны твае загубе сілы аддаюць,
Губляюць косьці ў бяспрытоньні.

Сьцяжыны замкнуты туды, дзе ясны быт
Душы ня кідае ў бадылі;
Шырок гасьцінец вечна толькі чыст, адкрыт
К шынку, вастрогу і магіле.

З канца ў канец залеглі толькі туманы,
Адвагу выгнала трывога:
З-пад хмар зьлятаюцца на жыр свой груганы,
Над гэтай грагаюць пажогай.

Куды ідзём?.. У паніжэньні, ў цемнаце
Яшчэ адно загасла сэрца,
Хоць так прыветна біла зорам, яснаце,
Як толькі душ вялікіх б'ецца.

Ня стала сіл змагацца з блудам векавым,
Змагацца з доляю няшчаснай,
На радасьць недругам, на жаль нямы сваім
Прыбыў курган, курган напрасны.

*) С. Палуян—адзін з першых таленавітых беларускіх публіцыстых, рэволюцыянэр па перакананьнях. *Рэд.*

Так мала жыў, а столькі ўжо рабіў надзей
Сваім паглядам няштодзенным!
Якіх ня роіў сноў аб старане сваей,
Як верыў ў свой народ нязьменна!

Як верыў, як да родных рваўся ніў і сёл
З душой і сэрцам беларуса!
Любіў даль сьветлага прывольля, як арол,
Ня знаўшы думам сваім мусу.

Шукаў ўсё праўды між чужымі і сваймі.
І ўсюдых праўду гэту гналі;
Адзін-адным стаць мусіў сам паміж людзьмі,
У думках мкнучы выжай, далей.

Для беларускіх грамадзян байцом, слугой
Так шчырым быў, а грамадзяне—
Эх! ніткаю к пятлі плацілі не адной,
Хоць колькі ўздоху ў час расстаньня...

О, стыд і ганьба вам, сьляпні, што сілам маладым
К жыцьцю гародзіце запоры!
Пагардай вам патомак плюне ў вочы ўсім,
Пракляцьцем памяць абгавора.

За што, чуць-чуць прабуды зьява к нам зышла,
А ўжо сьляды крыжамі знача?
За што расіць аўтар свой кроўю пачала?
Зірнула мараю звадзячай?

Зышоў ваяк за долю, славу і народ,
Пяском засыпалі жвіровым.
Сьпі, мой таварыш, сьпі! надойдзе новы ўсход,
І брат заплача добрым словам.

Сьпі, дружа мой, сявец у родных слоў сяўбе
Па нашай дрэмлючай старонцы!
Няхай зямелька будзе лёгкай для цябе,
Як лёгка рваўся ты да сонца.

## ПРОФЭСАРУ Б. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЕ З НОВЫМ 1910 ГОДАМ*)

Дружным ходам, год за годам
Зважна ўдаль ідзе, брыдзе:
То заплача, то заскача
Ў вечным ходзе, ў чарадзе.

І „дзевяты“ сходзе з хаты,
Кіне наша поле, луг;
Як на слова, годзік новы
Новых дзён вядзе ланцуг.

Зрокся трону і кароны
Сумны, трудны той „Стары“,
„Новы“ сядзе на пасадзе
Да сваёй гуляць пары.

Што прыносе: ці калосьсе,
Ці благое зельле нам?
Сіл ня маю, не згадаю:
Як пяройдзе—скажа сам.

З гэтым „Новым“ шчырым словам
Я віншую ў добры час:
Жычу Вам я несканана
Год бяз ліку жыць між нас!

Між сваімі ці чужымі
Жыць ды шчасьця нажываць;
Далей знаньня прасьвітане,
Як дагэтуль, засяваць!

Бо далёка, з рукі лёгкай,
Вольны, ясны мкне прасьвет;
Будзе ўнуку жыць ня штука,
Лягчэй будзе, як жыў дзед.

---

*) Б. Эпімах-Шыпіла—беларускі культурны дзеяч, які сваімі малымі заработкамі падтрымліваў беларускіх пісьменьнікаў у крытычныя моманты іх жыцьця. *Рэд.*

Глянуць зоры на прасторы,
Сонца стопіць путаў лёд;
К нам у сваты, з хат у хаты
Сьмела гляне новы ўсход.

Так, хто праўдай, чынам, радай
Ходзе спольна ў грамадзе,
Гоне ўпрочкі цемру ночкі,
Як ніколі, як нідзе.

За ўсю-ж працу ні палацаў,
Ані скарбаў не чакай;
Толькі будзе славы ў людзе,
Славіць будзе родны край!

А хтось гікне, дзіка рыкне
На бліск сонцавы жывы,—
Гэта стогны гадзін чорных,
На сьвітаньні крык савы.

Дружным ходам, год за годам,
Чараду затопе дзён,
З імі зводы, непагоды,
З імі ўсё міне, як сон.

## ПАМЯЦІ Т. ШАЎЧЭНКІ

*(25 лютага 1909 г.)*

Сягоньня на Ўкраіне вялікае сьвята:
У дзень гэты радзіўся тварэц „Кабзара“.
На ўсіх і павага, і стройныя шаты,
І песьні ня моўкнуць свайго песьняра.

Праслаўнаму бацьку ўкраінскай прасьветы
Паклон б'е разбуджана ўся старана,
Дняпровыя воды талкуюць аб гэтым,
І думае думу стэпоў цішына.

Пясьняр-кабзарысты нікім не забыты,
Як жыў дзеля песьні, так з песьняй ня ўмёр:
Здабыў сабе славу ня з мармурнай пліты,
А з слоў, што ня крыша ні век, ні тапор.
. . . . . . . . . . . . . . . . *)

Бываюць упадкі,—люд стогне балесьне;
Пясьняр паявіўся, і ўцехі зьвіняць;
Пясьняр умірае... а песьня?.. а песьня?..
Эх! каменю толькі ня дана паняць.

Жыве гэта песьня, як віхар клакоча
Над лесам магілішч, над цьмою бяжыць,
Зрывае запоры і брамы ламоча,
І крыўда нямее, і змога дрыжыць.

Калісь воклік песьні і сьвет нам адмене,
Адслоне другія пуціны жыцьця,
Шчасьлівасьці яснай узойдуць праменьні,
Аквеціцца доляю лепшай зямля.

Дык дай-жа чэсьць песьні на Ўкраіне! за Ўкраінай
Той кожны, хто праўды ня здрадзіў жывой;
І ўспомніце „бацьку“, што пеў нязвычайна,
Што славе ўкраінскай служыў усёй душой.

---

*) У першым выданьні ў гэтым месцы выкінута выдаўцом дзеля цэнзурных варункаў дзьве чатырох-радковыя звароткі. За адсутнасьцю рукапісу, гэтая пробель застаецца і ў цяперашнім выданьні. *Я. К.*

О, слаўны ўкраінча. сын верны народу!
Ты роднага слова ў сябе ня глушыў,
Цярпеў і вучыў, як цярпець у нягодах,
Аж люд твой паняў, чаго ты яго ўчыў.

На поўдзень, на поўнач, на ўсход, захад сонца,
На кобзах людзкіх душ твой грае „Кабзар“,
У хатцы, ў палацы, ў цямніцы, ў карчомцы
Калоціш ты сэрцы, як звонам званар.

І к нам тваё слоўца ня раз далятала;
Мы слухалі ўцешна, што бае сусед.
Цяпер-жа нясём ліст к вянку тваёй хвалы,
Прымі, брат, і наш беларускі прывет!

## ЗАМКОВАЯ ГАРА

*(з Віленскіх абразоў)*

Над Вільлёй ракой,
Па гары крутой
        Туман сьцелецца;
Ні-то лом-ламок,
Ні-то дом-дамок
        Там віднеецца.

Слаўны Гэдымін,
Князь Літвы—літвін,
        Душа чынная,
Многа лет таму,
Ў гэтым жыў даму,
        Жыў з дружынаю.

Горда мур глядзеў
На зямлю, як леў,
        Сьцяной крэпкаю;
Не аднэй бітвы
Тут сыны Літвы
        Былі сьведкаю.

Сышоў век, другі,
І князі, багі,
        Ўсё Літоўскія,
Уцяклі з зямлі,
І дзянькі пашлі
        Нетакоўскія.

Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур,
        Цэгла валіцца;
Нават гнёзды віць
Птушка не ляціць,—
        Знаць, пужаецца.

Адно йдуць сюды
З гарадзкой нуды
Адказеліцца
Бедната і „знаць“—
Віды аглядаць,
Што ў ног сьцелюцца.

Ды, як згасьне дзень,
Ночкі ляжа цень
Над дамочкамі,
Людзкіх шэптаў тут
Повен кожны кут
Пад кусточкамі.

А сівою мглой
Па гары крутой
Туман сьцелецца;
Ні-то лом-ламок,
Ні то дом-дамок
Там віднеецца.

## КРУГАВАРОТ

Нічога вечнага на сьвеце
Няма для шумнага жыцьця,
Здарэньні, многія сталецьці
Ідуць пад века забыцьця.

Устае рой новых пакаленьняў;
Старыя сходзяць на той сьвет;
Нягодны ўнуку ўжо тварэньні,
Якія меў на ўслугах дзед.

Марнеюць сільныя народы;
Бяруць слабейшыя гару;
Нянавісьць, бітвы, непагоды
Туманяць радасьці зару.

Ня раз крывавыя паляны
У душу чуткую ліюць жаль,
За бліскам славы разгуканы
Дух чалавека рвецца ўдаль.

Ствараюць з золата бажышчы,
Ідуць адны к ім на паклон,
Другіх шамочаць бед ігрышчы,
Нясецца стон з усіх старон.

Нязнанай сілай правіць сьветам
Пачатак, бытнасьць і канец;
Народ таўпехаецца ў гэтым,
Як стада зблуканых авец.

## МАЯ ХАТА З КРАЮ

Дзе зьвярнуся, сяк і так —
Баюць мне ў трывозе:
Як мядзьведзь ты сьпіш, бядак,
У сваёй бярлозе.

З гэткіх баек проста сьмех —
Рукою махаю;
Ці-ж-бы спаці было грэх?..
Мая хата з краю.

Без яды адзін брат ссох,
Другі чахне ў латах,
Трэці з торбай на плячох
Кляне так-жа брата.

Я сьмяюся з іх усіх,
Рукою махаю;
Вот сваяцтва—а ну іх!
Мая хата з краю.

Родзе шнур, як там ні сей,
Адны недахваткі;
Кут нявучаных дзяцей,
Хлеба ўжо астаткі.

Думак вельмі ня сушу,
Рукою махаю;
Віп'ю, рэдзькай закушу,—
Мая хата з краю.

Маю родну мову, край—
Кажуць мне так людзі,—
Толькі выпрастайся, знай,
А твой верх тут будзе!

Праўда—штось як чужняком,
Кожны мной піхае;
Ці-ж адным мной? Эй, Арцём,
Твая хата з краю!

Каб было меней магіл,
А вясельляў болей,
Кожны рвецца з усіх сіл
К сьвятлу, славе, долі...

Лезьце, лезьце!.. я-ж пры чом?
Рукою махаю,
Добра мне і пада дном!
Мая хата з краю.

Гэткім спосабам жыцьця
Век свой дажываю.
Вось і песьня мая ўся!
Як і ўсё, ўміраю.

На магілкі і крыжы
Рукою махаю,
Далі хату—знай ляжы!
Але і тут з краю.

## СЬВЯТАЯ ПРАЎДА

„О, колькі гора з водкі ў нас!
Хто з ёй ня стаў гол, як той кол?“
Сказаў з павагай Апанас,
„Паўкварты“ ставячы на стол.

„Сьвятая праўда, мой кумок!
З павагай Юрка патакнуў,
І, ляк скідаючы на бок,
Другую „кварту“ адаткнуў.

## ЧАРЫ

Покі Юрка ня меў чына,
Быў нішто сабе дзяціна,
Пасуседзку ў сваёй хаце
Жыў з людзьмі і керзаў лапці.

Зьбеглі годы чарадою—
Ён сягоньня старшынёю,
І братом з сваёй-жа вёскі
Падбівае ўжо падноскі.

## БОТ І ЛАПАЦЬ

Раз прытычкі лапцю бот
Сыпаць стаў, як жменяй:
„Я—павага!“—кажа ён,
„А ты што?—дрэнь дрэняй!“

Яму-ж лапаць: „Эй, пакінь
Так хлусьціці ласа!
Я. хоць дрэнь, дый толькі з лык,
А ты злуплен з мяса“.

## ДВА БРАТЫ

I

Былі два браты,
Два разбойнікі;
Шмат рабілі зла
Неспакойнікі.

Як пойдуць гуляць,
Расхахоляцца,
Задрыжаць усе,
Ўся ваколіца.

Ні прайсьці нідзе,
Ні праехаці;
Б'юць паклоны ім
Людзі нехаця.

Сіла—воля іх
Ня ўнімаецца,
Гонар—слава іх
Разрастаецца.

II

Так жывуць сабе
Два разбойнікі,
Разгульным жыцьцём
Неспакойнікі.

Дый ня вечна ўсё
Ў нас пад зорамі:
Закруціла штось
Непакорамі.

Хоць іх сэрца—сталь
Недаступнае,
Хоць душа—скала
Непадкупная,

Вочкі, грудзі—чар
Напаткаліся;
Уваднэй удвух
Закахаліся.

III

Зажылі браты,
Два разбойнікі,
Ўжо другім жыцьцём
Неспакойнікі.

Хараствы касы,
Іх занадзілі;
Між сабой, як стой,
Не паладзілі.

Ня дубы скрыпяць
Сукам, лісьцямі,—
Два байцы-сьмяльцы
Ненавісьцямі.

І пашлі ім так
Дні няшчасныя,
Пачалі з сабой
Бойку страшную.

IV

Б'юцца, б'юцца ўдвух,
Два разбойнікі,
За красу-касу
Неспакойнікі.

Зоркі—сьведкі ім
Прыглядаюцца,
Шумам цёмны бор
Падзіўляецца.

Дзень ужо мінуў,
Вечарэецца,
Барацьба ўсё іх
Паланеецца.

Чуць на ўсход другі
Занімалася,
Два браты з жыцьцём
Разьвіталіся.

V

Доўгі спалі час
Два разбойнікі
У сваёй крыві,
Неспакойнікі.

Нават тая іх
Двух забылася,
За якую так
Яны біліся.

Пакуль неяк раз
Аднaногія
Шлі мясьцінай тэй
Два убогія.

Рыюць яму-глыб
Непацешныя,
Аддаюць зямлі
Косьці грэшныя.

VI

Дзе сягоньня сьпяць
Два разбойнікі,
Там курган стаіць,
Кругом хвойнікі.

Той курган расьце
Відавідаю,—
Хто ідзе тудой,
Ветку кідае.

Хто ідзе падчас
Каля поўначы,
Страха ўбача там,—
Моліць помачы.

Так ляжаць браты,
Два разбойнікі,
І па сьмерці ўсё
Неспакойнікі.

## ЗА ЧУЖУЮ ЕЛКУ

I

Было гэта, было гэта...
Ну было і квіта!
Жыў у вёсцы ў сваёй хаце
Мужычок Мікіта.

Меў ён жонку Міхалінку,
Меў дзяцей з сямёра,
Меў кароўку, меў кабылку,
І тачок з падпорай.

Сэрца меў ён залатое,
Быў з пакоры знаны,
Не бяз грэху, каб і ў чарку
Часам не заглянуў.

Вёў вайну ён век з бядою;
Мацавала гора;
Лыкне чарку, лёгка стане,
Па калені мора!

Жонка часам пачне лаяць,—
Сойдзе бабе з вока.
Адным словам, жыў Мікіта
Лёгка і нялёгка.

II

Проста, накас, скокам-бокам
Жылося, вялося,
Але, як кажуць, да часу
Жбан вадзіцу носе.

Над зямлёй засела восень,
Холадна, плаксіва;
Ліпа лісьце паскідала;
Зьвяла ўроду ніва.

Хмары неба абляпілі,—
    Каб зірнула сонца!—
Золь, слата, што ня дай божа!
    Б'еццa у ваконца.

І старэйшым і малейшым
    Стужа дакучае,
А ў Мікіты—каб паленца,—
    Што рабіць?—ня знае.

Думаў доўга. Што тут думаць?—
    Лес не за гарою...
За сякеру—ды ў бор панскі
    Сыпе пехатою.

III

Ой, багата лесам-пушчай
    Нашая старонка:
Ў само неба так і лезе
    Сосна за сасонкай.

Дубы, вязы, елкі, хвойкі
    Хто зьмера, хто зьліча?
А як шумам загамоняць,
    Так к чамусь і клічуць.

К аднэй елцы і Мікіта
    Падышоў з уцехай
І давай мацаць сякерай,
    Толькі стогне рэха.

Сячэ сьмела і ня дбае,
    Што прышоў к чужому;
Знаў, што ў лесе хто ня злодзей,—
    Не гаспадар дома.

З гукам рухнула дравіна,
    Ажно бор затросься.
Стаў Мікіта сабірацца
    Дамоў па калёсы.

IV

Каля лесу на пляцоўцы.
Між кустоў калматых,
Падкасіўшыся стаяла
Лясьнікова хата.

Жыў лясьнік у гэтай хаце
Грышка Валівода,
Чалавек не самавіты,
Хоць і мужык родам.

Усім вёскам па суседзтву
Добра ў знакі даўся:
Праз яго там і ў вастрозе
Не адзін збадзяўся.

Зубы на яго тачыла
Бедакоў ня мала.—
Лясьніковая дасьціпнасьць
Косткай усім стала.

І цяпер вось, як на ліха,
Падслухаў Мікіту:
За стральбіну, і так вале
З мінаю сярдзітай.

V

„Ты што робіш гэта, злодзей,
Начною пароюр?“
Наш Мікіта неўспадзеўкі
Чуе над сабою.

„Што раблю я?.. Сяку дрэва!“
Кажа ён пакорна,—
Таго як-бы і ня кеме,
Што у пушчы дворнай.

„А хто-ж, гад, табе пазволіў
Панскі лес пустошыць?
За такую, шэльма, штуку
Мала і ўкакошыць.

Давай, чорт, сваю сякеру,
А то кепска будзе!"
Лясьнік лезе да Мікіты
І бярэ за грудзі.

Штось Мікіта зноў адцяўся,
Зноў лясьнік ня змоўчыў,
І давай абое драцца,
Поўны злосьці воўчай.

VI

Хмурна неба: дожджу каплі,
Як сьлёзы ліюцца,
А Мікіта з Валіводай
Ня кідаюць, б'юцца.

Раптам выстрал пакаціўся,
Як сказаці слова,
Далей ціха... адна пушча
Гамоне нанова.

Шуміць пушча, шуміць важна
На усе староны,
Быццам хоча заглушыці
Усе няшчасных стоны;

Быццам хоча сказаць сьвету
Дзерава лясное,
Як ідзе несправядліва
У нас жыцьцё людзкое;

Як на чорнай на зямліцы
Грэху ня ўбывае...
Ох, ты пушча! Праўду баіш,
Пушча няжывая.

VII

Ніхто ўжо Мікіту болей
На сяле ня бачыў,
Дарма сем сіротак кліча,
Дарма ўдоўка плача.

Сьпіць гаротнік сном вячыстым;
Крыж уеўся ў грудзі.
Сьпі! К людзям ты ўжо ня прыдзеш—
К табе пойдуць людзі.

З часам праўда наверх вышла,
Што рэдка між намі,
І сягоньня Валівода
Звоніць ланцугамі.

Аб тым месцы ходзяць байкі,
Дзе Мікіта згінуў;
Страшна езьдзіць і праходзіць
Начною часінай.

. . . . . . . . . . . . .

Так прапала людзей двое
Праз дабро чужое;
І спытайся-ж, божа мілы,
За што, за якое?

## ШЧАСЬЦЕ

I

Ты гаворыш, суседзе, што на сьвеце ўсё едзе
Крыва, накас, ня так, як патрэба,
І што ў гэтай круцёле вінна нашая доля,
І то сонца, што сьвеце нам з неба.

Эй, сьмяешся ты хіба, мой гаротны Кандыба,
Растлумачу я ўсё тут іначай:
Самі мы вінаваты ў нашай долі праклятай,
Ў тым, што век мы бядуем ды плачам.

Глянь, во англік ці немец!—яны ўсё ўмеюць скеміць*)
Ім і шчасьце і радасьць пакорны;
Мы ляжым, як мядзьвёдкі, як гнілыя калодкі,
І нас топча, хто болей праворны;

Сьпім сабе, ані дбаем, палягчэньня чакаем,
Быццам з неба нам зваліцца тое;
За нішто сходзяць сілы, прыбываюць магілы,
Што раз меней прастору, спакою.

Дзе ня кінеш ты вокам, прэцца ўсё шыбкім крокам,
К чамусь рвуцца, штось хочуць народы;
Калі-ж з нас хто прачнецца, то яму ўжо здаецца...
Але слухай аднэй вось прыгоды.

II

Пад гайком, пры дарожцы, знаў я хлопца у вёсцы,
На сяло ўсё быў гэты дзяціна;
Дужы, стройны, прыгожы, працу ўсякую зможа,
Ласку меў не ў аднэй і дзяўчыны.

Кажуць, хто з доляй зжыўся, той у чэпку радзіўся,
Янка мой, знаць, яшчэ і ў кашулі:
Бацька, маці любілі, з кніжкай знацца навучылі,
Часта грош які меў і на гулі.

*) У часы пісаньня вершу (1910-1911 г. г.) поэта ссылаўся на ангельцаў ды немцаў, як на вольных людзей, у параўнаньні з няволяю расійскага самадзяржаўя. *Рэд.*

Ён адзін у іх дзетак, дык ня дзіва, што гэтак
Папясьціць яго часам любілі,
Пакуль з гэтых пяшчотаў не спагнаў тэй ахвоты;
Пакуль злы яго дух не асіліў.

Стаў глядзеці ён крыва, на хаціну, на ніву,
Стаў глядзець ён ні хамам, ні панам:
Стала стыдна сярмяжкі, пры сасе працы цяжкай,—
Пацягнула яго ў край нязнаны.

І аднэй вось нядзелі, толькі ўстаўшы з пасьцелі,
Стаў зьбірацца наш Янка ў дарожку;
Дарма маці хліпоча, дарма бацька біць хоча,
Ён спынуўся з хатомкай за вёскай.

III

І пашоў ў сьвет шырокі, ў сьвет няпэўны, далёкі,
Ад дамашняй шукаць лепшай долі,
А сьвет, знаеш, мой братка,—то ня родная хатка:
Усяго ў ім зазнаеш даволі.

Мы, вясковае племя, менш пры чарцы задрэмем,
А як прыдзе лоб ставіць прашкодзе,
То тады, як у ночы, толькі лыпаюць вочы,
Гінем марна, як крыгі ў разводзьдзе.

Не скажу, каб мой Янка шэльмай быў бязустанку;
Ў той-жа час за сялом зажурыўся,
Бо хто-ж ёсьць так нягодны, не заплача па роднай,
Па старонцы, дзе ўзрос, дзе радзіўся?

Калі выйдзеш, дарогаў туды-сюды—ой многа!
Толькі наш брат іх выбраць ня ўмее,—
Ходзе, мерыць што сілы—бач і блудзе, аж міла—
Меў надзею, згубіў і надзею.

Гэткіх сьцежак меў спорна і мой зух непакорны;
Як та рыба, ня раз аб лёд біўся,
Піў насьмешкі і сьлёзы, быў і п'ян і цьвярозы,
Жыў на возе, пад возам круціўся,

## VI

Зьбеглі многія леты за час доўгенькі гэты;
Многа хмар пераехала небам;
Той радзіўся, хрысьціўся, той навек паваліўся,
Той шоў з хаты за шчасьцем, за хлебам.

Лет дзесятак нялёгка пражыў Янка далёка
Ад месц тых, дзе яшчэ бегаў дзіцем.
Але дзе ён ня ходзе, нуда песьню заводзе,
Не дае свайго кута забыці.

З нізкай прызбай хацінка, шнур з вясёлай збажынкай,
Ці шуміць лес, ці рэчка плюскоча,
І зямелька, і зоры, ўсё аб родным гавора,
Спаць ня раз не даюць і уночы.

Жыў і ўсё-ж не спаткаўся з доляй тэй, к якой рваўся,
Ці ня лепей было сядзець дома?
сабраўся ў дарогу к свайму Янка парогу,
Не гаворачы слова нікому.

Ідзе, ногі зьмяняе, ў сэрцы радасьць такая,
Песьняй свойскай душу пацяшае;
Толькі горы і долы, і паляны, і сёлы
Усё чужыя з падскокам мінае.

## V

Эй, вы, родныя нівы! Эй, ты, бор гутарлівы!
Эй, вы, ўбогія родныя вёскі!
Вас да самай магілы любіць трэба што сілы,
З вамі гэтак прыгожы сьвет боскі!

Нашто скарбы чужыя, калі дома такія
Ўвакруг з нашым жыцьцём зіхацяцца?
Толькі трэба умеці злое ўсё адалеці,
Толькі трэба бядзе не давацца.

Працай шчырай і знаньнем гору справім скананьне;
Праўдай лёгка няпраўду змагаці,
І на вузкіх на гонях пры сваіх валох, конях,
Ой, шмат можна чаго даказаці!

І ты, брат сьлёзнавокі, што ў сьвет рвешся далёкі,
Вазьмі толькі кругом агляніся!
Ці-ж ня праўда, як сонца, што мы ў нашай старонцы
З усім неяк зрасьліся, зжыліся?

Пух сьняжаны зімою, шчэбет птушак вясною,
Летам поля краса, шум ігрушы;
Ўвосень сьпелая ўрода і шнуркоў, і гародаў,
Гэта ўсё толькі камня ня ўзруша.

## VI

Прэць Янук пехатою,—свой кут не за гарою;
Сэрца б'ецца, як выскачыць хоча.
Вот і вёска, вот брама, стаіць хатка таксама!
Вот вашоў, „пахвалёны" бармоча.

К яму зараз у хаце: „чаго хочаш, мой браце?
Як відаць, мусіць ты заблудзіўся".
Янка глянуў, аж млее, пытаць сьмее, ня сьмее:
„Людцы добрыя, я тут радзіўся!

Тут мая... наша хатка, тут мае—бацька, матка,
Мая моладасьць тут уплывала".
А яму зноў зьнянацку: „на тым сьвеце твой бацька,
Ўтрымаць хатку сіл матцы ня стала.

Яна ходзе, жабруе, пад вугламі начуе,
Ўспамінае і мужа і сына.
Ну, чаго так стаў бледны? Бачым—бедны, ты бедны!
А ўсё-ж месца няма тут, дзяціна".

Як кляшчамі, ня міла Янку штосьці здушыла;
Вышаў з хаты са слоўцам „бадзяка",
І на прызбу зваліўся, сьлязьмі горка заліўся,
Аж груган недзе ў высі закракаў.

## VII

Плача Янка крывава,—думкі, шчасьце і слава
Недзе зьбеглі у чыстае поле;—
Ціха ўстаў, азірнуўся і—ў карчомку папхнуўся
Заліваць сваю долю-нядолю.

Заліваў ды ня надта, знаць, з нудой мог праклятай
Ваяваць сваім сэрцам збалелым;
Гнуўся, што раз—то ніжай, пад жыцьця цяжкім крыжам,
Аж змарнеў так душою і целам...

Было, помню я гэта, на пачатку штось лета;
Ўся зямля хараством красавала:
Поле кветка здабіла, неба птушка хваліла,
Пры жывёле жалейка іграла.

Я шнурок свой абходзіў, прыглядаўся уродзе,—
(Мой надзел быў ля самай дарогі);
Бачу,—гмін люду пхнецца, а з ім Янка пляцецца—
Толькі ў путах і рукі і ногі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер думай, што воля,—вінен Янка ці доля?
Дзе тут шчасьце за хатай ці ў хаце; —
Самі шмат мы ў праклятай славе тэй вінаваты,
Што ня ўмеем злой долі змагаці.

# Зьмест „Жалейкі“

# Зьмест „Гусьляра“

## ТВОРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ.

ЖАЛЕЙКА, збор вершаў, 154 стар. Пецярбург, 1908 г. *(Распрадана).*

АДВЕЧНАЯ ПЕСЬНЯ, сцэнічная поэма ў XII-х зьявах. 32 стар. Пецярбург, 1910 г. *(Распрадана).*

HUSLAR, збор вершаў, 80 стар. Пецярбуг, 1910 г. *(Распрадана).*

ШЛЯХАМ ЖЫЦЬЦЯ, збор вершаў, 272 стар. Выданьне 2-е. Вільня, 1923 г.

СОН НА КУРГАНЕ, сцэнічная поэма ў 4-х абразох, 100 стар. Пецярбург, 1913 г. *(Распрадана).*

СПАДЧЫНА, збор вершаў, 224 стар. Менск, 1922 г.

ПАЎЛІНКА, сцэны з шляхоцкага жыцьця ў 2-х актах. Выданьне II-ое (у „Зборніку сцэнічных твораў“, сшытак II-гі). Менск, 1918 г.

РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО, драма ў 5-х актах, 74 стар. Вільня, 1919 г. *(Распрадана).*

ПРЫМАКІ, сцэнічны жарт у 1-м акце. У часопісі „Рунь“, №№ 5-6 і 7-8 за 1920 г. і ў „Сцэнічных творах“ кніжка першая. Менск, 1923 г.

ТУТЭЙШЫЯ, трагічна-сьмяшлівыя сцэны з менскага нядаўнага жыцьця, у 4-х дзеях. У „Полымі“ № 2 (10) і 3 (11). Менск, 1924 г.

ПЕСЬНЯ АБ ПАХОДЗЕ ІГАРА, поэма. У часопісі „Вольны Сьцяг“, №№ 5 і 6 за 1921 г.

ЭРОС І ПСЫХА, сцэнічная аповесьць у 7-х разьдзелах, Ю. Жулаўскага. *Пераклад* з польскае мовы. *(Прыгатавана да друку).*

ГАЛЬКА, опэра Монюшкі. *Пераклад* з польскае мовы. *(Прыгатавана да друку).*

### У ПЕРАКЛАДЗЕ НА РАСІЙСКУЮ МОВУ:

Янка Купала, белорусский поэт. ИЗБРАННЫЕ СТИХОТВОРЕНИЯ В ПЕРЕВОДАХ РУССКИХ ПОЭТОВ. 112 стр., Москва, 1919 г.









